НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

ВАЛЯНЦІН ГРЫЦКЕВІЧ

# ЭДУАРД ПЯКАРСКІ

БІЯГРАФІЧНЫ НАРЫС



МІНСК «ПОЛЫМЯ» 1989

ББК 81.2Я
Г 91

Прадмова *К. І. Тарасава.*

Рэцэнзент

старшы навуковы супрацоўнік ІМЭФ АН БССР
кандыдат гістарычных навук *Г. А. Каханоўскі*

Автор рассказывает об уроженце Белоруссии Э. К. Пекарском, который в конце XIX века за революционную деятельность был на 25 лет сослан в Якутию. Мужественный ссыльный не только преодолел все невзгоды жизни в суровом краю, но и совершил настоящий научный подвиг, создав фундаментальный труд — словарь якутского языка с описанием быта, верований, культуры северного народа.

**Грыцкевіч В. П.**

Г 91 Эдуард Пякарскі: Біягр. нарыс. — Мн.: Полымя, 1989.—96 с.: Іл.—(Нашы славутыя землякі).
ISBN 5-345-00057-3.
Грицкевич В. П.
Эдуард Пекарский: Биограф. очерк.

Аўтар расказвае пра ўраджэнца Беларусі Э. К. Пякарскага, якога ў канцы XIX стагоддзя за рэвалюцыйную дзейнасць на 25 гадоў саслалі ў Якуцію. Мужны ссыльны не толькі пераадолеў усе нястачы жыцця ў суровым краі, але і зрабіў сапраўдны навуковы подзвіг, стварыўшы фундаментальную працу — слоўнік якуцкай мовы з апісаннем побыту, вераванняў, культуры паўночнага народа.
Шырокаму колу чытачоў.

**Г $\frac{4602000000-148}{М306(03)-89}$ 11—89** **ББК 81.2Я**

ISBN 5-345-00057-3 

# ПРАДМОВА

Аўтар прапануемай чытачу кнігі — вядомы гісторык, які выдатна ведае даўніну некалькіх разгалінаванняў гістарычнай навукі: мінулае медыцыны, геаграфічных адкрыццяў, незвычайных падарожжаў, старажытнай мінуўшчыны Беларусі. Але ў дадатак В. Грыцкевіч адораны рэдкім талентам — папулярызатара гісторыі, яе выдатных падзей і славутых асоб. З архіўных скарбніц, якія для большасці людзей — такая ж таямніца, як і славуты скарб Напалеона, схаваны недзе на дне аднаго з беларускіх азёр, В. Грыцкевіч ужо шмат гадоў адбірае і паказвае нам здабыткі нашых продкаў, якія запальваюць у сэрцы гонар за Радзіму, прагу да ведаў, пачуццё адказнасці за яе будучыню і гонар.

Чытач добра ведае творчасць Валянціна Грыцкевіча па кнігах «Шляхі вялі праз Беларусь» (напісана разам з літаратуразнаўцам Адамам Мальдзісам), «Ад Нёмана да берагоў Ціхага акіяна», прысвечанай беларусам, што шмат зрабілі для культурнага асваення і развіцця Сібіры і Далёкага Усходу, асабліва ў мінулым стагоддзі.

Кніга «Эдуард Пякарскі», якую зараз трымае ў руках чытач, належыць да жанру біяграфічнай эсэістыкі. Чым яна цікавая? Перш за ўсё, асобай самога героя — нашага земляка, ураджэнца Міншчыны, рэвалюцыянера, сасланага царскімі ўладамі ў 1881 годзе ў далёкую Якуцію. Там Пякарскі прабыў 24 гады — трэцюю частку свайго жыцця. Гэта былі цяжкія гады, але Пякарскі

насуперак нягодам не толькі выжыў, але зрабіў, не пабаімся гучных слоў, навуковы подзвіг — стварыў слоўнік якуцкай мовы, выдаў тры тамы «Узораў народнай літаратуры якутаў». За гэтыя працы вучоны быў узнагароджаны залатымі медалямі Акадэміі навук і Рускага геаграфічнага таварыства, а імя яго набыло сусветную вядомасць. Адзін з заснавальнікаў якуцкай літаратуры А. Е. Кулакоўскі ўдзячна пісаў Пякарскаму: «У нас не было літаратуры, а ваш слоўнік павінен паслужыць падмуркам для яе стварэння... Вы сапраўды заслугоўваеце імя «бацькі якуцкай літаратуры». Без вас не знайшлося б асобы, у якой хапіла б дзёрзкасці прыняць на сябе такую каласальную працу, як ваш слоўнік».

Біяграфія Пякарскага дае яскравы прыклад таго, як дабрыня, добразычлівасць, вера, энтузіязм запаляюць пуцяводную зорку. Чалавек, у сэрцы якога не згасае пачуццё справядлівасці, які не паддаецца абставінам, які хоча перайначыць крыўду на праўду, такі чалавек стварае вакол сябе прыцягальнае поле. Праца Пякарскага акрыліла на добрыя справы сотні якутаў.

І яшчэ адзін момант хочацца падкрэсліць у кароценькай прадмове. Гэта высакародства, прыроджаная інтэлігентнасць асобы Пякарскага, ягоная павага да якутаў, абарона іх культуры, шматгадовая праца на народ, прыгнечаны царскім урадам. Жыццё Пякарскага дае нам узор высокага інтэрнацыяналізму, які даказваў сябе справамі.

Людзі накшталт Эдуарда Пякарскага — «соль зямлі, святло свету». Дзе б яны ні апынуліся, іх стваральны дух знаходзіць ніву для плённай дзейнасці.

Канстанцін ТАРАСАЎ, пісьменнік.

# НАД БЕРАГАМІ ВОЛМЫ І ПРЫПЯЦІ

У адзін з пахмурных кастрычніцкіх дзён настаяцелю Смілавіцкага парафіяльнага касцёла трэба было ехаць да цяжка хворай пані з суседняга маёнтка. Арганіст, які заўсёды суправаджаў ксяндза, падрыхтаваў ужо нават святое прычасце, як раптам каля касцёла спынілася брычка. З яе выйшла пара кумоў з дзіцём на руках. Яны прыехалі з Пятровічаў, каб ахрысціць першынца беднай шляхты — Карла (Караля) і Тарэзы Пякарскіх. Хлопчыку было ўсяго два тыдні. Нарадзіўся ён вельмі кволым, і з хростам давялося спяшацца.

Незадаволены затрымкай, ксёндз хутка адбыў абрад. Арганіст жа ўнёс у метрычную кнігу наступны запіс (захаваўся ў фондзе Э. К. Пякарскага ў архіве Ленінградскага аддзялення Акадэміі навук СССР): «1858 года кастрычніка 28 дня ў Смілавіцкім рымска-каталіцкім парафіяльным касцёле з захаваннем усіх абрадаў таінства ахрышчана дзіця па імю Эдуард ... высакародных Карла і Тарэзы, да шлюбу Дамашэвічаўны, Пякарскіх, законных бацькі і маці сын, народжаны 13 дня гэтага месяца вечарам у гэтай жа парафіі ў фальварку Пятровічах».

Вёска Пятровічы, у якой тады было каля трыццаці хат, і фальварачак пад той жа назвай знаходзіліся непадалёку ад Смілавічаў, на беразе выгінастай рэчкі Волмы ў тагачасным Ігуменскім павеце (цяпер гэта Смалявіцкі раён Мінскай вобласці). Калісьці Пятровічы належалі князям Радзівілам, а ў XIX стагоддзі перайшлі ў рукі Вітгенштэйнаў. Гаспадарыць магнатам не было ні часу, ні патрэбы, таму яны здавалі фальварак у арэнду. У сярэдзіне XIX стагоддзя чарговым арандатарам быў Карл Іванавіч Пякарскі, бацька нашага героя.

Належалі Пякарскія да старадаўняга і даволі вядомага шляхецкага роду. Яшчэ ў XVI стагоддзі нехта Станіслаў Роліч-Пякарскі прыбыў з нізоўяў Віслы ў Брэст і атрымаў ад вялікага князя літоўскага Сігізмунда II Аўгуста маёнтак Трышына (цяпер Трышына ўвайшло ў межы Брэста, але след ад яго

захаваўся ў назве Трышынскіх могілак). З цягам часу гэты род увайшоў у гісторыю славянскіх народаў. Адзін з Пякарскіх, Міхал, быў у 1620 годзе пакараны за спробу ўчыніць замах на польскага караля Сігізмунда (Жыгімонта) III. Пётр Пякарскі стаў акадэмікам, вядомым даследчыкам рускай культуры.

Але паступова ганарлівы шляхецкі род збяднеў, і, калі нарадзіўся Эдуард, у Карла Іванавіча, нягледзячы на яго 33-гадовы ўзрост, не было, як кажуць, ні кала ні двара. Сабе на хлеб ён зарабляў арандатарствам. А гэта быў нялёгкі, горкі хлеб, асабліва для сумленнага чалавека, які аказваўся нібы паміж молатам і кавадлам. З аднаго боку, пан патрабаваў, каб фальварак даваў вялікі прыбытак, дзеля чаго аканом павінен быў выціскаць з сялян апошнюю капейку; з другога боку, такі прыгнёт выклікаў натуральнае супраціўленне прыгонных, якое скіроўвалася часта не на пана — ён жыў недзе далёка, а на аканома, які быў побач кожны дзень і з'яўляўся віноўнікам усіх няшчасцяў.

Пасля адмены прыгоннага права ўзаемаадносіны паміж вёскай і фальваркам істотна змяніліся: селяніна ўжо нельга было купіць, прадаць, гнаць на паншчыну. Але паколькі зямля па-ранейшаму заставалася пераважна ў руках паноў, сяляне, як і раней, залежалі ад таго, у каго зямля, бо ён ці даваў, ці не даваў работу. Адны ўсё больш багацелі, другія ўсё больш бяднелі. Так было па ўсёй Беларусі, так было і ў Пятровічах.

Архіўныя дакументы сведчаць аб тым, што да 1872 года нядоімкі ў Смілавіцкай воласці дасягнулі вялізных памераў. Сяляне адмаўляліся плаціць падаткі, таму што пасля неўрадлівага лета не было чаго везці на кірмаш. Тады ў воласць прыбыла паліцыя і стала апісваць жывёлу. Сяляне пачалі супраціўляцца і паслалі ў Пецярбург хадакоў. Даведаўшыся пра гэта, мінскі губернатар накіраваў у Смілавічы салдат. У Пятровічах іх спыніў натоўп сялян. Пачалася бойка. Каб абараніць вёску, сяляне разабралі мост праз Волму. Тады ў Пятровічы паслалі цэлы батальён. Але на гэты раз вяскоўцы схаваліся ў лесе. Вядома, з дапамогай салдат мясцовыя ўлады дамагліся свайго: сялян уціхамірылі, а жывёлу распрадалі, каб пакрыць нядоімкі...

Выступленні пятровіцкіх сялян не маглі не ўздзейнічаць на настрой Эдуарда, не маглі не выклікаць у яго спачування, жадання далучыцца да барацьбы.

Дзіцячыя і юнацкія гады Эдуарда Пякарскага прайшлі ў нястачы. Бацьку даводзілася вандраваць з месца на месца, з дапамогай дакументаў даказваць сваё дваранскае паходжанне. Сям'я Пякарскіх належала да таго асяроддзя, з якога выйшлі Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч і іншыя рэвалюцыйныя дэмакраты. Нягледзячы на некаторыя сацыяльныя прывілеі дробная шляхта жыла ў многім гэтак жа, як і сяляне. Нездарма Карл Пякарскі, страціўшы жонку, аддаў сына-першынца на выхаванне ў сям'ю беларускага селяніна.

Родная цётка, якая потым узяла хлопчыка да сябе, жыла ў Мінску, у сціплым доміку, на даходы ад агароду і саду. Падвал цётка здавала салдатам на пастой. Эдуард часта спускаўся да іх: яму падабалася назіраць за тым, як яны чысцілі і збіралі зброю. Гуляў хлопчык разам з дзецьмі беднякоў-суседзяў. Потым ён запіша ў дзённіку, што адчуваў да іх асаблівую прыхільнасць, бо яны «не абмяжоўвалі яго ў сяброўстве ўсялякімі ўмоўнасцямі».

Вечарамі цётка расказвала Эдуарду пра паўстанне 1863 года, пра легендарнага Кастуся Каліноўскага, пра тое, як жорстка ўлады расправіліся з паўстанцамі. Хлопчыка захаплялі гэтыя расказы пра імкненне да свабоды, пра барацьбу за шчасце народа, пра мужнасць. Ён уважліва прыглядаўся да цёткі. Яго здзіўляла, што цётка, вучачы яго малітвам, выкідвала з іх словы-прашэнні аб здароўі цара, але хутка зразумеў: нельга маліцца за чалавека, служкі якога вешалі паўстанцаў, за адно толькі спачуванне ім высялялі ў Сібір цэлыя вёскі. Менавіта цётка вучыла Эдуарда рускай і польскай грамаце. Доўгімі зімовымі вечарамі ён завучваў на памяць рамантычныя балады Міцкевіча, яго вершы.

Як толькі Эдуард падрос, яго аддалі вучыцца ў Мазырскую гімназію.

У першай палове XIX стагоддзя Мазыр быў значным гандлёвым цэнтрам. Сюды па Прыпяці прыплывалі з Украіны караблі, гружаныя пшаніцай і соллю. Назад ішлі гонкія беларускія сосны для карабельных мачтаў, лён, дзёгаць, сушаныя палескія ўюны. Месціўся горад на маляўнічых узгорках, з якіх адкрываліся прыгожыя далягляды на Прыпяць і палескія раўніны. Глыбокія пакручастыя яры паміж узгоркамі замянялі вуліцы. Пабачыўшыя свет людзі параўноўвалі мясцовы пейзаж з Каўказам, нават са Швейцарыяй. Паступова горад мяняў абліч-

ча, будаваўся. Але ў 1864 годзе яго моцна спустошыў вялікі пажар.

На канікулы Эдуард звычайна ехаў у палескае мястэчка Барбароў да стрыечнага дзеда Рамуальда Пякарскага. Мястэчка таксама стаяла на беразе Прыпяці. Тут нават прыпыняўся параход з гучнай назвай «Леў», які курсіраваў паміж Кіевам і Мазыром.

Рамуальд Пякарскі доўгія гады ўпраўляў панскім маёнткам Клесін, а потым, сабраўшы грошай, пабудаваў на панскай зямлі ўласны дом. Навокал распасціраліся багатыя дзічынай бязмежныя лясы, у Прыпяці і яе прытоку Салакучы вадзілася шмат рыбы. Рамуальд Пякарскі быў заўзятым паляўнічым і рыбаловам. Але з гадамі ён стаў скупец і дзівачэць. Цэлымі днямі сядзеў з люлькай у зубах у сваім непрыбраным пакоі, злаваў, калі хто не згаджаўся з ім. Усе павінны былі слухаць яго, рабіць усё, як ён загадаў. Пры ім змаўкала нават яго састарэлая сястра пані Валасецкая, якая вяла ў доме гаспадарку.

У дзеда хлопчыку даводзілася нялёгка. Сын барбароўскага пісара Франц Абрамовіч (пазней вядомы беларускі хірург) успамінаў: «Становішча Эдуарда Карлавіча як выхаванца скупога дзеда і баламутнай, надакучлівай сваімі выхаваўчымі прыёмамі ягонай сястры было вельмі непрыемным. Гэта відаць з таго, што суседзі і знаёмыя часта шкадавалі няўрымслівага вясёлага і разумнага гімназіста, які абуджаў у іх сімпатыі, і пераказвалі недарэчныя эпізоды выхаваўчых прыёмаў, якія зводзіліся да папрокаў у няўдзячнасці, непавазе, адсутнасці рэлігійнасці і г. д.».

Затоеныя скаргі чуваць і ў пісьмах Эдуарда, адрасаваных бацьку. У адным з іх, падзякаваўшы за прысланыя тры рублі, якія пайшлі на алоўкі і паперу, хлопчык з сумам дадае: «На кожную пакупку мне непрыемна прасіць у дзядулі. Няхай таткa будзе ласкавы і вясной прышле мне некалькі рублёў, тады я зрабіў бы сабе касцюм на лета». А вось вытрымка з пісьма, адпраўленага з Мазыра некалькімі гадамі пазней: «Больш за ўсё апрыкрала, што бабуля Валасецкая настойвае, каб тата сам адвозіў мяне ў гімназію. Як яна мне надаела, увесь час робячы вымовы, што дзядуля на мяне траціць шмат грошай, а на яе — нічога. Адным словам, мне лягчэй застацца ў Мазыры, чым ехаць у Барбароў на свята або канікулы, а ўсё з-за бабулі». Застаўшыся ў горадзе, Эдуард падзарабляў сабе на жыццё тым,

што дапамагаў рыхтавацца да заняткаў адстаючым вучням з багатых сем'яў.

І ўсё ж, нягледзячы на ўсе цяжкасці, гады, праведзеныя ў Мазыры і Барбарове, далі свой добры плён. Значна пашырыліся веды, кругагляд. У Барбарове юнак слухаў расказы, як яно было пры паншчыне, як надрываліся сяляне, узводзячы для пана Хорвата палац, славуты сваёй раскошай на ўсю губерню. У Барбарове мала што змянілася і пасля скасавання прыгону. Асабліва цяжка працавалася наёмнікам на мясцовых смалакурнях, якія беларускі пісменнік і краязнаўца Аляксандр Ельскі называў «фатальным промыслам». Смалу і дзёгаць тут гналі ў з'едлівым дыме і цяжкім смуродзе. За работу плацілі зусім танна...

Пякарскі рана зразумеў, што навокал творыцца вялікая несправядлівасць, што народ пакутуе ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту. Але як змагацца з несправядлівасцю, юнак яшчэ не ведаў. Перадавыя ідэі даходзілі ў барбароўскую глушэчу з вялікім спазненнем. Газеты прыходзілі з чарговым рэйсам парахода «Леў» толькі для пана Хорвата.

А ў свеце адбываліся вялікія падзеі: пасля франка-прускай вайны ўтварылася Парыжская камуна; італьянскія войскі захапілі папскі Рым; у склад Расійскай дзяржавы ўвайшоў Туркестан; шырыліся студэнцкія хваляванні, рух нарадавольцаў. Але мясцовую шляхту цікавіла толькі тое, якую цану плацілі за збожжа на мазырскіх ды рэчыцкіх кірмашах, за якога паніча выйшла суседская паненка ды які пасаг яна з сабой прынесла... Эдуард бачыў абмежаванасць правінцыяльнага асяроддзя, марыў вырвацца ў шырокі свет, дзе жылі і змагаліся мужныя людзі, амаль яго равеснікі...

І такая аказія неўзабаве надарылася. У 1873 годзе Мазырскую гімназію рэарганізавалі ў прагімназію: замест васьмі класаў у ёй стала шэсць. Каб атрымаць сярэднюю адукацыю, Эдуарду трэба было ехаць у іншы горад. З паўгода Пякарскі правучыўся ў Мінскай гімназіі. Але на пачатку 1874 года, калі ў Мінск дайшла вестка, што Таганрогскую гімназію ўзначаліў былы дырэктар Мазырскай гімназіі Эдмунд Рудольфавіч Рэйтлінгер, чалавек даволі кансерватыўны, але ўвогуле справядлівы і таму папулярны сярод вучняў, юнак перавёўся туды. Пераехалі ў Таганрог вучыцца сын барбароўскага садоўніка Яўген Іягансон і іншыя сябры Пякарскага па Мазырскай гімназіі. На

развітанне Эдуард папрасіў у дзеда на дарогу пяцьдзесят рублёў, паабяцаўшы, што больш звяртацца да яго за дапамогай ніколі не будзе.

Таганрог быў, вядома, не раўня Мазыру. Сюды прышвартоўваліся караблі з Грэцыі, Турцыі, Італіі. Яны прывозілі апельсіны, віно, тытунь, praванскае масла, вывозілі ж скуры, збожжа, ікру. Ціхімі летнімі вечарамі Эдуарду падабалася блукаць па ўзбярэжжы, чытаць экзатычныя назвы: «Агіяс Нікалаос», «Меўлудзі-Бахры», «Сан-Антонія». Парусныя караблі злёгку пагойдваліся на хвалях, скрыпелі нацягнутымі снасцямі. У гавані добра марылася пра далёкія краіны, будучыню.

У Таганрогу Эдуард Пякарскі блізка сышоўся з рэвалюцыйна настроенай моладдзю. Узначальваў яе дваццацідвухгадовы Ісак Паўлоўскі, які кватараваў у мешчаніна Паўла Чэхава, бацькі пісьменніка.

## ПАЧАТАК

Юнацтва Эдуарда Пякарскага прыпала на 70-я гады XIX стагоддзя. Гэта быў цяжкі і супярэчлівы час. Зусім нядаўна адмянілі прыгонніцтва, але ў краіне засталіся яго рэшткі, якія перашкаджалі далейшаму развіццю. Заставалася царскае самаўладства. Феадальны прыгнёт змяніўся не менш жорсткім капіталістычным. Сацыяльныя супярэчнасці, цяжкае і бяспраўнае жыццё выклікалі народны пратэст, пачуццё абурэння ў перадавой інтэлігенцыі. Найбольш паслядоўнымі барацьбітамі супраць прыгнёту былі ў тыя гады рэвалюцыйныя народнікі, выхадцы з разначынных слаёў насельніцтва.

«Дзейсныя народнікі», як іх назваў У. І. Ленін, актывізавалі ў 70-х гадах «хаджэнне ў народ», каб узняць яго на рэвалюцыю, скіраваную супраць асноў тагачаснага грамадства. Але арыентаваліся яны ў сваіх закліках пераважна на сялянства. П. Лаўрову, М. Бакуніну, П. Ткачову і іншым рэвалюцыйным народнікам, якія развівалі тэорыю «сялянскага сацыялізму» А. Герцэна і М. Чарнышэўскага, здавалася, што Расіі ўдасца пайсці сваім, некапіталістычным шляхам. Навошта ж пралетарыят, навошта класавая барацьба, калі дастаткова адабраць ад паноў зямлю, раздаць яе сялянам — і на зямлі запануе

ўсеагульнае шчасце, запануе сацыялізм... Сёння мы разумеем усю беспадстаўнасць, утапічнасць такіх ілюзій: адзінай рэальнай сілай, якая магла б змяніць грамадства, мог быць толькі пралетарыят! Але трэба ўлічваць, што ў 70-х гадах, калі класавыя адносіны былі затушаваны тымі ж феадальнымі перажыткамі, калі марксізм яшчэ толькі пачынаў сваё шэсце па Расіі, многія сумленныя людзі звязвалі надзеі на лепшую будучыню толькі з сялянствам. З'явіўся нават заклік: рыхтаваць мужыка да сацыяльнай рэвалюцыі. Як рыхтаваць? Тут народнікі разыходзіліся. Бакунін патрабаваў ад рэвалюцыянераў, каб яны збліжаліся з народам і неадкладна ўзнімалі яго на бунт. Ткачоў пагаджаўся з Бакуніным, што рэвалюцыю нельга адкладваць, але асноўную стаўку рабіў не на народ, а на вузкае кола змоўшчыкаў-інтэлігентаў. Лаўроў жа меркаваў, што рашучы ўдар па самаўладдству трэба рыхтаваць пастулова, што без папярэдняй грунтоўнай агітацыі сялянства не ўзнімеш... Аднак, нягледзячы на такое разнагалоссе, тэарэтыкаў народніцтва згуртоўвала вера ў творчыя сілы і рэвалюцыйныя магчымасці шырокіх мас, аб'ядноўвала патрабаванне актыўнага, узброенага дзеяння.

Перш-наперш народніцкія гурткі ўзніклі сярод пецярбургскага студэнцтва. Асабліва вылучалася арганізацыя Медыка-хірургічнай акадэміі. Стварылі яе В. Аляксандраў, М. Натансон і М. Чайкоўскі (па прозвішчу апошняга членаў гуртка называлі «чайкоўцамі»). У арганізацыі былі свае філіялы, адзін з якіх заснаваў студэнт Ісак Паўлоўскі. Летам 1874 года, калі ў Пецярбургу пачаліся арышты, Паўлоўскі пераехаў у Таганрог і стварыў там новы гурток нарадавольцаў. У яго ўвайшлі многія сябры і знаёмыя Пякарскага — Іягансон, Розенблюм, Гутэрман, Арон Паўлоўскі (брат кіраўніка гуртка). Самога Пякарскага, крыху маладзейшага за іх па ўзросту, у арганізацыю пакуль што не прымалі. Але пад уплывам старэйшых таварышаў ён стаў самаадданым і смелым прапагандыстам народніцкіх ідэй сярод гімназістаў і гарадскіх знаёмых. Галоўным аргументам, які павінен быў схіліць моладзь да работы на карысць сялянству з'яўляўся заклік: «заплаціць доўг народу, коштам якога атрымала адукацыю наша інтэлігенцыя».

Пякарскі займаўся ў Таганрогскай гімназіі. Парадкі ў ёй былі вельмі строгія, кансерватыўныя. У праграму не ўключаліся творы нават такіх пісьменнікаў, як Гогаль і Тургенеў. Што ж

датычыцца кніг Бялінскага, Дабралюбава, Пісарава, Някрасава, то карыстацца імі забаранялася зусім. Але чыталі іх тут запоем. Пякарскі пазней прыгадваў: «У маёй памяці засталіся прыемныя ўспаміны пра сумеснае чытанне розных кніг і пра гутаркі і спрэчкі наконт прачытанага. Усё тое, што было засвоена ў час такіх сумесных чытанняў, надоўга, калі не назаўсёды, урэзалася ў памяць... Асабліва нам спадабалася патрабаванне аднаго з аўтараў выхаваць з сябе асобу, якая думае і крытычна адносіцца да свайго акружэння».

Творы рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў былі той школай, якая фарміравала грамадскую думку моладзі, выхоўвала ў яе любоў да народа і нянавісць да самаўладства. Асабліва захапляліся тады раманам Чарнышэўскага «Што рабіць?». Паводле слоў сучаснікаў, ён стаў сцягам перадавой рускай моладзі. Пякарскі і яго сябры чыталі мастацкія і публіцыстычныя творы рускай і зарубежнай літаратуры, якія садзейнічалі «выпрацоўцы сумленнасці і стойкасці характару». У свядомасці маладых людзей занатоўваліся ідэальныя вобразы стойкіх змагароў за народную справу, моцных, валявых людзей, гатовых ісці на смерць дзеля агульнага шчасця.

Пякарскаму і іншым гімназістам кнігі для чытання дапамагаў падбіраць выкладчык гісторыі Апалон Іванавіч Бялавін. Аўтар «Нарысаў з мінулага Таганрогскай гімназіі» П. Філеўскі ахарактарызаваў яго так: «Гэта быў сур'ёзны настаўнік. Ён не стаў любімцам вучняў, як гэта часта бывае з добрымі настаўнікамі гісторыі; для гэтага ён быў занадта сур'ёзны і патрабавальны. Сутыкаючыся вельмі часта з дырэктарам з-за несупадзення поглядаў, Бялавін аднойчы перайшоў усялякую мяжу, абараняючы вучня, якога хацелі выключыць за шкодны кірунак думак, які фактычна пацвердзіўся; па гэтай прычыне ён быў пераведзены ў Адэскую прагімназію».

Сёння лёгка зразумець, што меў на ўвазе дарэвалюцыйны гісторык, калі ён пісаў пра той шкодны кірунак думак. Гаворка ішла, вядома, пра захапленне вучня прагрэсіўнымі рэвалюцыйнымі ідэямі.

На фоне іншых гімназічных педагогаў — інспектара Дзяканава, што паслужыў А. П. Чэхаву прататыпам «Чалавека ў футарале», або выкладчыка старажытных моў Урбана, які «нібы паставіў сабе мэту вышукваць палітычна ненадзейных маладых людзей», Бялавін сапраўды выглядаў «белай варонай».

Неяк вясной 1874 года Пякарскі звярнуўся на перапынку да Бялавіна.

— Апалон Іванавіч! У параўнанні з маімі аднакласнікамі я адчуваю сябе слаба падрыхтаваным. Як мне заняцца самаадукацыяй?

Настаўнік уважліва зірнуў на Эдуарда... У канцы дня ён перадаў вучню сшытак з пералікам кніг для сістэматычнага чытання.

Між тым гурток Паўлоўскага праваліўся. Яго ўдзельнікі кепска захоўвалі канспірацыю і былі выдадзены паліцыі нейкай Андрэевай. Яе гурткоўцы спрабавалі пераканаць у сваіх поглядах. Вясной 1875 года былі арыштаваны Іягансон, Лявіцкі і сам кіраўнік Паўлоўскі.

Разгром Таганрогскага гуртка быў адным са звенняў масіраванай аперацыі ўлад, якія хацелі пакончыць з «хаджэннем у народ». Паліцыя арыштоўвала прапагандыстаў, і нярэдка ёй дапамагалі тыя ж сяляне і гарадскія рамеснікі, якія недаверліва ставіліся да рэвалюцыянераў.

Пасля правалу гурткоўцы шукалі віноўнікаў. Не ведаючы сапраўднай прычыны, пачалі падазраваць усіх, у тым ліку і Пякарскага.

Пра гэта Эдуард даведаўся зусім выпадкова. Аднойчы на ўроку ён атрымаў адзінку. Тут жа па класу разнёсся гучны шэпт былога гурткоўца Гутэрмана:

— Так яму і трэба, шпіёну!

Юнака моцна ўразілі неабгрунтаваныя падазрэнні сяброў. Вытрымаўшы экзамен за шосты клас, ён паехаў з Таганрога бліжэй да родных мясцін — у Чарнігаў, дзе правучыўся наступныя два гады.

У Чарнігаве Эдуард пасяліўся ў агульнай вучнёўскай кватэры. Тут ён быў «старшым», адказваў за парадак, за гаспадарку і атрымоўваў за гэта бясплатны харч. Такім чынам, у яго з'явілася магчымасць не губляць час на рэпетытарства, а больш займацца.

Пасля Таганрога Чарнігаў здаўся юнаку правінцыяльным гарадком. Размешчаны на высокім беразе Дзясны, ён жыў ціхім, спакойным жыццём. Глеб Успенскі, які ў свой час тут вучыўся, за дзевяць гадоў да прыезду сюды Пякарскага апісаў так Чарнігаў: «Па абодвух баках (галоўнай) вуліцы стаялі маленькія драўляныя домікі; многія ледзь трымаліся ад старасці.

Траплялiся i мураваныя, толькi што адбудаваныя, але зусiм закiнутыя — у iх не жыла нiводная жывая душа... На гарадской плошчы, як чарапаха, шырока распластаўшыся сваiмi ганкамi, нiбы лапамi, знаходзiўся драўляны тэатр, з-за яго страхi, побач з таполямi, высоўваўся шпiль ратушы, пабудаванай на старадаўнi нямецкi манер, а побач з ратушай узвышалася каланча». Успенскi адзначыў абсалютную цiшыню, якая панавала над горадам, i канстатаваў, што «Чарнiгаў застаецца выключна горадам чыноўнiкаў».

Чарнiгаўскiм мяшчанам, якiя толькi i ведалi, што марна трацiць час, пiсьменнiк супрацьпаставiў iншых людзей, «не прывязаных да Чарнiгава нiякай рухомай цi нерухомай сiлай... Дзякуючы гэтаму гуртку, маладых людзей, у нашым маленькiм гарадку чацвёрты год паспяхова iснуе маленькая бiблiятэка».

Прагрэсiўную ролю адыгрываў гурток, створаны кiеўскiмi народнiкамi — Бажко-Бажкоўскiм, Аксельродам i iнш. Сюды ўваходзiлi мясцовыя гiмназiсты i семiнарысты. Але прадстаўнiкi царскай улады разграмiлi гурток у той жа час, што i таганрогскi. Пры гэтым у аднаго з членаў знайшлi рукапiс прапагандысцкага часопiса.

На змену разгромленаму прыйшоў новы гурток. Узначалiў яго супрацоўнiк Чарнiгаўскага статыстычнага бюро Васiль Ягоравiч Варзар, якi пасля мясцовай гiмназii скончыў Пецярбургскi тэхналагiчны iнстытут. Яшчэ ў сталiцы Варзар актыўна ўдзельнiчаў у руху народнiкаў. У Швейцарыi ён пазнаёмiўся з iдэолагам народнiцкага руху Пятром Лаўровым. Услед за iм Варзар заклiкаў iнтэлiгенцыю вывучаць рэвалюцыйную тэорыю, каб несцi яе сялянам.

Варзар напiсаў рэвалюцыйную брашуру «Хiтрая механiка», якая вытрымала шмат выданняў i якую рэвалюцыянеры шырока распаўсюджвалi сярод народа. У даступнай для простых людзей форме тлумачылася, што на плячах народа ляжаць усе падаткi, што рукамi працоўных ствараюцца ўсе даброты, вырошчваецца хлеб. Звяртаючыся да народа ад яго ж iмя, аўтар пiсаў: «Усё мы трымаем. Мы ўсiх кармiм, даем пiць i апранаем. Усе нашай працай жывуць, наш пот i кроў п'юць, але за гэта нас яшчэ i б'юць».

Выхад Варзар бачыў у народным паўстаннi, у перадачы зямель i фабрык у арцельнае карыстанне. Новы сацыяльны лад ён так абмаляваў у брашуры: «Каб не было твайго цi майго, а

ўсё было б агульнае — брацкае. Каб і працаваў кожны па сваёй сіле, а браў бы — колькі кожнаму трэба, каб у кожнага ні ліш-каў, ні недастачы не было».

Характэрна, што потым, у 1892 годзе, брашура В. Варзара «Хітрая механіка» лягла ў аснову беларускага нелегальнага выдання «Дзядзька Антон». У беларускай пераробцы невядомы нам аўтар выкарыстаў асноўныя аргументы свайго рускага па-пярэдніка.

Пякарскі пастунова зблізіўся з Варзарам і ўвайшоў у яго гурток. У Чарнігаў у гэты час прыехаў старэйшы сябар Пякар-скага Іяганcон. (У Таганрогу яго ўзялі на парукі, і ён нават змог выехаць за мяжу. Нейкі час прабыў у Злучаных Штатах Амерыкі, дзе група народнікаў збіралася стварыць калонію на камуністычных пачатках, потым з падробленым пашпартам вярнуўся на радзіму, жыў на паўлегальным становішчы.) Маючы на ўвазе таганрогскія падазрэнні, Іяганcон супакоіў Эдуарда, сказаўшы, што яго недатычнасць да правалу гуртка Паўлоў-скага ўстаноўлена. Ён можа разлічваць на поўны давер тава-рышаў-гурткоўцаў.

Разам з Іяганcонам Пякарскі пасяліўся на хутары за дзве вярсты ад горада. Пад уплывам старшага таварыша юнак улад-каваўся ў шавецкую майстэрню, каб весці прапагандысцкую ра-боту. Неўзабаве ў доме, дзе жылі сябры, пасяліўся жандар. Устрывожаны Іяганcон мусіў пакінуць Чарнігаў, а Пякарскі адмовіўся ад думкі весці нелегальную работу сярод шаўцоў. Але ў гімназіі ён распаўсюджваў творы Чарнышэўскага і Пі-сарава, народніцкую газету «Вперед», якую выдаваў у Жэневе П. Лаўроў. Паспяховай рэвалюцыйнай прапагандзе садзейніча-ла і вонкавая прывабнасць юнака. Ён умеў выклікаць сімпатыі ўсіх, хто блізка яго ведаў. Сябар Пякарскага Ф. Абрамовіч прыгадваў пазней, што яго родзічы, асабліва дзве цёткі ў Чар-нігаве, з усіх яго знаёмых выдзялялі якраз Эдуарда і добра пра яго ўспаміналі.

У гэты час некалькі перадавых інтэлігентаў пад уплывам гімназістаў стварылі ў горадзе новую грамадскую бібліятэку: казённая не магла задаволіць патрабаванні мясцовай моладзі. Да арганізацыі бібліятэкі прыцягнулі Пякарскага. Ён перадаў туды свае кнігі, камплекты часопісаў «Современник» і «Русское слово» з артыкуламі Чарнышэўскага і Пісарава. Эдуард Кар-лавіч пазней успамінаў, што вакол гэтай бібліятэкі «ўтварыўся

цэлы гурток вельмі адданых... людзей, а нас, як мне перадавалі, празвалі «чырвонымі».

Вучоба ў гімназіі не задавальняла Пякарскага. Яму хутчэй хацелася ўліцца ў студэнцкае асяроддзе, здавалася, што менавіта там можна дзейнічаць больш актыўна. Ён нават рашыў пайсці на канфлікт з педагогамі, каб толькі пакінуць вучобу. Прычына неўзабаве надарылася.

Аднойчы на ўроку Эдуард забыў нейкае лацінскае слова, за што выкладчык паставіў яму адзінку. У адказ юнак нагрубіў, педагог запатрабаваў, каб Пякарскі выйшаў з класа, але той заўпарціўся і адмовіўся.

Калі яго выклікаў дырэктар, ён падаў заяву аб уходзе. Дырэктар угаворваў Эдуарда, аднаго з лепшых вучняў гімназіі па матэматыцы. Але Пякарскі адказаў, што цярпець не можа латыні і грэчаскай мовы. Толькі тады дырэктар, заўзяты прыхільнік старажытных моў, не вытрымаў і падпісаў заяву.

У лютым 1877 года Пякарскі пакінуў гімназію. Дзед Рамуальд запатрабаваў, каб ён прыехаў у Барбароў. З тым, што ўнук пакінуў гімназію, ён прымірыўся толькі тады, калі той паабяцаў паступіць у Харкаўскі ветэрынарны інстытут. Дзед марыў аб тым, што, стаўшы ветэрынарным урачом, Эдуард зойме высокае становішча ў грамадстве. На самай жа справе Пякарскага вабіла магчымасць быць сярод студэнтаў Харкаўскага ветэрынарнага: у Чарнігаве лічылі, што там канцэнтруецца рэвалюцыйны рух. Студэнты гэтага інстытута настойліва заклікалі сялян да перадзелу зямлі.

## У ГУРТКУ БУЦЫНСКАГА

Харкаў, калі туды прыехаў Эдуард Пякарскі, быў горадам са стотысячным насельніцтвам, буйным чыгуначным вузлом, адным з прамысловых і культурных цэнтраў краіны. Студэнты складалі прыкметную частку гарадскога насельніцтва.

Ветэрынарны інстытут, куды сабраўся паступаць Пякарскі, быў створаны на базе ветэрынарнага вучылішча. Інстытуцкі будынак узвышаўся на цэнтральнай вуліцы — Сумской. Ветэрынарыя ў той час была папулярнай. Пасля адмены прыгоннага права пачала паскорана развівацца гарбарная прамысловасць,

павысіўся попыт на рускія скуры за мяжой. Патрабавалася многа жывёлы, якая пакуль што пакутавала ад заразных хвароб... Краіне патрэбны былі ветэрынарныя ўрачы. Тыя, хто паступаў у ветэрынарны інстытут, карысталіся значнымі льготамі: ад іх не патрабавалі нават дакументаў аб заканчэнні гімназіі. Дастаткова было мець шасцікласны гімназічны курс, рэальнае вучылішча ці духоўную семінарыю.

Прыгадваючы тыя часы, Пякарскі пісаў у сваіх «Урыўках з успамінаў», апублікаваных у 1924 годзе ў часопісе «Каторга и ссылка»: «У 1877 годзе я паступіў на першы курс Харкаўскага ветэрынарнага інстытута і адразу ж прыступіў не столькі да вучобы, колькі да знаёмства з маімі новымі сябрамі, і хутка акунуўся ў студэнцкае асяроддзе. У большасці студэнтаў былі прагрэсіўныя і нават рэвалюцыйныя погляды. Такі быў тады агульны настрой моладзі, і мне лёгка было знайсці таварышаў, блізкіх па духу, тэмпераменту і настрою. Дзейнасць студэнцкіх гурткоў цалкам захапляла чалавека, у якога былі хоць нейкія грамадскія інстынкты, і я адразу ж пасля паступлення ў навучальную ўстанову — адну з самых свабодных і, так сказаць, радыкальных для таго часу — аказаўся ў коле агульных студэнцкіх інтарэсаў, не пазбаўленых значнага рэвалюцыйнага адцення».

Гэта быў час, калі групы рэвалюцыйных народнікаў крытычна асэнсоўвалі няўдачы «хаджэння ў народ», пераглядалі ранейшую тактыку «бягучай прапаганды». Яны аб'ядналіся ў новае, цэнтралізаванае таварыства «Зямля і Воля», члены якога разгарнулі барацьбу за перадачу ўсёй зямлі ў рукі сялян шляхам узброенага перавароту. Пачалася сістэматычная, мэтанакіраваная прапагандысцкая работа сярод студэнтаў і незадаволенай адміністрацыйным насіллем часткі інтэлігенцыі, сярод сялян. Многія харкаўскія народнікі адпраўляліся ў вёскі.

У Харкаве Пякарскі адразу ж увайшоў у тую атмасферу грамадскіх інтарэсаў, якімі тады жыла перадавая моладзь, стаў удзельнічаць у студэнцкіх сходках, гарачых спрэчках па філасофскіх і сацыяльна-эканамічных праблемах, абмеркаваннях шляхоў звяржэння царскага самаўладства.

Неўзабаве ён зблізіўся са сваім аднакурснікам Аляксандрам Баўбельскім, ураджэнцам Мінскай губерні. Па даручэнню сталічнага народніцкага гуртка Баўбельскі спецыяльна пераведся з Пецярбурга ў Харкаў для ўмацавання рэвалюцыйных настрояў

сярод мясцовых студэнтаў. Сябры пасяліліся на адной кватэры. Разам з імі жыў і стары Прандзецкі, былы ссыльны, удзельнік паўстання 1863 года. Паміж кватарантамі вяліся ажыўленыя спрэчкі. Але Эдуард хутка расчараваўся ў сваім земляку з-за фальшывага пафасу, з якім той выступаў перад сябрамі. «Мне наогул не падабалася фразёрства ў прамовах, чым, відаць, і абмяжоўвалася рэвалюцыйнасць многіх студэнтаў»,— прыгадваў ён пазней.

Разышоўшыся з Баўбельскім, Пякарскі стаў членам гуртка, які ўзначальваў студэнт медыцынскага факультэта універсітэта Дзмітрый Буцынскі. Па словах члена гуртка В. Яфрэмава, гэта група была «самай віднай у Харкаве».

Буцынскі, сын святара з Курскай губерні, карыстаўся папулярнасцю і павагай гурткоўцаў. Сур'ёзнасць меркаванняў, сталасць поглядаў вылучалі яго сярод моладзі. Народнік М. Папоў, які неаднойчы сустракаўся з Буцынскім, адзначаў яго розум, начытанасць, бязмежную адданасць справе, сціпласць, высокую маральнасць, уменне адказваць за кожнае сваё слова, захоўваць канспірацыю. Ва ўспамінах («Да біяграфіі Д. Буцынскага») Папоў піша: « У гэтай шчуплай маўклівай асобе, з чароўнай усмешкай на вуснах, было нешта такое, што вабіла да яе тых, хто яе акружаў». Гэтыя вартасці Буцынскага вымушаны былі прызнаць нават ворагі. Начальнік харкаўскага жандарскага ўпраўлення дакладваў пра яго начальству: «Буцынскі, нягледзячы на сваю маладосць і слабы склад цела, валодае выдатнымі разумовымі здольнасцямі, энергіяй, стрыманасцю».

Буцынскі і яго сябры збіралі грошы для дапамогі палітычным зняволеным і арганізацыі іх уцёкаў з турмаў. На сходах вывучалі гісторыю рэвалюцыйнага руху на Захадзе і ў Расіі, вялі прапаганду сярод рабочых, інтэлігенцыі, студэнтаў, гімназістаў, а часткова і сярод сялян.

На рэвалюцыйны настрой членаў гуртка Буцынскага істотна ўплывала тое, што яны штодзённа бачылі, як цяжка жыве харкаўскі пралетарыят. З развіццём капіталістычных адносін горад хутка рос. З'яўляліся новыя заводы, фабрыкі, майстэрні. Павялічвалася колькасць рабочых, а разам з тым незадаволенасць існуючымі парадкамі.

Паны і купцы, як сведчаць харкаўскія гісторыкі Д. Багалей і Д. Мілер, сяліліся ў мураваных дамах, што будаваліся калісьці для гаспадарчых патрэб, а бедната знаходзіла прытулак

у цёмных сырых падвалах. Яшчэ ў горшых умовах — у начлежках — жыў бяздомны люмпен-пралетарыят. Умовы ў горадзе былі антысанітарныя: ад запаволеных у сваім сцёку рэчак, куды траплялі адходы гарбарных прадпрыемстваў, ішоў смурод; у дажджлівыя дні па многіх вуліцах і завулках нельга было прайсці — яны заліваліся нечыстотамі, што цяклі з суседніх двароў.

У гэтых абставінах рэвалюцыйная дзейнасць студэнтаў аказвала вялікі ўплыў і на рабочых. У справаздачы харкаўскага губернатара за 1877 год гаворыцца: «Клас фабрычных рабочых, вельмі шматлікі ў Харкаве, вымушае ўзмацніць нагляд і не дае гарантыі ўстойлівасці ад распаўсюджання новых вучэнняў. У асяроддзі гэтага насельніцтва рэвалюцыйная прапаганда сустракае пастаяннае спачуванне...».

Асаблівую ўвагу губернатар звяртаў на «размовы ў асяроддзі фабрычнага насельніцтва, якія падслухаў агент паліцыі,— пра цяжар падаткаў, пра тое, што невядома, на што і куды ідуць грошы, якія збіраюць з народа, пра бескантрольнасць урада і іншыя падобныя меркаванні, якіх яшчэ некалькі гадоў назад не было чуваць». Адну з прычын незадаволенасці рабочых аўтар справаздачы справядліва бачыў у дзейнасці «распаўсюджвальнікаў рэвалюцыйнай прапаганды».

У 1877 годзе Пякарскі і іншыя члены гуртка Дзмітрыя Буцынскага збіраліся разам на кватэрах студэнтаў. Такія сходкі праходзілі вельмі бурна. У палымяных спрэчках умерана настроеныя студэнты разыходзіліся з тымі, чые погляды былі больш радыкальнымі. Першыя ўпарта стаялі на тым, што спачатку трэба павысіць сваю адукаванасць і толькі потым несці веды ў масы. Ім пярэчылі прыхільнікі рэвалюцыйных дзеянняў. Адны з іх прыгадвалі, што ні навука, ні эрудыцыя не могуць перашкодзіць свежаму і яснаму розуму спачуваць народным пакутам, змагацца супраць дэспатычнай улады, прынесці сябе ў ахвяру. Іншыя даказвалі, што навуковыя заняткі часта служаць толькі маскай для палітычна і маральна абыякавых людзей.

На погляды харкаўскага студэнцтва істотна ўздзейнічалі працэсы 50 і 193 народнікаў, якія толькі-толькі адбыліся ў Маскве і Пецярбургу. Выступленні падсудных Бардзінай, Аляксеева, Мышкіна, Здановіча прагучалі абвінавачваннем супраць царызму. Пётр Аляксееў па-прарочы заявіў, што хутка ўзнімецца такі рабочы рух, які знішчыць ярмо дэспатызму ў краіне.

На схіле гадоў Эдуард Карлавіч прыгадае: «Такое ж глыбокае і моцнае ўражанне на мяне, як і на іншых, зрабіла прамова Аляксеева. Бясспрэчна, яна адыграла вялікую ролю ў справе ідэалізацыі рабочых наогул і ў прыватнасці рабочых, якія сталі інтэлігентамі». У ссылцы Пякарскаму давядзецца сустрэцца з Аляксеевым, пасябраваць з ім, дапамагаць яму*.

На «працэсе 193-х» сапраўдным героем стаў Іпаліт Мышкін, арыштаваны за дзёрзкую спробу вызваліць з вілюйскай ссылкі Чарнышэўскага. У заключнай прамове Мышкін прааналізаваў сацыяльныя асновы народніцтва і высмеяў афіцыйную пракурорскую версію, нібыта рэвалюцыйны рух у Расіі — з'ява выпадковая. Ён заклікаў да работы ў масах, да сацыяльнай рэвалюцыі. Пасля яго выступлення ў зале, дзе адбываўся працэс, тварылася нешта неверагоднае. Публіка паўскоквала са сваіх месцаў, шумела, жандары рваліся да Мышкіна, але яго таварышы, стаўшы сцяной, не прапусцілі стражаў парадку.

Аб тым рэзанансе, які выклікаў «працэс 193-х» сярод харкаўскіх студэнтаў, Буцынскі пазней пісаў: «Асабліва моцнае ўражанне на моладзь зрабіла прамова Мышкіна і наогул усё тое, што адбылося тады на судзе. Прамова Мышкіна чыталася натоўпам студэнтаў у зборнай зале універсітэта, у аўдыторыях, — адным словам, не ведаю я, ці быў хоць адзін студэнт, які не чытаў гэтай прамовы. Калі ж працэс закончыўся, ... сярод моладзі пачалося моцнае хваляванне».

Пасля такога шумнага працэсу многія разлічвалі, што прысуд не будзе занадта суровы, аднак шэф жандараў Мезенцаў пераканаў Аляксандра II, што ўсялякая літасць будзе «шкоднай». Зноў арыштоўвалі і высылалі нават адпушчаных на волю. Тых, хто паводзіў сябе на працэсе асабліва незалежна, адправілі ў цэнтральныя катаржныя турмы, дзе зняволеных трымалі ў самай суровай ізаляцыі.

Супраць драконаўскіх мер узнялася хваля пратэстаў. У Пецярбургу распаўсюджвалася пракламацыя народнікаў, у якой гаварылася: «Усе гэтыя жорсткасці патрабуюць адказу. Яго дадуць. Чакайце нас!». Жменька рэвалюцыянераў абвясціла вайну магутнаму ўрадаваму апарату.

---

* Уплыў Пятра Аляксеева на Пякарскага няправільна асветлены ў кнізе Л. Астравера «Пётр Аляксееў» (М., 1964). Там бяздоказна сцвярджаецца, быццам, прачытаўшы судзебную прамову, Пякарскі кінуў нарачоную, сям'ю, універсітэт і пайшоў «у стан Аляксеева».

Амаль у гэты ж час членаў харкаўскага гуртка ўсхвалявала яшчэ адна падзея. Улады арыштавалі і засудзілі многіх студэнтаў і рабочых, якія ўдзельнічалі ў дэманстрацыі, што адбылася 6 снежня 1876 года ля Казанскага сабора ў Пецярбургу. Буцынскі назваў гэтае выступленне першай спробай «паляпшэння палітычных формаў дзяржавы». Усе хваляванні моладзі ён разглядаў як ступенькі да больш важных спраў, што выйдуць за межы інтарэсаў аднаго студэнцтва.

Пецярбургскі граданачальнік Трэпаў у час допыту аднаго з арыштаваных — студэнта Емяльянава (Багалюбава) ударыў яго, а затым загадаў высякчы розгамі. Вязні запратэставалі і ўзбунтаваліся. Тады зноў жа па загаду Трэпава іх збілі і кінулі ў карцэр. Вестка пра здзекі над Багалюбавым і яго таварышамі выклікала моцнае абурэнне харкаўскіх студэнтаў. Пад петыцыяй пратэсту, пададзенай на імя міністра юстыцыі Палена, дзякуючы дзейнасці гурткоўцаў Буцынскага падпісаліся чатырыста чалавек.

У той час многія рэвалюцыянеры, пераканаўшыся ў наіўнасці спадзяванняў на сялянства, адмовіліся ад работы з вёскай і скіравалі свае сілы на палітычную барацьбу супраць урада шляхам індывідуальнага тэрору. Гурток кіеўскіх рэвалюцыянераў утварыў «Выканаўчы камітэт», які накіраваў сваю дзейнасць на правакатараў і асабліва на ненавісных чыноўнікаў. Менавіта з Кіева прыехала ў Пецярбург рэвалюцыянерка Вера Засуліч. Стрэлам з пісталета яна цяжка параніла Трэпава.

Нават прывілеяваныя колы сталіцы выказвалі спачуванне рэвалюцыйнай моладзі. Прысяжныя засядацелі апраўдалі Засуліч. Шматтысячны натоўп сустрэў яе ля будынка суда як гераіню. Пазней Буцынскі зазначаў, што харкаўская моладзь тлумачыла ўчынак Засуліч наступным чынам: «Гэта спроба замаху мела свой сэнс, бо паказала ўсяму грамадству, што ў нас магчымыя такія з'явы, як лупцаванне палітычнага злачынцы і збіванне многіх палітычных злачынцаў, што праводзяцца па загаду начальства».

Рэвалюцыянеры працягвалі помсціць сваім ворагам. У пачатку лютага ў Растове забілі шпіёна Ніканава. Была спроба знішчыць таварыша кіеўскага пракурора Катлярэўскага. Урэшце ў Кіеве быў забіты жандарскі афіцэр Гайкінг. Барацьба рэвалюцыянераў з царызмам шляхам індывідуальнага тэрору працягвалася.

Усё гэта адбівалася на настроі гурткоўцаў Буцынскага. Як відаць з архіўных матэрыялаў, яны ахвотна чыталі рэвалюцыйныя брашуры украінскага грамадскага дзеяча Драгаманава («Унутранае рабства і вайна за вызваленне», «Туркі ўнутраныя і знешнія», «Хто нашы ворагі»). Іх змест здаваўся вельмі актуальным. Расія якраз закончыла вайну за вызваленне балгарскага народа з-пад асманскага прыгнёту, і падобныя выданні наводзілі на сумны роздум: калі вызвалілі балгар, далі ім канстытуцыйнае праўленне, то павінны ўвесці канстытуцыю і ў Расіі. Але гэтыя спадзяванні спадзяваннямі і заставаліся...

На пачатку 1878 года хваляванні ва універсітэтах узмацніліся. У красавіку студэнты Кіеўскага універсітэта пратэставалі супраць незаконнага арышту медыка Падольскага, западозранага ў тэрарыстычным акце. Да мясцовых улад накіроўваліся дэлегацыі, і фактычна гаворка ішла пра абарону грамадзянскіх правоў, пра барацьбу супраць беззаконня, на што ўлады адказалі новымі рэпрэсіямі. Сто трыццаць чатыры студэнты былі выключаны з універсітэта. Іх выслалі каго ў паўночныя губерні, каго па месцы жыхарства. Калі іх правозілі праз Харкаў і Маскву, сустрэчы ператвараліся ў палітычныя дэманстрацыі. На маскоўскіх дэманстрантаў, якія суправаджалі карэты з кіеўскімі студэнтамі, напалі каля універсітэта мяснікі, лабазнікі і іншыя крамнікі з Ахотнага рада. Многія юнакі былі сур'ёзна паранены. На думку рэвалюцыянераў, гэта была звычайная паліцэйская правакацыя. Рэакцыйны маскоўскі публіцыст Катко ў цынічна назваў яе адказам «простага рускага народа на скандал выбранай публікі, які адбыўся 31 сакавіка» (г. зн. у час апраўдальнага прысуду, вынесенага Засуліч).

З вялікім абурэннем сустрэла харкаўская моладзь вестку пра расправу над маскоўскімі студэнтамі. «Агульнае заключэнне,— пісаў Буцынскі,— было такое, што незадавальненне студэнтаў мае палітычны характар, што яно расце з дня ў дзень».

Харкаўскія рэвалюцыянеры шукалі саюзнікаў. Яшчэ раней яны ўстанавілі сувязі з кіеўскімі і адэскімі землявольцамі, чые прадстаўнікі прыязджалі ў Харкаў, каб даведацца, як тут ідуць справы.

Буцынскі і яго гурткоўцы паступова ўсведамлялі, што для сацыялізма Расія яшчэ не паспела і ўсю энергію трэба скіроўваць на тое, каб папярэдне заваяваць хаця б частковыя грамадзянскія свабоды.

Тым часам падзеі разгортваліся далей. 4 жніўня 1878 года народнік С. Краўчынскі ажыццявіў сваё папярэджанне царызму: ударам кінжала ён у цэнтры Пецярбурга забіў шэфа жандараў Мезенцава і знік. Урад адказаў суровымі мерамі. Усю краіну абвясцілі на ваенным становішчы. Справы па палітычных забойствах належала разглядаць ваенным судам.

Сярод студэнтаў стала распаўсюджвацца землявольская брашура «Урадава камедыя або заклік да грамадства». У ёй гаварылася, што «самадзяржаўе згубіла ўсялякую глебу пад нагамі; яно ўсюды пільна аглядаецца і ўсюды яму мроіцца полымя крывавай рэвалюцыі... Але рускае грамадства павінна зразумець, што трэба не станавіцца на калені, а дабівацца свабоды! Яно павінна зразумець і арганізавацца для барацьбы з урадам».

На гэты заклік адгукнуліся і харкаўскія студэнты: яны часта збіраліся па кватэрах, абмяркоўвалі становішча. На такіх сходках гаворка ішла аб тым, што дзеля ўсеагульнага пратэсту трэба ўстанавіць сувязі паміж усімі універсітэтамі, арганізаваць новыя рэвалюцыйныя гурткі. Пазней Буцынскі прыгадваў: «Менавіта гэта глухое незадавальненне і прывяло да хваляванняў у ветэрынарным інстытуце, бо якраз тут здараліся частыя прычыны для вялікага незадавальнення».

Хваляванні ў ветэрынарным інстытуце адбыліся ў лістападзе 1878 года. Аднавіць ход падзей сёння нам дапамагаюць успаміны Пякарскага і Буцынскага, а таксама паведамленні, змешчаныя ў «Правительственном вестнике» і ў падпольнай газеце «Земля и Воля», пісьмы відавочцаў падзей, апублікаваныя ў жэнеўскім зборніку «Грамада».

Нават з афіцыйных крыніц відаць, што выкладчыцкі састаў у Харкаўскім ветэрынарным інстытуце быў намнога слабейшы, чым ва універсітэце. Асабліва нізкім узроўнем сваіх ведаў вызначаўся Жураўскі, які выконваў абавязкі экстраардынарнага прафесара параўнальнай анатоміі. Каб хоць неяк трымаць уладу над студэнтамі, ён патрабаваў абавязковага наведвання сваіх лекцый, хоць такі парадак быў даўно адменены ў вышэйшых навучальных установах краіны. Жураўскі па-шкалярску сачыў за моладдзю, увёў штодзённыя апытанні.

Супраць гэтых новаўвядзенняў Жураўскага Пякарскі і іншыя члены гуртка Буцынскага ўзначалілі дэманстрацыю пратэсту. Перад лекцыяй па анатоміі студэнты сабраліся ў аўдыторыі, і як толькі прафесар з'явіўся ў дзвярах, пачалі свістаць і тупаць. Некалькі чалавек (з тых, што баяліся непрыемнасцей) падышлі да Жураўскага і пачалі тлумачыць, што яны не згодны з астатнімі. Прафесар запісаў прозвішчы штрэйкбрэхераў. Але дэманстранты вырвалі спіс з рук Жураўскага, а яго самога выштурхнулі з аўдыторыі.

Пазней Буцынскі так растлумачыў свае паводзіны: «Студэнты цэняць добрых прафесараў... добры прафесар можа патрабаваць дакладнага ведання прадмета, помсціць за адсутнасць на лекцыях — і студэнты не крыўдзяцца; але калі якая-небудзь навуковая дрэнь пачне прымушаць наведваць лекцыі рэпрэсіўнымі мерамі, тады студэнцтва рашаецца зрабіць усё, каб выгнаць гэтага прафесара».

Жураўскі падаў скаргу, абвінаваціўшы студэнтаў у тым, што яны нанеслі яму «знявагу дзеяннем». Быў створаны суд прафесараў, у склад якога ўвайшлі педагогі, што вызначаліся нетактоўнасцю ў дачыненні да студэнтаў, паліцэйскімі замашкамі. Пасяджэнні суда ахоўвалі салдаты. Нібы ў насмешку адным з членаў суда быў сам Жураўскі...

Начальства не выпускала студэнтаў з будынка інстытута і выклікала іх на суд па аднаму. Але, даведаўшыся, што віноўнік беспарадку прысутнічае на пасяджэннях у якасці члена суда, юнакі адмовіліся з'яўляцца. Яны вырашылі таксама звярнуцца за дапамогай да універсітэцкіх калег. Сабралі сходку, і адзін са студэнтаў-ветэрынараў выступіў з палымянай прамовай. Ён заклікаў студэнтаў усіх вышэйшых навучальных устаноў да салідарнасці. Прамова падзейнічала, і прадстаўнікі універсітэта адправілі сваіх дэпутатаў да папячыцеля вучэбнай акругі Жэрве.* Яны патрабавалі прызначыць суд з ліку прафесараў універсітэта або, у крайнім выпадку, вывесці Жураўскага з складу суда.

Папячыцель адказаў, што студэнтам адной навучальнай установы не трэба ўмешвацца ў справы другой, прыгразіў, што да-

---

* Папячыцель кіраваў адукацыйнымі справамі на тэрыторыі некалькіх губерняў, якія ўваходзілі ў склад вучэбнай акругі.

лейшыя беспарадкі пацягнуць за сабой ахвяры. У адказ на пагрозы з радоў дэпутатаў пачуўся народніцкі заклік: «Будуць ахвяры — будуць і мсціўцы!».

Тым часам у ветэрынарным інстытуце сталі паціху распраўляцца з «зачыншчыкамі абурэння»: пачаліся масавыя арышты. Было арыштавана каля шасцідзесяці найбольш актыўных удзельнікаў.

Пякарскаму як аднаму з ініцыятараў хваляванняў давялося хавацца. Спачатку ён жыў у сына мільянера Харына, ■ потым у старшакурсніка Снегірова. Апошні параіў Пякарскаму выехаць у Тамбоў, дзе можна было ўладкавацца на работу. З гэтай мэтай Снегіроў пайшоў на рызыку і звярнуўся ў канцылярыю інстытута, каб Пякарскаму дазволілі выехаць у Курскую губерню — нібыта на навагоднія канікулы. Інспектар не ведаў, што Пякарскага трэба затрымаць, і дазвол падпісаў. Але выехаць у Тамбоў было не так проста. Паліцыя працягвала пошукі рэвалюцыянераў. Даводзілася быць вельмі пільным і асцярожным.

«...І пачалося для мяне нелегальнае жыццё,— успамінаў потым Эдуард.— Пазней я даведаўся, што суд над віноўнікамі беспарадкаў адбыўся і прыгаварыў пяць студэнтаў ветэрынарнага інстытута, у тым ліку і мяне, выключыць без права паступлення ў любую вышэйшую навучальную ўстанову. Апрача таго, грамадзянскія ўлады хацелі выслаць мяне адміністрацыйным шляхам у Архангельскую губерню на пяць гадоў».

Пякарскі хаваўся на кватэрах сваіх сяброў. Тым часам хваляванні студэнтаў, як адказ на рэпрэсіі, працягваліся. Адна за другой ва універсітэце наладжваліся сходкі. Каб іх спыніць, кіраўніцтва універсітэта загадала не пускаць студэнтаў пасля лекцый у будынак, замыкаць дзверы. Так, 12 лістапада моладзь, якая сабралася на чарговую сходку, знайшла дзверы зачыненымі. Адзін са студэнтаў пачаў тузаць дзверы і адчыніў іх. На сходцы прысутнічала чалавек сто. Пасля яе студэнты мірна разыходзіліся, але тут зайшоў рэктар і запатрабаваў больш тут не збірацца. Калі студэнты выйшлі на вуліцу, яны ўбачылі конных узброеных казакаў, што акружалі ўваход у будынак універсітэта.

З цікавасці студэнты спыніліся каля дзвярэй. Да іх пад'ехаў харкаўскі губернатар князь Крапоткін. Ён загадаў усім разысціся. У іншым выпадку, сказаў князь, будзе аддадзены

загад страляць. Студэнты паслухаліся, але адзін з іх, Лесавіцкі, вярнуўся і сказаў Крапоткіну:

— Дарэмна вы клікалі казакаў. Гэтая мера толькі раззлуе студэнтаў.

Князь палічыў такія словы дзёрзкімі і даў загад арыштаваць Лесавіцкага. У паліцэйскім участку яго моцна збілі.

На наступны дзень на студэнцкі сход прыйшлі рэктар Пітра і папячыцель Жэрве. Пачаліся ўгаворы. Спачатку ўсё было адносна спакойна, але вось у залу ўвайшоў Лесавіцкі. Ён расказаў пра тое, як паступілі з ім паліцэйскія. Расказ выклікаў гнеўнае абурэнне і новыя хваляванні.

Жывучы на напаўлегальным становішчы, Пякарскі даведаўся ад сяброў, што харкаўскія студэнты звярнуліся да моладзі іншых гарадоў з заклікам уключыцца ў барацьбу з паліцэйскімі парадкамі ў вышэйшай школе. Першымі ў падтрымку харкаўчан выступілі студэнты Пецярбургскага універсітэта і Медыка-хірургічнай акадэміі. Апошнія рашылі звярнуцца з прашэннем да царэвіча. У прашэнні яны выказалі пажаданні мець права збірацца па студэнцкіх справах і пасылаць сваіх дэпутатаў да начальства. У адказ граданачальнік сталіцы Зураў загадаў казакам студэнтаў разагнаць. Адных збілі нагайкамі, другіх кінулі ў казармы Маскоўскага палка...

Чуткі пра выступленні харкаўскіх студэнтаў разварушылі моладзь Масквы і Адэсы, знайшлі водгук у Кіеве. У Кіеўскім універсітэце распаўсюджваліся пракламацыі «Студэнтам усіх вышэйшых навучальных устаноў» і «Да ўсіх, каму трэба ведаць», выпушчаныя землявольцамі ў сувязі з хваляваннямі. Трапілі рэвалюцыйныя пракламацыі і да Пякарскага. У адной з іх ён прачытаў:

«Харкаўскіх студэнтаў універсітэта і ветэрынарнага інстытута аддалі пад суд; на іх быў зроблены напад узброенай сілы, як на непрыяцеля, іх білі паліцэйскія чыноўнікі і зневажалі іх.

За што?

За тое, што харкаўскія ветэрынары не хацелі падначаліцца шкалярскім парадкам, штодзённым рэпетыцыям, якія выдумаў прафан у навуцы прафесар Жураўскі».

З пракламацыі Пякарскі даведаўся пра барацьбу супраць статута вышэйшых навучальных устаноў. Яму давалася такая ацэнка: «Статут сапраўды дзікі, зневажальны для навучэнцкай моладзі вышэйшых навучальных устаноў. Дзіўна не тое, што ён

выклікаў сутычкі і пратэсты з боку моладзі, а тое, што ён змог праіснаваць да цяперашняга моманту.

На нашай радзіме, у краіне патэнтаванага невуцтва, якая гіне ад недахопу адукаваных людзей,— чалавек, які шукае вышэйшай адукацыі, трактуецца па статуту як парыя або нават як чалавек, што займаецца цёмнымі або несумленнымі справамі. Ён падлягае ўзмоцненаму нагляду паліцыі, ён — жандарскае мяса.

Законнае ўсё тое, што скоўвае і праследуе навучэнцкую моладзь, беззаконнае ўсё тое, што прызнае ў ёй грамадзяніна і чалавека.

Тлумачыць пра свае справы студэнту не дазваляецца. Заявы аб сваіх патрэбах лічацца бунтам. Пры сутыкненні з прафесарам студэнт заўсёды застаецца вінаватым: на прафесараў суда няма нідзе.

Вось сутнасць правіл».

Пракламацыя заканчвалася заклікам задумацца, «што больш каштоўна для грамадства — правілы для студэнтаў, або студэнты, для якіх гэтыя правілы выдуманы».

Рускаму грамадству прапанавалася вырашыць і другое пытанне: «ці можна з-за капрызу Жураўскага і Жэрве засудзіць некалькі сотняў заўтрашніх асветнікаў і дзеячаў зямлі рускай».

Улады рашылі канчаткова расправіцца з моладдзю. 7 снежня выйшла пастанова аб забароне сходак і збораў не толькі на вуліцах і плошчах, але і ў навучальных установах. 13 снежня, у другой палавіне дня, ва універсітэце вывесілі аб'яву аб закрыцці яго на зімовыя канікулы.

На наступны дзень студэнты, якія аб'явы не бачылі, прыйшлі на заняткі. Даведаўшыся, што іх не будзе, студэнты выйшлі на вуліцу і ўбачылі вакол універсітэта ланцуг гарадавых. За імі тоўпіўся народ, прываблены незвычайным відовішчам.

«Сабраўшы натоўп,— пісаў потым адзін з відавочцаў,— нашы «пампадуры» пачалі ўгаворваць яго разысціся. Студэнты адказалі, што яны не сыходзіліся, прыйшлі кожны па сваіх справах і пойдуць, калі ім будзе такая патрэба. Тут чыноўнік, які замяшчаў губернатара, прыгразіў прысутным, што пашле за нагайкамі.

З радоў студэнтаў крыкнулі ў адказ:

— Пасылайце!

Пад'ехалі ўзброеныя казакі. Сваімі коньмі яны напіралі на

студэнтаў. Хваляванне ўзмацнілася. На вачах у прысутных гараджан казакі пусцілі ў ход нагайкі, таптали студэнтаў... Ад азвярэлых казакаў перапала і аднаму лабаранту, які спрабаваў заступіцца за студэнтаў, і прафесару Уладзіміраву. Казакі цягалі студэнтаў за валасы, ламалі насы. Калі афіцэр загадаў адступіць, адзін казак усклікнуў:

— Эх! Не далі нават пагрэцца!

Акрываўленыя студэнты сабраліся ў бліжэйшай кухмістарскай. Было вырашана папрасіць падтрымкі ў прафесараў.

Расправа над студэнтамі зрабіла ў горадзе зусім не тое ўражанне, якога чакалі ўлады. Насельніцтва адкрыта спачувала ахвярам тэрору.

Неўзабаве прафесары медыцынскага факультэта пачалі аглядаць раненых, складаць адпаведныя пратаколы. Тых, хто асабліва пацярпеў, адправілі ў клініку. Трое з іх там памерлі».

На пасяджэнні савета універсітэта прафесары склалі пратакол, які тут жа накіравалі губернатару. У пратаколе гаварылася: «Спосаб дзеяння ваенных і грамадзянскіх улад г. Харкава 14 снежня выклікае ва ўсіх нас адчуванне неадольнага абурэння. ... Можна і трэба пакараць людзей, калі яны сапраўды вінаватыя, але выбар сродкаў супраць універсітэцкай моладзі, якая сабралася без усялякіх прыкмет буянства перад дзвярыма аўдыторыі, парушыў просты сэнс ваеннага артыкула, які загадвае ўжываць зброю ў выпадку адкрытага супраціўлення ўладам, але не дае права беспадстаўна прымяняць самы ганебны і варварскі спосаб знявагі збіваннем нагайкамі».

Апошнія фразы пратакола гучалі так: «У заключэнне мы вырашылі звярнуць асаблівую ўвагу вашага сіяцельства на выхаваўчае значэнне таго, што адбылося. Тое, што арыштаваных, будучых урачоў, настаўнікаў, адвакатаў, суддзяў, якія належаць да ўстановы, што знаходзіцца пад асобай апекай яго імператарскай высокасці, да суда, пры ўсім народзе білі нагайкамі, можа абудзіць у будучых грамадзян шмат шкоднага для грамадства і дзяржавы».

Газета «Земля и воля» адгукнулася на харкаўскія падзеі наступным зваротам да моладзі: «А наша сённяшняя парада студэнтам, — працягвайце, як і заўсёды, аднойчы пачатую справу, не спыняйцеся на паўдарозе, не стварайце ў сваёй маладосці ганебнага прэцэдэнту адмаўляцца ад сваёй мэты пры першай небяспецы.

Справядлівасці, праўды і суда ад урада не чакайце. Ён узнагародзіць генераламі ад кавалерыі сваіх башыбузукаў, а вас загоніць ва Усходнюю Сібір.

Калі вы кінеце цяпер вашу справу, усе ахвяры рызыкуюць прапасці дарэмна, а паміж тым пры настойлівасці можна дабіцца якіх-небудзь вынікаў».

У пракламацыі «Да грамадства» землявольцы звярталіся да рускага грамадства з такімі словамі: «Цяпер ты дажыло да таго, што з твайго маладога пакалення выбіваюць нагайкамі рэшткі веры ў цябе, рускае грамадства, і ў твой урад».

У Харкаве пачаліся арышты. 332 чалавекі былі накіраваны ў арыштанцкія роты. Усё гэта яшчэ больш узмацніла рэвалюцыйны дух — нават сярод тых, хто лаяльна ставіўся да ўрада. Аднаго студэнта, які раней выступаў за легальныя сродкі барацьбы, казакі так збілі, што яго давялося пакласці ў клініку. Там ён сказаў таварышам:

— Лічыце мяне нягоднікам, калі я не стану цяпер выступаць супраць урада!

Многія студэнты кідалі універсітэт, каб перайсці да падпольнай барацьбы супраць царызму.

Вопыт 1878 года дапамог моладзі зразумець, што легальным шляхам яна не даб'ецца паляпшэння свайго становішча.

Неўзабаве губернатара Крапоткіна, які дазволіў расправу над студэнтамі, спасцігла заслужаная кара. Калі ён праязджаў па гораду, на падножку карэты ўскочыў рэвалюцыянер Гольдэнберг і застрэліў яго. Паводле сведчання Буцынскага, гэта «прывяло да ўсеагульнай радасці сярод студэнцтва».

Якраз у гэты час Пякарскі ўрэшце выехаў у Тамбоў.

## У НАРОД!

У Княжа-Багародзіцкім валасным упраўленні Тамбоўскага павета (цяпер Знаменскі раён Тамбоўскай вобласці) прымаў справы новы пісар Іван Кірылавіч Пякарскі. Так стаў называць сябе былы харкаўскі студэнт, каб сваім нярускім імем Эдуард не выдзяляцца сярод сялян.

Ранейшы пісар, п'яніца Цапенка, звычайна любіў пасваво-

ліць, паздзекавацца з простага люду. Не прамінуў ён гэтай аказіі і цяпер.

— Паглядзім, як вы тут справіцеся без мяне!— задзіраўся Цапенка.

— Ды ўжо неяк справімся без вашай міласці,— адказвалі старыя сяляне.

Пякарскі пакуль што маўчаў. Толькі патрабаваў у Цапенкі вопіс валасных спраў, які дапамог бы яму хутчэй уключыцца ў работу.

— Я сам вопісу не прымаў, то і вам не перадам!— упіраўся той.

— Не перадавайце, толькі давайце складзём акт аб тым, што я ад вас прыняў,— спакойна, але цвёрда адказаў новы пісар.

Пасля доўгіх перагавораў Цапенка ўрэшце падпісаў акт аб перадачы спраў і кудысьці выехаў.

Вопыту вядзення справаводства ў Пякарскага было мала. Ён разумеў, што давер'е сялян заваюе толькі тады, калі будзе для іх карысны. Таму днямі і начамі сядзеў ён над паперамі, пакуль не засвоіў справу. Да сялян ставіўся ён з павагай, не выказваючы перавагі ці зазнайства. Ніколі не затрымліваў ніводнай паперы, усе даведкі і пашпарты выдаваў адразу. І пайшла па воласці слава пра новага пісара. Мужыкі лічылі Івана Кірылавіча чалавекам талковым, справядлівым, гатовым заўсёды дапамагчы людзям. Жыў Пякарскі ў звычайнай сялянскай хаце. Вядома, што быў ён не адзіным рэвалюцыянерам на тагачаснай Тамбоўшчыне. У мясцовым земстве служыў аграномам кандыдат сельскагаспадарчых навук Міхаіл Уладзіміравіч Дзевель, высланы сюды за неблаганадзейнасць. Вакол яго гуртавалася даволі многа землявольцаў. Адзін з іх, Аптэкман, успамінаў пра Дзевеля: «Ён шмат зрабіў для нас. Дзелавіты, сур'ёзны, практычны, з некаторымі сувязямі ў горадзе, ён быў для нас незаменны».

Пазнаёміўшыся з Дзевелем, Пякарскі пасяліўся на яго кватэры. Неўзабаве ў Тамбоў прыехаў памешчык Міхаіл Іванавіч Сацін і стаў нязменным членам павятовай канцылярыі па сялянскіх справах. Ён вельмі лічыўся з Дзевелем, які зарэкамендаваў сябе вопытным спецыялістам. Выкарыстоўваючы яго давер'е, Міхаіл Уладзіміравіч рэкамендаваў на работу ў павеце рэвалюцыянераў, якія хаваліся ад царскай улады. Праўда, за

актыўную арганізацыю падполля яму потым доўгія гады давялося правесці ў тамбоўскай турме і ў сібірскай ссылцы...

Але напачатку з дапамогай Дзевеля ў Тамбоўскай губерні ўтварыўся рэвалюцыйны гурток. У Тамбоў перабраўся адзін з заснавальнікаў арганізацыі «Зямля і воля», актыўны прапагандыст сярод сялян і рабочых Сяргей Харызаменаў. Дзевель уладкаваў яго на работу валасным пісарам. Па рэкамендацыі зноў жа Міхаіла Уладзіміравіча фельчарам працаваў Восіп Аптэкман, які «пайшоў у народ» з Медыка-хірургічнай акадэміі. Нейкі час ён быў у Пскоўскай і Пензенскай губернях, а ў Тамбоўкую перабраўся ўжо з саратаўскага гуртка. Валаснымі пісарамі з лёгкай рукі Дзевеля сталі таксама землявольцы Любаў і Данілаў. Апрача іх у тамбоўскі гурток уваходзілі некалькі прыезджых і з дзесятак мясцовых народных настаўнікаў.

На адным са сходаў землявольцы саставілі падрабязны план прапагандысцкай дзейнасці, пра які Пякарскі потым прыгадваў наступнае: «Першай практычнай нашай задачай было адшукаць паміж сялянамі больш свядомых людзей, таксама будучых прапагандыстаў у сялянскім асяроддзі, а затым, пасля адпаведнай іх падрыхтоўкі,— утварыць земляробчыя арцелі для барацьбы з памешчыкамі на эканамічнай глебе; мелася на ўвазе дабіцца таго, каб, апрача арцелі, памешчык не мог знайсці сабе рабочых».

У чэрвені 1879 года Пякарскі пераехаў працаваць пісьмаводам да Саціна. Выкарыстоўваючы новую пасаду, ён дапамагаў іншым пісарам. Прыкладна ў той жа час Іван Кірылавіч, як ён сябе называў, пазнаёміўся з рэвалюцыянерам Львом Гартманам, вядомым сярод падпольшчыкаў пад мянушкай «алхімік». Сваю рэвалюцыйную дзейнасць Гартман пачынаў таксама ў Таганрогу, але на год пазней за Эдуарда. Пазней «алхімік» стварыў на сваёй кватэры ў Растове-на-Доне народніцкую камуну, хаваўся ад арышту ў Крыме і на Кубані. У Тамбоў ён пераехаў таксама пасля саратаўскага гуртка. Пад імем Уладзіміра Троіцкага Дзевель уладкаваў Гартмана пісарам у Іванаўскай воласці.

У красавіку 1879 года народнік Салаўёў зрабіў няўдалы замах на жыццё імператара. Пасля гэтага рэпрэсіі супраць землявольцаў узмацніліся. Напала на след мясцовых рэвалюцыянераў і тамбоўская паліцыя. Быў арыштаваны Машчанкоў. Паліцыя перахапіла таксама пісьмо ад Дзевеля да Гартмана (Троі-

цкага), дзе паведамлялася пра жанчыну, члена тамбоўскага гуртка, якую прызначылі фельчарыцай медыцынскага пункта каля Іванаўскага. Гэта выклікала падазрэнні. За «Троіцкім» пачалі сачыць ураднік і жандар.

Адчуўшы, што хмары згушчаюцца, Леў Гартман папрасіў у Сацiна водпуск, каб куды-небудзь выехаць. Але набліжаўся збор падаткаў, і пісар абавязкова павінен быў пры гэтым прысутнічаць. Таму Сацін не адпускаў «Троіцкага». Тады пахадайнічаць за таварыша ўзяўся Пякарскі.

— Навошта Троіцкаму так неадкладна трэба ў водпуск,— дзівіўся Сацін.

Пякаркі сказаў першае, што прыйшло на думку:

— Жаніцца надумаў!

— Вось дурань!— нечакана адрэагаваў Сацін. І... даў дазвол на водпуск.

Пякарскі напісаў загад аб двухтыднёвым водпуску пісара «Троіцкага», і Гартман, не выклікаючы ніякіх падазрэнняў з афіцыйнымі дакументамі выехаў з Тамбова.

Прыкладна ў той жа час непадалёку ад мясцін, дзе працавалі Пякарскі і яго аднадумцы, у Ліпецку, Варонежы, а затым Пецярбургу адбыліся народніцкія з'езды, якія выявілі значнае разыходжанне ў думках, і ўрэшце прывялі да расколу. Прыхільнікі палітычнай барацьбы стварылі арганізацыю «Народная воля» з тэрарысцкім ухілам. Другая група — «Чорны перадзел» працягвала прапагандысцкую работу сярод народа, аднак без асаблівага поспеху. Неўзабаве «Чорны перадзел» перастаў існаваць.

Аптэкман пасля пісаў: «Арганізацыя гурткоў, асобы, якія ўваходзілі ў склад гурткоў, выклікалі задавальненне... Можна было спадзявацца, поўнасцю разлічваць на поспех. Але — на жаль — нашы спадзяванні з самага пачатку былі атручаны ядам сумненняў і важкіх трывог. Дзе нашы легіёны? Нас так мала: усё старая гвардыя, ветэраны. Дзе маладыя сілы, якія змогуць нас змяніць у выпадку, калі мы знікнем? А менавіта гэтых маладых сіл у нашых сельскіх гуртках амаль не было. У Тамбоўскім гуртку, напрыклад, быў адзіны Пякарскі, праўда, ён адразу зарэкамендаваў сябе з лепшага боку, але ўсё ж толькі адзін... Становішча ў вёсцы было няўстойлівае, хісткае...».

У адрозненні ад чорнапeрадзельцаў, нарадавольцы павялі актыўную барацьбу супраць самадзяржаўя. Праўда, не ўлі-

чвалі яны класавую барацьбу ў краіне, і асновай іх дзейнасці былі вузкія змовы. Пераход да такой тактыкі быў абумоўлены тым, што рэвалюцыянеры пераканаліся ў немагчымасці ўзняць сялянскія масы супраць царызму. Нарадавольцы спадзяваліся, што, забіўшы цара і дзесятак вышэйшых чыноўнікаў, яны пры падтрымцы рабочых і салдат звергнуць самаўладства.

Гартман, пакінуўшы Тамбоў, стаў нарадавольцам. У жніўні ён быў ужо ў Пецярбургу і працаваў у дынамітнай майстэрні. Потым пераехаў у Маскву, дзе з Соф'яй Пяроўскай і іншымі нарадавольцамі спрабаваў зрабіць замах на цара — рыхтаваў падкоп пад рэйкі чыгункі, па якой павінен быў ехаць Аляксандр II. Тэхнічныя разлікі, устаноўку батарэй і ўзрыўчаткі рыхтавалі Кібальчыч і Шыраеў. Выбух адбыўся 19 лістапада, аднак замах не ўдаўся, і «алхіміку» прыйшлося ў снежні 1879 года ўцякаць у Францыю. Па патрабаванню рускіх улад французская паліцыя арыштавала Гартмана і гатова была выдаць яго назад. Але ў справу ўмяшаліся рускія эмігранты. У друку з'явіліся таксама выступленні Гюго, Гарыбальдзі і іншых вядомых грамадскіх дзеячаў. Усё гэта сарвала планы царызму.

Пра справы Гартмана Пякарскі даведаўся крыху пазней. Пасля ад'езду «алхіміка» і яму жылося нялёгка. Летам 1879 года, пасля забойства ката харкаўскіх студэнтаў Крапоткіна, пачаліся новыя арышты. 28 жніўня паліцыя зноў узяла Мікандра Машчанкова, які ў гэты час па рэкамендацыі Пякарскага працаваў у Княжа-Багародзіцкай воласці. Пякарскі вымушаны быў пайсці ў падполле. У ноч на 30 жніўня ён знік. Некалькі дзён жыў у Тамбове, потым сябры дапамаглі яму атрымаць пашпарт на імя мешчаніна Мікалая Палуніна і выехаць у Духаўшчынскі павет Смаленскай губерні. Але там ён адразу выклікаў падазрэнні ў мясцовага станавога пристава. Давялося падавацца ў Маскву...

## ПА АСТРОГАХ І ЭТАПАХ

У Маскве Эдуарда Карлавіча чакала толькі канспіратыўнае жыццё, і перад калядамі 1879 года ён выбраўся ў Пятроўскія Выселкі. Цяпер Выселкі ўваходзяць у межы Масквы, а тады дабірацца да іх было даволі нялёгка і доўга. Тут у дачных до-

міках кватараваліся студэнты Пятроўска-Разумаўскай сельскагаспадарчай акадэміі.

Яшчэ па дарозе Пякарскі заўважыў, што за ім сочаць, таму з Выселак меркаваў зноў вярнуцца ў горад, але таварышы ўгаварылі яго застацца.

...Ён яшчэ ляжаў у ложку, калі ў пакой пастукалі... Увайшлі жандары і інспектар акадэміі. Жандарскі капітан запатрабаваў пашпарт. Эдуард паказаў — на імя Мікалая Палуніна. Афіцэр запытаў, ці лічыцца такі студэнт у акадэміі.

— Не, такога я не ведаю.— Такі быў адказ інспектара...

— Апранайцеся!

Пякарскага тут, у Выселках, дапыталі, склалі пратакол, потым пасадзілі ў санкі і павезлі ў горад. Быў люты мароз. Капітан Каржавін (у некаторых крыніцах — Каровін) спытаў у арыштаванага:

— Няўжо ў такую халадэчу вы ходзіце ў драпавым паліто?

— Маё футра,— адказаў Пякарскі,— засталося ў сталоўцы, дзе я ўчора абедаў!

Каржавін, мабыць, пашкадаваў арыштаванага, і, каб ён крыху абагрэўся, спярша павёз Эдуарда не ў жандарскае ўпраўленне, а на сваю кватэру. Напаіў маладога чалавека кавай, затым папрасіў, каб Пякарскі аддаў яму сваю запісную кніжку з грыфельнымі лісткамі, на якіх крэйдай былі зроблены паметкі (Пякарскі не паспеў іх сцерці). Пасля доўгага разгляду кніжка была вернута са шматзначнай заўвагай: «Схавайце яе, яна яшчэ вельмі спатрэбіцца». Эдуард зразумеў, што дапусціў памылку, пакінуўшы пры сабе дакументы. На шчасце, вартавыя не звярнулі ўвагу на словы капітана, а Пякарскі папрасіў паказаць, дзе тут туалет. У гэты момант юнаку прыгадаліся радкі з «Былога і дум» Герцэна: «Можна быць жандарскім афіцэрам, не страціўшы ўсёй чалавечай годнасці»...

Відаць, капітан, пры ўсіх яго манархічных перакананнях, паспачуваў тым абставінам, у якіх аказаўся малады чалавек. Ён даў магчымасць Пякарскаму пайсці без аховы ў туалет. Там Эдуард сцёр запісы ў запісной кніжцы, а таксама знішчыў фатаграфіі, што былі з ім. Пакінуў толькі фатаграфію каханай дзяўчыны, захаваўшы яе паміж вечкамі кішэннага гадзінніка. Каржавін жа пры допытах потым не нагадваў яму ні пра кніжку, ні пра фатаграфіі...

Першыя два месяцы пасля арышту Пякарскі правёў у

Бутырскім турэмным замку. На допытах трымаўся добрай парады, якую яму даў яшчэ Снегіроў: маўчаць, не адказваць нават на бяскрыўдныя пытанні, інакш можна заблытацца, навесці на след таварышаў. А каб не прагаварыцца праз сон, па начах Пякарскі, рызыкуючы задыхнуцца, трымаў у роце «ляльку» — загорнуты ў насоўку гузік.

Пасля допытаў было папярэдняе следства, потым перавод у Прачысценскую паліцэйскую часць. Там Пякарскі сустрэў іншых рэвалюцыянераў, што чакалі прызначэння месца ссылкі. У гэтай часці было значна лягчэй. Чыноўнікі паводзілі сябе тут памяркоўна. Сучаснік Пякарскага пісьменнік Караленка, які адначасова з ім сядзеў у турме за рэвалюцыйную дзейнасць, трапна назваў такіх служачых «добрымі людзьмі на кепскім месцы».

Акалодачны Лаўроў дазваляў, напрыклад, арыштаваным сыходзіцца разам на чай, а сам у гэты час прагульваўся з кім-небудзь з арыштантаў па двары. Калі аднойчы з'явіўся падасланы даносам прыстаў, усе паспелі непрыкметна разысціся па камерах. І ўсё ж Лаўрова па таму даносу звольнілі. Арыштаваныя адказалі дружным пратэстам: паламалі сталы, табурэткі, рукамыйнікі, выбілі вокны. Пры гэтым Пякарскі моцна парэзаў палец, і шрам застаўся на ўсё жыццё як памін пра згуртаванасць таварышаў-рэвалюцыянераў. Прыстаў бегаў па калідоры і дапытваўся пра прычыну пагрому.

— Сам ведаеш, нягоднік!— адказвалі яму з камер.

Рассялялі зняволеных па розных часцях, і Пякарскі трапіў у гарадскую. Тут яго адразу ж абшукалі, але не здагадаліся заставіць зняць туфлі, у якіх ён праз некалькі паліцэйскіх часцей і турму пранёс сцізорык. Хутка Эдуарда зноў перавялі ў тую ж Прачысценскую часць, дзе ён сутыкнуўся з акалодачным па прозвішчу Сямёнаў. Апошні таксама аказаўся «добрым чалавекам на кепскім месцы». Ён дазваляў Пякарскаму сустракацца з рэвалюцыянерамі Вольгай Нікіфаравай і Марыяй Вегнер-Гінтэр. Калі яны прыходзілі, акалодачны захінаўся газетай і рабіў выгляд, што заняты чытаннем. Так, наведвальніцы ўсунулі аднойчы ў кішэню Эдуарда грошы, запіску і пашпарт. Калі сустрэча закончылася і Пякарскі вярнуўся да сябе ў камеру, Сямёнаў зайшоў услед за ім, замкнуў дзверы і, падышоўшы да яго ўпрытык, ціха сказаў:

— Дайце слова гонару, што вы не атрымалі зброі.

Эдуард даў такое слова. Сямёнаў падаў яму на развітанне руку і выйшаў з камеры. У той жа дзень Пякарскі атрымаў копіі паказанняў сваіх таварышаў і знаёмых, якіх меліся выклікаць на суд сведкамі. Копіі падказвалі яму, як весці сябе на працэсе.

Вядома, Сямёнаў ведаў пра перадачы Пякарскаму, але паступаў як сумленны чалавек. Калі б у вязня знайшлі перададзеныя паперы, усё магло б скончыцца вельмі кепска — і для яго, і для жанчын, якія прыходзілі на спатканне, і для сведак, якіх таксама пасадзілі б на лаву падсудных...

У «Гісторыі майго сучасніка» Караленка так тлумачыў паводзіны турэмных служачых, якія добразычліва адносіліся да палітзняволеных: «Я заўважыў наогул, што ўзмацненне адміністрацыйнага парадку і арышты без суда выклікалі неразуменне ў старых служкаў турэмнага ведамства. Да гэтага часу яны ўсё ж прызвычаіліся, што ў Расіі пачынала ўсталёўвацца законнасць. У турмы прыводзілі злодзеяў, разбойнікаў, людзей, якія так або інакш мелі адносіны да парушэння законаў. Кожны арышт суправаджаўся дакладным указаннем артыкула абвінавачвання. Цяпер даводзілася мець справу з людзьмі, у большасці сваёй інтэлігентчымі, якіх па сутнасці ні ў чым не абвінавачвалі. Гэта збівала з панталыку ранейшых служкаў і выклікала ў іх няўпэўненасць у справядлівасці іх уласнага становішча».

Па-рознаму рэагуюць на няшчасце чалавека яго родзічы і блізкія. Чуткі, як кругі па вадзе ад кінутага каменя, разыходзяцца сярод людзей... Так было і з арыштам Эдуарда Пякарскага. Сябра яго дзіцячых год Ф. Абрамовіч пазней успамінаў: «...яго родныя адракліся ад яго, спынілі з ім усялякія зносіны. Ніхто не ўспамінаў пра ранейшыя сімпатыі і, паміж іншым, не адважваўся чым-небудзь дапамагчы або паспачуваць»...

Калі Пякарскі сядзеў у турме, у Маскву прыязджаў яго дзядзька, кампазітар Раманоўскі. Але, нягледзячы на абяцанне, наведаць пляменніка так і не прыйшоў. Пазней Эдуард Карлавіч пісаў пра яго так: «У колькі разоў высакародней яго Соф'я Якімовіч, якая напісала мне, рызыкуючы выклікаць гнеў свайго шаноўнага бацькі». Соф'я Якімовіч была дачкой суседа Эдуардавага дзеда па Барбарову. Бацька, вядома, забараняў ёй перапісвацца з «дзяржаўным злачынцам».

Стары Рамуальд Пякарскі, даведаўшыся пра нягоды свай-

го ўнука, спачатку абураўся яго паводзінамі і не хацеў нічым яму дапамагчы, але перад смерцю ў сваім завяшчанні адпісаў Эдуарду палавіну грошай. Праўда, разлікі потым былі зроблены так блытана, што Пякарскі нічога не атрымаў, але сам факт быў прыемны. Выканаўцам завяшчання быў бацька Соф'і, якога суседзі абвінавачвалі ў нейкіх «няправільнасцях». І, мяркуючы па ўсім, падставы для гэтага былі...

Урэшце справа Эдуарда Пякарскага трапіла ў суд. 10 і 11 студзеня 1881 года ў Маскоўскім ваенна-акруговым судзе, які размяшчаўся ў Хамоўніцкіх казармах, разглядалася «Справа двараніна Эдуарда Карлавіча Пякарскага», які абвінавачваўся «ў прыналежнасці да супрацьзаконнай суполкі людзей, што мелі на мэце звергнуць існуючы дзяржаўны і грамадскі лад, а таксама ў тым, што знаходзіўся ў злачынных зносінах з дзяржаўнымі злачынцамі Гартманам і Чарнігаўскім».

У залу суда ўпускалі толькі па білетах. Пракурор з усіх сіл імкнуўся даказаць, што Пякарскі з'яўляецца закаранелым дзяржаўным злачынцам. Праўда, доказаў рэвалюцыйнай дзейнасці было недастаткова. Але нават іх адсутнасць ставілася ў віну падсуднаму: гэта, маўляў, даказвала яго вёрткасць і спрыт.

Суд прызнаў Пякарскага «вінаватым у прыналежнасці да тайнага таварыства, якое мела на мэце звергнуць пры дапамозе сілы дзяржаўны і грамадскі парадак». Прысуд абвяшчаў: «Пазбавіць яго маёмасных правоў і выслаць на катаржныя работы ў руднікі тэрмінам на 15 гадоў». Канчатковае рашэнне было крыху мякчэйшым: ссылка ў Якуцію.

У лютым 1881 года Пякарскаму паведамілі, што яго пераводзяць у Вышневалоцкі палітычны астрог Цверскай губерні. Перад дарогай зняволены, збіраючыся ўцячы, зашыў у шапку грошы і пашпарт. Але план не ўдаўся.

У Вышневалоцкай турме Пякарскі сустрэў свайго таварыша па тамбоўскаму гуртку Восіпа Аптэкмана. Паводле ўспамінаў Караленкі, які сядзеў тут некалькімі месяцамі раней, рэжым у гэтай турме быў суровы. Напярэдадні апісаных падзей міністрам унутраных спраў быў прызначаны князь Лорыс-Мелікаў, палітыку якога празвалі палітыкай «лісінага хваста» і «воўчай пашчы».

Паколькі рэвалюцыйны рух і спачуванне да яго ў грамадстве ўзрасталі, новы міністр пашырыў паліцэйскія рэпрэсіі. «Нядобранадзейных» сталі высылаць цэлымі партыямі. Вышневалоцкая палітычная турма была якраз і прызначана для такой

масавай высылкі рэвалюцыянераў і спачуваючых. Чакаючы адкрыцця навігацыі па рэках, тут фарміравалі партыі, каб потым пераправіць іх ва Усходнюю Сібір. Строгія інструкцыі выконваліся да дробязяў. Цверскі губернатар Сомаў адносіўся да палітычных зняволеных з жорсткай варожасцю. На іх харчаванне адпускалася ўсяго трынаццаць капеек у дзень. Дабаўляць сваіх грошай не дазвалялася. Існавала розніца паміж «прывілеяванымі» і «непрывілеяванымі» зняволенымі. На апошніх адпускалі яшчэ менш сродкаў. Таму палітычныя хадзілі напаўгалоднымі. Бялізну і адзенне дазвалялі насіць толькі казённыя. Паперу і алоўкі адбіралі. Пісьмовыя прылады вязні бывала паціху бралі ў канцылярыі, дзе ім дазвалялася пісаць пісьмы да родных.

Кожную раніцу каравульны афіцэр, наглядчык і добрая палавіна ўзвода салдат абыходзілі камеры і пералічвалі зняволеных. Пасля гэтага дзверы камер да снедання былі адчынены. Арыштанты мыліся, пілі ячменную каву. Потым камеры замыкалі. Вязняў апаноўвала туга. Чытаць амаль забаранялася. На кожную кнігу даводзілася падаваць спецыяльную просьбу. Прашэнне ішло ў Цвер, на імя губернатара. Той доўга не адказваў або зусім забараняў выдачу кнігі.

Караленка прыгадаў, што раман Тургенева «Навіна» Сомаў забараніў выдаць зняволеным, паколькі там паказана «хаджэнне ў народ». Затое «Капітал» Маркса быў дазволены. Польскаму марксісту, які прывёз з сабой гэту кнігу, задалі пытанне:

— Што гэта?

— Гэта кніга вучыць, як нажываць капітал...

Так «Капітал» застаўся ў зняволеных.

У пачатку сакавіка 1881 года ў Вышневалоцкую турму прыйшлі звесткі, пра тое, што ў Пецярбургу нарадавольцы забілі цара Аляксандра II. Зняволеныя горача абмяркоўвалі гэту падзею. Імператара, вядома, не шкадавалі. Ён ні разу не праявіў жадання змякчыць строгія рэпрэсіўныя меры ў дачыненні да сваіх праціўнікаў. Наадварот, яшчэ павялічыў суровыя кары, загадаў адправіць у новую ссылку (у Вілюйск) Чарнышэўскага.

Калі наступіла вясна і рэкі вызваліліся ад лёду, зняволеных пачалі рыхтаваць да адпраўкі ў Сібір. Іх выклікалі ў кантору, агледзелі, пагрузілі на падводы рэчы. І вось вароты турмы расчыніліся. З іх пацягнулася шэрая калона арыштантаў...

Некалькі вёрст ішлі да вакзала. Там іх пагрузілі ў арыш-

танцкі вагон і павезлі ў Ніжні Ноўгарад. У Маскве прыпынку не было. У Ніжнім Ноўгарадзе да іх далучылі вязняў з цэнтральных катаржных турмаў і ўсіх пасадзілі на арыштанцкую баржу. Наступнай раніцай баржа, якую буксіраваў параход, паплыла па Волзе...

Усе дні праводзілі зняволеныя на палубе. Яны захапляліся панарамай волжскіх берагоў, свежым паветрам. Па Каме дабраліся да Пярмі. Цягнік на Екацярынбург адыходзіў у восем гадзін вечара. На вакзал ішлі, звонячы кайданамі, акружаныя двайным ланцугом узброенага канвою. Перад адыходам цягніка вакол сабраўся вялізны натоўп: усім хацелася паглядзець на «царазабойцаў». На наступны дзень паплылі за акном Уральскія горы...

Ад Екацярынбурга да Цюмені арыштантаў везлі на фурманках, з Цюмені — на баржах па сібірскіх рэках у Томск, а адтуль — пешкі ў Краснаярск.

Летам 1881 года ў краснаярскім астрозе многа сабралася «дзяржаўных злачынцаў»— больш як паўтары сотні. Пякарскі ўспамінаў пазней: «Я рады быў сустрэць сярод арыштантаў шмат людзей, пра якіх чуў і ведаў толькі па судовых працэсах і па прамовах і якіх уяўляў як герояў, што неслі на сабе ўвесь цяжар барацьбы за народныя інтарэсы». Ён адчуваў нават гонар — быць роўным гэтым загартаваным людзям. Тут быў і Аляксандр Даўгушын — арганізатар гуртка «даўгушынцаў», удзельнікі якога былі прасякнуты бунтарскімі настроямі. «Даўгушынцы» клікалі інтэлігенцыю «ісці ў народ», заклікаць яго да паўстання. У 1873 годзе гурток быў разгромлены, Даўгушын жа — прысуджаны да дзесяці гадоў катаргі.

Сустрэў тут Пякарскі і герояў «працэсу 193-х» — Іпаліта Мышкіна, Міхаіла Сажына, блізкага да тэарэтыка бунтарства і анархізму Бакуніна, а таксама ўдзельнікаў «працэсу 50-ці»— Івана Джабадары, Аляксандра Цыцыянава, Георгія Здановіча, Пятра Аляксеева і іншых.

Неўзабаве зняволеныя заснавалі арганізацыю, якая дапамагала больш бедным таварышам. Жыццё ў астрозе было параўнальна зносным. Начальнікам яго быў Астроўскі — сам былы арыштант. Спачатку ён нават даваў зняволеным магчымасць сустракацца са ссыльнымі, знаёмымі, але пазней стаў сваявольнічаць. Даўгушын выступіў супраць гэтага і быў пакараны.

У Краснаярску зноў чакалі адпраўкі па этапах. Калі надышоў гэты дзень, арыштантаў закавалі ў кайданы і скіравалі па тракту ў Іркуцк...

Умовы на этапах былі такімі цяжкімі, што рэвалюцыянераў часта сустракалі як гаротных нявольнікаў. Аптэкман успамінаў пазней, як прыйшлі яны аднойчы на этап мокрыя да ніткі і «...раптам у вялікую камеру з'явіліся этапны начальнік разам з салдатамі, якія неслі падносы, а на падносах чай, пячэнне, варэнне — усім па порцыі, а ў дадатак яшчэ па чарцы гарэлкі. Чым не ідылія? Мы былі расчулены»...

На іншым этапе мясцовы афіцэр папрасіў Аптэкмана, фельчара па прафесіі, агледзець яго жонку і дзіця. Паколькі рэвалюцыянер адмовіўся ад ганарару, афіцэр з удзячнасцю прыслаў яму і яго сябрам прадукты.

Неўзабаве ідылія скончылася. Адзін з народнікаў уцёк, і адносіны да рэвалюцыянераў тут жа змяніліся. Ім нават надзелі ручныя кайданы.

На адным з этапаў, у Канску, Пякарскі, занадта лёгка апрануты для Сібіры, захварэў на запаленне лёгкіх. Да Іркуцка яго везлі на санках...

27 верасня 1881 года яны нарэшце былі ў Іркуцку... Праз адзінаццаць дзён Эдуарда накіравалі адсюль на пасяленне ў Якуцію. Ён развітаўся з таварышамі і пакінуў палітычнае аддзяленне астрога. У канторы яго чакаў жандар і канвойны салдат, якія павінны былі суправаджаць ссыльнага ў доўгай дарозе: да Якуцка было тры тысячы вёрст...

Адвячоркам рушылі ў дарогу. За горадам пачыналіся пакатыя лясістыя ўзгоркі. Ямшчык адвязаў ад дугі званочак. Палазы стукалі па выбоінах дарогі, што вяла да вярхоўяў Лены. Праехаўшы каля сотні вёрст па берагавой дарозе, вазок з'ехаў на рачны лёд. Абапал віднеліся дзікія гарыстыя берагі Лены. Іх ахутваў туман, што ўздымаўся ад ракі. Краявід быў велічны і журботны.

Тым часам праехалі Кірэнск, абмінулі Віцім і Мухтую. Перад Алёкмай сталі трапляцца эвенкійскія караваны аленяў з грузам на крыжах. Алені з галінастымі, закінутымі на спіну рагамі ішлі, пагойдваючыся пад ношай. На некаторых з іх сядзелі эвенкі ў футрах. Везлі на продаж восеньскую паляўнічую здабычу...

2 лістапада 1881 года Пякарскі і яго канваіры нарэшце ўба-

чылі ўскраіны Якуцка. Ішоў снег. Вазок праімчаў паўз драўляныя дамы і «балаганы», спыніўся каля мураванкі. Тут Пякарскаму належала пражыць многія гады...

## ПАД ПАЎНОЧНЫМ ЗЗЯННЕМ

Якуція... Скалістыя горы, зарослыя дрымучымі лясамі раўніны. Кедры, елкі, піхты, лістоўніцы зрэдку перамежваюцца бярозамі, рабінамі. У некаторых месцах тайга знянацку расхінаецца, каб прапусціць праз сябе раку або даць месца для дзесятка-другога хацін,— і зноў сыходзіцца...

З поўдня Якуція аддзелена ад Прыбайкалля высокімі гарамі. З захаду да яе таксама не прабрацца праз тайгу і ўзвышшы. І толькі ўздоўж Лены, з паўднёвага захаду, у гэты край прыходзілі і прыплывалі продкі якутаў — жывёлаводы з Прыбайкалля. Яны ўмела вялі гаспадарку. Носьбіты цюркскай мовы, шмат цікавага ўнеслі яны ў мясцовую культуру.

Шлях з Прыбайкалля на поўнач быў нялёгкім. Продкі якутаў гналі з сабою статкі жывёлы. Часова асядалі яны на нерэдкіх стэпавых участках, потым рухаліся далей. Сяліліся пераважна па Лене і яе прытоках — Алёкме, Вілюі, Амзе — у рачных поймах і на лугах навокал таёжных азёраў. Гэтыя мясціны былі зручныя для выпасу жывёлы. Да якутаў далучаліся паляўнічыя, аленяводы, рыбакі з мясцовых плямён — эвенкі і юкагіры. Па ўзроўню сваёй гаспадаркі якуты прыкметна адрозніваліся ад іншых народнасцей Сібіры, яны ўжо выплаўлялі жалеза, выраблялі з яго зброю і прадметы хатняга ўжытку; сярод якутаў было нямала майстроў-ювеліраў.

У XVII стагоддзі ў даліне Лены з'явіліся рускія казакі. Яны прыйшлі за футрам, якое высока цанілася на еўрапейскім рынку.

Якуцію рускія асвойвалі, зыходзячы са сваіх эканамічных інтарэсаў, і хаця працэс гэты адбываўся далёка не ідылічна, новыя кантакты мелі для якутаў велізарнае значэнне. Ад рускіх яны пераймалі новыя рамёствы, элементы культуры. Да суровай прыроды Поўначы мясцовае насельніцтва прыстасавалася добра. Нягледзячы на сацыяльны і эканамічны прыгнёт, колькасць яго павялічвалася.

Але для тых, каго царскі ўрад накіроўваў сюды ў ссылку, край гэты быў пагібельным. Улады хацелі зрабіць усю Якуцію велізарным астрогам — без сцен і кратаў, без засоваў і замкоў. Астрогам надзейным, адкуль уцячы практычна немагчыма. Ды і ўцёкаў начальства не баялася, рэдкія паселішчы, адсутнасць дарог, цяжкапраходныя лясы і балоты — такія ўмовы ніякіх надзей на ўцёк не пакідалі...

Становішча ссыльных было цяжкім. Жылі яны амаль у поўнай ізаляцыі ад навакольнага свету. На іх долю выпадалі толькі «стасутачная» палярная ноч з жудаснымі маразамі і страшэнная галеча...

У Якуцку Пякарскага спачатку завезлі ў двухпавярховы дом: тут жыў губернатар, тут знаходзілася яго канцылярыя. Ссыльнаму паведамілі, што жыць ён будзе за 230 вёрст на ўсход ад Якуцка ў Першым Ігідзейскім наслегу Батурускага улуса (наслег у Якуціі адпавядаў рускай воласці, улус — павету). Цяпер гэта мясцовасць уваходзіць у склад Аляксееўскага раёна Якуцкай АССР.

Некалькі сутак Пякарскі правёў у велізарным драўляным будынку астрога, а потым яго скіравалі на месца пасялення. Суправаджалі Эдуарда Карлавіча двое мясцовых казакаў, якіх называлі ў той час «унтавым войскам» — па назве мясцовага абутку — «унты». У іх казакі прыходзілі нават на парадныя агляды.

Калі вазок перабраўся цераз замерзлую Лену, за прыбярэжнай паласой скончыўся хваёвы лес і пачалася лістоўнічная тайга. Дзень быў марозны і светлы. Усё здавалася дзіўным, асабліва тое, што ямшчыкі спынялі час ад часу коней і даставалі з іх ноздраў ледзяшы.

Часам на цёмным фоне лясоў узнікаў слуп дыму. Гэта значыла, што непадалёку якуцкі балаган. Ямшчыкі спыняліся і перапрагалі коней. Балаганы стаялі далёка адзін ад аднаго: іх ставілі так, каб для жывёлы былі добрыя выпасы.

У адным з такіх балаганаў вечарам спыніліся на начлег. Гэтае жытло еўрапейцу Пякарскаму здалося раскошным. Невысокі будынак быў складзены з вертыкальна пастаўленых бярвёнаў, накрытых тоўстым слоем зямлі, пакладзенай на смольнай кары і жэрдках. Звонку балаган быў абмазаны тоўстым слоем гліны. Абграваў памяшканне камінок, у якім гарэлі лістоўнічныя дровы.

Унутранае ўбранне было сціплым: берасцяныя манеркі, груваcткія гаршкі, драўляны посуд. Аб мінулым вандроўным побыце нагадвалі ножкі круглага стала, што мелі выгляд конскіх капытоў, скураная пасудзіна для прыгатавання кумысу і рытуальныя драўляныя кубкі.

Маленькія аконныя праёмы былі закрыты берасцянымі рамамі, куды ўстаўлялі кавалачкі шкла або слюды, бычыныя пухіры, нават ільдзіны. Зімовае жытло злучалася з хатонам — халодным хлявом, дзе стаялі каровы.

У балагане Пякарскі ўпершыню ўбачыў, як якуты дзедаўскім спосабам мелюць муку з ячменнага зерня. Якуцкія жанчыны з мокрымі ад поту тварамі круцілі ручныя жорны, прымацаваныя да століка. Тут жа гаспадыня замешвала цеста з толькі што змолатай мукі і ў камінку пякла праснакі.

Пасля начлегу ехалі яшчэ больш за суткі. Вакол усё было пустынна і бела. Праз кожныя дзесяць-пятнаццаць вёрст, як ручаі, што ўпадаюць у раку, выходзілі на шырокую дарогу бакавыя дарожкі ад навакольных балаганаў, што прытаіліся дзесьці ў лесе, убаку ад тракта.

Пад вечар кібітка, у якой везлі Пякарскага, прыбыла ў цэнтр улуса — пасёлак Чурапча, які складаўся з двух-трох дзесяткаў двароў. На ўзгорках, што прымыкалі да заходняга берага прадаўгаватага возера Чурапчу, то па адным, то невялікімі групамі размяшчаліся домікі і балаганы. На адным з пагоркаў узвышалася царква, а непадалёку ад яе — домік папа.

За паўвярсты ад царквы, у лагчыне, месцілася вялікая хата. Тут знаходзілася «Батуруская ўправа для іншародцаў». Побач стаялі яшчэ два адміністрацыйныя будынкі — «абывацельскі» і «паштовы» станы, звычайныя якуцкія балаганы. Праз чвэрць вярсты адгэтуль, на лясістым пагорку, віднеўся будынак улуснага вучылішча, а непадалёку ад яго — дамы пісараў і служыцеляў управы.

Першым палітычным ссыльным, які ў Чурапчы сустрэў Пякарскага, быў Вячаслаў Мікалаевіч Шаганаў. Яго выслалі яшчэ па справе Каракозава (у 1866 годзе той спрабаваў зрабіць замах на жыццё Аляксандра II). Шаганаў цёпла прыняў маладога пасяленца, запрасіў пагасцяваць. Але казакі, якія суправаджалі Пякарскага, спяшаліся давезці «дзяржаўнага злачынцу» да месца прызначэння — у пасёлак Ігідзейцы. Пазней Пякарскі не раз прыязджаў у Чурапчу да Шаганава. Той расказваў яму пра

свае сустрэчы з Чарнышэўскім — ідэалам рускіх рэвалюцыянераў. Пякарскі запісаў успаміны Шаганава пра Чарнышэўскага, пазней літаратурна апрацаваў іх і выдаў.

У Ігідзейцах Пякарскага прызначылі гаспадаром міждворнай станцыі, дзе звычайна збіраліся сельскія сходкі. Спачатку Эдуарду Карлавічу падабалася жыць аднаму, але ў снежні 1881 года ён папрасіў якуцкага акружнога спраўніка перавесці яго ў Другі Балугурскі наслег да адміністрацыйна ссыльнага Мікалая Кузняцова. Праўда, апошняга неўзабаве перавялі ў яго родны горад Томск. Але Пякарскі паўтарыў просьбу, матывуючы яе тым, што хоча разам з іншымі рускімі пасяленцамі займацца земляробствам. Аднак у просьбе адмовілі, і ён застаўся на ранейшым месцы.

У незвычайных умовах рускаму рэвалюцыянеру дапамагалі выжыць мясцовыя жыхары. Наслег быў бедны, дарагоўля ў ім вялікая, а сродкаў для жыцця «няма, калі не лічыць шасці рублёў у месяц казённай дапамогі,— пісаў Пякарскі бацьку 22 лютага 1883 года. — Зрэшты, я да гэтага часу не атрымоўваў ад казны ні капейкі, і калі б не якуты, я павінен быў бы загінуць з голаду».

Першую якуцкую зіму Пякарскі перанёс пакутліва. Яго лёгкае адзенне не адпавядала суроваму клімату Якуціі. Праўда, вецер зімой зусім не адчуваўся і гэта некалькі аслабляла жорсткасць марозаў. Паветра было сухім, неба — бясхмарным. Сучаснік Пякарскага, польскі ссыльны пісьменнік В. Серашэўскі так апісваў якуцкую зіму ў сваёй працы «Якуты»: вятры тут «настолькі слабыя, што не могуць гайдаць лясы, адзетыя ў тоўстыя шаты снегу; лясы гэтыя стаяць цэлую зіму белыя і нерухомыя, нібы застылая марозная пена. Усюды пануе непарушная цішыня, спакой, маўчанне. Усё замерла, здранцвела, ператварылася ў лёд, які тут набывае цвёрдасць горнай пароды. Нават здаецца, што купал неба таксама вытачаны з лёду. Ён светлы, празрысты, і па цэлых тыднях не відаць на ім ні воблачных плям, ні хмар. На гэтым чыстым купале зоркі і месяц гараць асабліва ярка, затое сонца ўсплывае толькі госцем — цьмянае і чырвонае».

Доўгімі начамі Пякарскі выходзіў з балагана і любаваўся прыгажосцю празрыстага паўночнага неба. З-за сухасці паветра сузор'е Вялікай Мядзведзіцы здавалася куды ярчэйшым, чым у родных мясцінах. Над паселішчам павольна паўзлі бе-

лыя слупы дыму. Часам у лесе цяўкала лісіца, і тады пасялковыя сабакі пачыналі брахаць у адказ.

На марозе нельга было стаяць больш пяці хвілін: нячутна адмярзалі вушы або нос. Дыханне вырывалася з грудзей з трэскам. Таму Пякарскі хутка адрываўся ад прыгажосці і вяртаўся ў балаган, дзе ад суседства з хлевам заўсёды стаяла цяжкае паветра.

Незвычайнай была ежа якутаў. Як і гародніны, яны не ведалі квашанага хлеба, задавальняліся праснакамі, аладкамі і рэдкай мучной кашай. Рыбу на зіму заквашвалі ў ямах, высланых бяростай. Мяса любілі вельмі, але на бядняцкі стол яно трапляла рэдка. Найбольш елі малочнае. Якуты лічыліся самым паўночным у свеце народам, які займаўся жывёлагадоўляй. Каровы, прыведзеныя калісці з поўдня, прыстасаваліся да маразоў, хадзілі зімою днём па двары, але малака давалі мала. З яго рабілі смятану і масла. Апошняе тапілі і пілі ў халады. Пасля цяжкай работы ці доўгай дарогі такое масла хутка адгравала, аднаўляла сілы. У гэтым Пякарскі хутка пераканаўся на ўласным вопыце. Смятана ж лічылася стравай панскай. У ёй варылі ягады, і такі пачастунак называўся якуцкім шакаладам.

Любімай стравай было таксама кіслае малако. Узбітае са смятанай, яно давала пухкую прахалодную масу. На зіму ў кіслае малако кідалі карэнні, ягады і так замарожвалі. З атрыманых ледзяшоў рабілі поліўку. У яе дабаўлялі абалонку — мяккае лыка сасны і лістоўніцы. Абалонку варылі па некалькі разоў у вадзе, каб выйшла смала. Потым лыка сушылі і выходзіла нешта падобнае на макароны.

Самай сытнай парой года было, вядома, лета, калі каровы давалі шмат малака. У кастрычніку жывёлу забівалі.

Якуцкая зіма была асабліва цяжкай і суровай парой года. «Галодныя гады,— пісаў В. Серашэўскі,— калі абсалютна няма чаго пакласці ў рот, калі ўсё, што можна з'есці, падабрана ўжо і з'едзена, калі цельныя каровы пагалоўна не дояцца, а прырода, скаваная холадам, сурова перашкаджае ўсялякім спробам здабыць страву. І гэта паўтараецца кожны год; дзве трэці якуцкага народа пакутуюць ад недаядання больш або менш працяглы час». Бедныя зімой стараліся як мага больш спаць, каб не траціць энергіі. Да вясны худзелі нават заможныя якуты.

Галадаў разам з іншымі і Пякарскі. Уважліва прыглядаўся ён да адзення якутаў. Багатыя насілі зімой «сон» (кажух) і «сангыях» (кофту), пашытыя з футра бабра, рысі, собаля, або гарнастая. Беднякі шылі адзенне са шкур кабыліц і кароў. З аленявай скуры рабілі зімовыя мяккія боты. Штаны таксама шылі са скуры. Кавалкамі футра ахоўвалі ад марозу лоб, нос, грудзі, калені.

Бедныя якуты спалі на цыноўках, прыкрываючыся сваім кажухом. У багатых былі падсцілкі з футра і коўдры. З бяросты рабіліся полагі, за якімі спалі гаспадары і дарослыя дочкі.

Вядома, сёння якуты жывуць у зусім інакшых умовах — у добраўпарадкаваных, атынкаваных і ўцепленых дамах. Непараўнальна ўзраслі дабрабыт, культурны ўзровень насельніцтва. Але Пякарскі, які жыў у гэтым краі больш за 100 гадоў назад, бачыў іншы побыт. У яго ўспамінах, як і ў запісках іншых палітычных ссыльных, перад намі паўстаюць карціны мінулага, пра якое трэба памятаць, каб належным чынам ацаніць дасягненні сённяшняй Якуціі, каб вобразна параўнаць тое, што было і што ёсць.

Жывучы разам з якутамі, Пякарскі ўсё больш пераконваўся ў тым, што гэта вельмі мужны народ, які пераносіць голад, холад, смагу і недасыпанне, які здольны праявіць, калі трэба, і рухавасць і вынаходлівасць.

Заканчвалася першая для Эдуарда якуцкая зіма. У пачатку красавіка стаў часта мяняцца вецер. То несла з Ледавітага акіяна холадам, то раптам пачыналася адліга. Нарэшце пад снегам зацурчэлі ручайкі. Яны хутка несліся па камяністай зямлі. Лета наступіла нібыта адразу пасля зімы. Вакол яшчэ ляжаў снег, але стала зусім па-летняму цёпла.

Калі сышоў снег, якуты пачалі паліць на лугах леташнюю траву. «Выгарыць трава — будзе корм для жывёлы»,— казалі яны.

Вясной з дапамогай суседзяў і Пякарскі стаў працаваць на адведзеным участку зямлі. Звыкацца з новымі абставінамі было нялёгка. Наш зямляк пісаў якуцкаму губернатару: «Цяжка чалавеку, галоднаму і абарванаму (усё адзенне, якое я прывёз з Расіі, знасілася), займацца такой справай, пра якую раней зусім нічога не ведаў, яна проста не па сіле». Давялося абзавесціся жывёлай, заняцца сенакосам. Пра сена тут гаварылі так, як у беларускай вёсцы пра збожжа. Адзінкай вымярэння

зямлі тут было астожжа — участак зямлі, з якога накатвалі стог сена.

Уведзеная царызмам «класная сістэма» размеркавання сенакосаў садзейнічала назапашванню багаццяў у якуцкіх тайёнаў (князькоў) на шкоду беднаце. Па гэтай сістэме землі дзяліліся на тры-чатыры класы. Тайёнам пры гэтым даставалася ў тры-чатыры разы больш сенакосаў, чым беднякам, і ў два-тры разы больш, чым сераднякам. Князькі захоплівалі лішняе нават у параўнанні з тым, што ім належала па «класнай сістэме». Лішкі запісваліся на дзяцей і работнікаў. Не дапамагала тут і штогадовая ацэнка ўраджаю травы з надзела, што праводзілася «дэпутатамі», каб хоць крыху ўраўняць збор сена.

Класавае размежаванне сярод якутаў увесь час паглыблялася. Тайёны занявольвалі беднякоў, якія пазычалі ў іх грошы, або сена, абяцаючы расплаціцца за гэта работай.

Сенакосу ў Якуціі прыдавалі асаблівае значэнне. Гэта была самая напружаная, гарачая пара. Травы тут адцвіталі хутка. Маланкай праходзілі пагодлівыя дні, пасля якіх пачыналі ісці дажджы. Таму якуты стараліся ўбраць сена як мага хутчэй.

Каса была на кароткай крывой ручцы, і траву больш seклі, чым касілі. Замахваліся касой над галавой, нібы шабляй.

Два з паловай летнія месяцы пераўтваралі Якуцію: усё навокал ажывала, расцвітала. Трава ў далінах расла высокай, кветкі — яркімі і пахучымі. На лугах пасвіліся табуны адзічэлых за лета коней. Сонца стаяла невысока над гарызонтам, але затое свяціла амаль цэлыя суткі. Пясок і каменне награваліся так, што да іх нельга было дакрануцца.

Займаўся назапашваннем сена і Эдуард Карлавіч. Свае ўчасткі сенакосу ён агарадзіў жэрдкамі. Загарадкі цягнуліся на вярсту. Яны абаранялі сенакос ад жывёлы, якая свабодна пасвілася на лугах і ў лесе.

У 1883 годзе ў Пякарскага ўжо быў свой статак — чатыры каровы, бык і пара цялят. Праўда, пяць галоў жывёлы зімой давялося забіць, таму што не было чым яе карміць; усё лета ішлі дажджы, якія пазносілі ў рэчку накошанае сена.

6 снежня 1883 года ён пісаў бацьку: «Сена ў мяне было ўсяго 12,5 воза, ды і тое згніло... Мой наслег (якуцкае грамадства) даў мне ў дапамогу добрага сена пяць вазоў, вось я і перамешваю яго з гнілым і як-небудзь спадзяюся пракарміць (жывёлу) да вясны. На наступнае лета буду касіць сам,— як змагу».

Вось чаму ўсё лета 1884 года Пякарскі правёў у шалашы на сваім участку. Касіў не касой-гарбушай, а сучаснай касой-літоўкай, прымацаванай да доўгай ручкі. Заняўся ён і земляробствам — пасеяў чатыры пуды ячменю. Але сабраў усяго дванаццаць пудоў і палічыў ураджай кепскім. «Затое жаць збожжа і касіць я навучыўся добра,— пісаў ён бацьку 22 снежня 1884 года.— У першы год пры малой казённай дапамозе мне было не асабліва лёгка, бо я раней не займаўся ніякай працай, апрача пісьмовай. Даводзіцца ўсяму вучыцца і ўсё рабіць самому. У такія маразы, якія даходзяць тут да 40—45 градусаў, я павінен сам вазіць дровы і сена за тры і чатыры вярсты».

У лістападзе 1884 года з дапамогай якутаў Пякарскі купіў рабочага каня. Моцны калматы конік быў добра прыстасаваны да тутэйшых умоў: летам свабодна пасвіўся ў лесе, а зімой хадзіў паблізу дома і жыў на падножным корме — разграбаў капытамі снег і даставаў з-пад яго сухую траву.

Удалося Пякарскаму нават пабудаваць уласны дом. Месціўся ён за вярсту ад самага блізкага суседа — так тут было прынята. Якуцкі мастак П. Папоў прыгадваў пазней, што ён бачыў у тым доме: каркас яго быў зроблены з абчасаных бярвёнаў, сцены, падлога, столь і традыцыйныя для Якуціі нары для спання — з гладка абчасаных плашак. Камінок Эдуард змайстраваў з цэглы. Нары, на якіх спаў, выслаў мяккім азёрным чаротам. Кідалася ў вочы перагародка з палічкай для кніг і рукапісаў. У хаце было вельмі чыста. Знадворку яна была абмазана глінай. Каля хаты стаяў тыповы якуцкі свіран. Двор акружала агароджа на слупах.

Пякарскі жыва цікавіўся справамі і сялян-якутаў, і палітычных ссыльных. Гэта бачна нават з пісьма бацьку (14 ліпеня 1890 г.): «Наўкола мяне таксама галеча: бедныя не толькі якуты, але і мае таварышы, такія ж ссыльныя палітычныя, як я, іншыя з жонкамі і дзецьмі; ім даводзіцца дапамагаць то тым, то гэтым, ды і знаёмствы мае з тутэйшымі рускімі і якутамі сталі больш шырокія... А сам я жыву вельмі сціпла, нічога лішняга для сябе не дазваляю: гарэлкі не п'ю, у карты не гуляю, і хаця жыву небагата, але сыты, і апрануты, і пры ўсіх выдатках так-сяк зводжу канцы з канцамі».

Пазней Пякарскі расказваў свайму вучню А. Папову, што яму не раз даводзілася абараняць якутаў ад самавольства царскіх улад. Аднойчы ў мясцовасць, дзе жыў наш зямляк, раптам

прыехаў спраўнік. Каб ехаць далей, патрабаваўся конь, а яго на месцы не аказалася. Якуты добра ведалі пра «фізічныя спосабы ўздзеяння», якія ўжываў спраўнік, калі яго своечасова не адвозілі па прызначэнню... Пякарскі вырашыў сам пагутарыць з чыноўнікам і ўсё мірна ўладкаваў. У санкі запрэглі быка, і ссыльны сам адвёз спраўніка ў суседні наслег.

Пісар у Ігідзейцах быў малапісьменны, таму Пякарскі нярэдка дапамагаў яму афармляць афіцыйныя паперы. Хутка якуты сталі звяртацца да ссыльнага рэвалюцыянера за парадамі, за тым, каб ён склаў якое-небудзь прашэнне і г. д. Але браўся Эдуард Карлавіч «толькі за такія справы, якія здаваліся яму цалкам справядлівымі і мелі шанцы на поспех». Амаль усе яны потым выігрывалі. Слава пра Пякарскага, як пра дзелавога чалавека, пайшла далёка за межы улуса. Да яго з'язджаліся якуты з суседніх, нават вельмі аддаленых улусаў. Усё гэта зближала пасяленца з мясцовым насельніцтвам.

Асабліва блізка ён сышоўся з якутамі, калі заняўся сельскай гаспадаркай, стаў уладальнікам зямельнага надзелу. Яго запрашалі на сходы, з ім раіліся, ён удзельнічаў у вырашэнні розных наслежных спраў. Мясцовыя жыхары поўнасцю давяралі Эдуарду Карлавічу. Аднойчы ён нават выконваў абавязкі наслежнага пісара — у сваім і трох суседніх наслегах. Пазней, праўда, пра гэта даведалася гарадское начальства і забараніла падмену.

У знак удзячнасці абшчыне, сярод якой жыў, Пякарскі падаў у родавае кіраўніцтва наступную заяву: «З прычыны таго, што таварыства 1-га Ігідзейскага наслега пры надзяленні мяне зямлёю аказала мне матэрыяльную дапамогу для набыцця гаспадаркі, я, каб чымсьці аддзячыць, прашу родавае кіраўніцтва прыняць ад мяне чатырыста коп сена. Яно павінна раздавацца ў неўрадлівыя гады членам абшчыны, пераважна самым бедным, у пазыку, на тых жа ўмовах, што наслежнае запаснае сена».

Пасябраваўшы з якутамі, рэвалюцыянер прыйшоў да такога красамоўнага вываду: «Я думаю, што якуцкі народ — частка расійскага народа; і я буду працягваць рабіць тое, што я рабіў у Расіі, г. зн. весці прапаганду».

Пякарскі пачаў вывучаць якуцкую мову. А для прыезджага чалавека яна аказалася вельмі цяжкай. Адносіцца якуцкая мова да цюркскай групы. Цюркамоўныя народы расселены на велізарных прасторах нашай краіны. Да іх адносяцца азербайджанцы, узбекі, туркмены, кіргізы, татары, башкіры. Самы паўночны і самы ўсходні народ гэтай групы — якуты, і іх мова займае сярод цюркскіх асаблівае месца: яна захавала шматлікія старажытныя асаблівасці, значны ўплыў аказалі на яе мангольская і эвенкійская мовы. Падабенства трох гэтых моў (якуцкай, эвенкійскай, мангольскай) дазваляе некаторым даследчыкам аб'ядноўваць цюркскія, мангольскія і тунгуска-маньчжурскія мовы ў адну алтайскую моўную сям'ю. Але агульнасць гэтых трох груп канчаткова не даказана і сёння.

Польскі этнограф-сібіравед і пісьменнік Вацлаў Серашэўскі пісаў у канцы мінулага стагоддзя, што «татарам і башкірам, сасланым у Якуцкую губерню, дастаткова шасці месяцаў, каб навучыцца павольна і нават хутка размаўляць па-якуцку. Рускім для гэтага патрэбны гады». Галоўнай цяжкасцю было вымаўленне якуцкіх гукаў, якія вельмі адрозніваюцца ад індаеўрапейскіх (прыгадаем, што да індаеўрапейскай сям'і адносіцца і наша, славянская, група моў). Серашэўскі сцвярджаў, што «ёсць гукі, якія толькі пасля доўгай трэніроўкі прызвычайваецца ўспрымаць еўрапейскае вуха і ніколі не зможа зусім правільна ўзнавіць еўрапейская гартань». Разабрацца ў асобных гуках якуцкай мовы, на думку Серашэўскага, можна толькі тады, калі ёю авалодаеш настолькі, што здагадаешся пра значэнне кожнага слова па сэнсу.

Усе цяжкасці чужой мовы Пякарскі пераадолеў даволі хутка. Без падручнікаў і слоўнікаў ён ужо праз паўгода гаварыў з якутамі і нават выступаў у ролі перакладчыка пры размовах наслежнага начальства з рускімі пасяленцамі. Вывучэнне якуцкай мовы ўскладнялі неўнармаванасць і неакрэсленасць яе граматычных форм: у назоўнікаў не было роду, прыметнікі не дапасоўваліся да назоўнікаў; назоўны склон нярэдка ўжываўся як вінавальны. Прыметнікі, назоўнікі і дзеясловы часам можна было адрозніць толькі па сэнсу. Множны і адзіночны лікі лёгка ўзаемазамяняліся. Па канчатках слоў нельга было меркаваць

аб іх узаемадачыненні... Усё гэта ўскладняла і дакладны пераклад. Даводзілася ўлоўліваць унутраную сувязь, асноўны сэнс сказанага. А дзеля гэтага трэба было ведаць побыт якутаў.

Паступова Пякарскі прызвычаіўся да маляўнічай і трапнай мовы поўначы, любіў яе дасціпныя звароты і параўнанні, прыказкі і прымаўкі. Красамоўе было ў вялікай пашане ў якутаў. На сходах Пякарскі часта чуў доўгія і па-майстэрску пабудаваныя прамовы, з якімі па чарзе выступалі прысутныя. Уменне прыгожа сказаць высока цанілася. Прамоўцу віталі, з адабрэннем падбадзёрвалі. «Думка бывае з водгукам, а мова з аздобаю»,— гаварылі якуты.

Багацей за гутарковую мову была мова гераічных былін — аланхо. Яна адрознівалася асаблівай яскравасцю і арнаментальнасцю. Аланхо — гераічны якуцкі эпас, які складаўся з мноства падобных па сюжэту легенд. Іх выконвалі майстры-казачнікі — аланхосуты. Доўгія маналогі яны спявалі, а карацейшыя — дэкламавалі ў тэмпе рэчытатываў. Аланхосуты валодалі добрай памяццю, голасам і музычным слыхам. На іх выступленні прыходзіла шмат людзей. У рознай манеры выконваліся песні волатаў, гераінь, роданачальнікаў, мудраца, раба-табуншчыка, рабыні, пачвар, з якімі змагаўся герой быліны, і г. д.

Эпас аланхо ўзнік у глыбокай старажытнасці, калі продкі якутаў жылі ў непасрэдным суседстве з іншымі цюрка-мангольскімі народамі. У аснове аланхо — паданні аб змаганні з племем пачвараў, якія нападаюць на людзей, крадуць жанчын, адбіраюць жывёлу. З пачварамі змагаюцца героі-волаты, надзеленыя незвычайнай сілай і прыгажосцю. Яны бароняць і ратуюць усіх, хто трапіў у бяду. Ідэал — аланхо — мірнае і шчаслівае жыццё.

Вельмі мудрагелістай аказалася мова народных песень. Якуты любілі спяваць. Пякарскі ўпершыню пачуў гэтыя песні па дарозе з Якуцка ў Ігідзейцы. Спявалі іх ямшчыкі, якія паганялі коней, а таксама падарожнікі, што праязджалі міма. Гарлавыя якуцкія песні спачатку здаліся вельмі жалобнымі, працяглымі. Пачыналіся яны гукамі: «А-ы-ы-ы», цягнуліся бясконца і часам мадуліраваліся надрыўнымі пералівамі. Гукі непаўторна зліваліся са скрыпам палазоў, шумам тайгі. Уражанне было своеасаблівым і незвычайным...

Спявалі якуты выключна гартанню. Матыў рэдка калі скла-

даўся больш, чым з дзвюх-трох нот, якія выконваліся надзвычай рытмічна. Песня нагадвала імправізаваны рэчытатыў. У ёй расказвалася пра лес, дарогу, пра коней; госця, што ехаў з далёкага краю, чакалі цёплы начлег і смачная ежа... Адным словам, песні былі пра тое, што бачыў і чуў чалавек у дарозе.

Пякарскага вельмі цікавілі якуцкія песні. Вечарамі мясцовыя жыхары сядалі вакол камінка і, гледзячы на агонь, цешыліся доўгімі імправізацыямі. Выканаўцы даражылі ацэнкай слухачоў, наладжвалі нават нешта падобнае да спаборніцтва. Эдуард Карлавіч пабываў не на адным такім канцэрце. Сабраўшыся ў балагане, сапернікі выступалі па чарзе і імкнуліся як мага больш усхваляваць слухачоў. Публіка замірала. Нават калі песня канчалася, некаторы час усе гаварылі шэптам, нібыта баючыся спалохаць цудоўнае імгненне.

Сярод слухачоў даводзілася чуць і такія меркаванні:

— У гэтага словы цудоўныя, але голас горшы! А ў таго голас зычны, але словы непрыгожыя!

— Спявае, нібы сэрца з грудзей вымае!

Песні былі багатыя па зместу. У папулярнай паэме «Прыгоды адзінокага бабыля» перад прысутнымі паўставалі далёкія невядомыя мясціны, дзе даспявалі яблыкі і іншыя плады, пра якія якуты, здавалася б, не павінны былі мець ніякага ўяўлення. Але Пякарскі ведаў, што агульныя продкі якутаў і туркаў, кіргізаў і туркменаў, татараў і іншых народаў, што гавораць на мовах цюркскай групы, калісьці рассяляліся з больш цёплых вярхоўяў Енісея, з Саянскіх і Алтайскіх гор на захад і поўнач. Яму было зразумела, што многія вобразы песень засталіся ад продкаў, прывезены імі ў халодныя краі з далёкага поўдня. Спевакі ж беражліва захоўвалі з пакалення ў пакаленне і старадаўнія словы, і незвычайныя паняцці.

Менавіта па песнях Пякарскі знаёміўся спачатку з вобразнасцю якуцкай мовы, яе асаблівасцямі. Ён завёў два сшыткі: у адзін запісваў якуцкія словы з перакладам на рускую, у другі — рускія словы з перакладам на якуцкую мову. Знамянальна, што адзін са сшыткаў Пякарскаму падарыў герой «працэсу 50» Пётр Аляксееў. Ён быў высланы ў Батурускі улус і жыў за васемнаццаць вёрст ад балагана Пякарскага. Наш зямляк пазней успамінаў: «Калі Аляксееў, як і я, намерыўся заняцца гаспадаркай, то нам было дазволена мець коней, і мы такім чынам бачыліся даволі часта. Атрымаўшы якое-небудзь больш або

менш важнае паведамленне, нам нічога не каштавала асядлаць ці запрэгчы каня і паехаць адзін да аднаго, каб паведаміць сабраныя навіны і падзяліцца думкамі».

...Багатыя суседзі забілі Аляксеева за тое, што ён заступаўся за беднякоў, Пякарскі ўзначаліў пошукі забойцаў і дапамог раскрыць злачынства. Над магілай сябра ён сказаў прачулую прамову, а потым паставіў памятны камень...

Але вернемся да слоўніка. Першым сваім настаўнікам па якуцкай мове Пякарскі лічыў Ачокуна — сляпога бацьку гаспадара міждваровай станцыі, у якога жыў першыя месяцы, калі прыбыў у Ігідзейцы. Стары паказваў ссыльнаму і называў па-якуцку навакольныя прадметы, часткі чалавечага цела, вопратку, хатні посуд. «Ужо адно гэта — успамінаў Пякарскі,— узбагаціла мяне пэўным запасам слоў; пры дапамозе іх я мог спытаць пра назвы такіх прадметаў, якія не змог для мяне вызначыць мой настаўнік. У той жа час я пасяшаўся ўнесці ў свае слоўнічкі ўсе словы, што мне толькі ўдавалася вывудзіць з друкаваных кніг, якія я пастунова набываў».

Дапаможнікаў па якуцкай мове тады амаль не было. У 1858 годзе якуцкі епіскап Дзіянісій (Дзімітрый Васільевіч Хітроў) даручыў сваім падначаленым скласці граматыку якуцкай мовы. Яе пісалі па ўзору лацінскай, уціскаючы жывую мову цюркскай групы ў жорсткія і зусім чужыя рамкі. Натуральна, створаная па даручэнню Хітрова граматыка не адпавядала ладу якуцкай мовы.

У той час ужо выходзілі перакладзеныя на якуцкую мову царкоўныя кнігі. Шмат часу затраціў на іх вывучэнне Пякарскі, але хутка зразумеў, што гэтая мова далёкая ад гутарковай. І, каб спасцігнуць апошнюю, узяўся за вывучэнне народнай паэзіі. «Прызнаюся,— пісаў ён,— што больш блізкае знаёмства з казачнай і песеннай мовай прымусілі мяне пашкадаваць аб тым часе, які я скарыстаў на штудзіраванне перакладаў кніг». У царкоўных кнігах словы скажаліся да непазнавальнасці.

Да Пякарскага грамату і слоўнік якуцкай мовы спрабаваў скласці пецярбургскі вучоны Ота Бётлінг. Рабіў ён гэта на навуковых асновах, але карыстаўся чужымі матэрыяламі, у прыватнасці сабранымі Мідэндорфам. Бётлінг выдаў «Якуцка-нямецкі слоўнік», вядомы толькі сярод спецыялістаў па цюркскіх мовах. Пякарскі дастаў гэты слоўнік у ссыльнага тэрарыста Мікалая Цютчава, арыштаванага ў час стачкі рабочых на адной

са сталічных фабрык (потым ён спрабаваў уцячы з забайкальскага пасялення да кітайскай граніцы). Цютчаў прывёз з сабой у Чурапчу два экземпляры слоўніка Бётлінга і адзін з іх падарыў Пякарскаму. Наш зямляк пазней паслаў пісьмо Бётлінгу з просьбай адказаць на некаторыя пытанні. Але аказалася, што вучонага ўжо з чвэрць стагоддзя не было ў Пецярбургу: ён выехаў у Германію.

У 1885 годзе ў газеце «Неделя» Пякарскі прачытаў паведамленне, нібыта ў якуцкай мове ўсяго толькі тры тысячы слоў. Такое бяздоказнае сцвярджэнне было заснавана на дакладзе нейкага Гамава ў Маскоўскім таварыстве аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі. На той час Эдуард Карлавіч быў ужо пераканаы, што якуцкая мова значна багацейшая. Ён вырашыў абвергнуць Гамава і скласці свой слоўнік.

Як сцвярджаюць даследчыкі Н. Пятроў і Н. Барашкаў, такое рашэнне было сапраўды смелым — яго мог прыняць толькі чалавек з рэвалюцыйнай натурай. Амаль на голым месцы даводзілася пачынаць велізарную работу, ісці па невядомаму шляху, каб авалодаць шматвяковым вопытам жыцця і мудрасцю чужога народа, якія знайшлі адлюстраванне ў мове.

Працаваць над слоўнікам цяжка было і фізічна: кароткае лета звычайна займалі сенакос, земляробства, паляванне, рыбная лоўля. Для навуковай работы заставалася доўгая зіма. «Іншы раз,— успамінаў Эдуард Карлавіч,— не хапала пісьмовых прылад, даводзілася карыстацца кожнай васьмушкай паперы, у якой адзін бок быў чысты. Не было свечак, і даводзілася чытаць, а часам і пісаць, пры святле камінка, рызыкуючы сапсаваць сабе вочы».

У рабоце над слоўнікам Пякарскі выкарыстоўваў жывую гутарковую мову, фальклорныя творы. Апошнія былі асабліва карыснымі пры вывучэнні мовы народа, які не меў пісьмовых традыцый і алфавіту. Запісам папярэднікаў Эдуард Карлавіч не заўсёды давяраў з-за іх недакладнасці. Сам старанна дакопваўся да значэння і формы кожнага слова.

Навуковыя заняткі ўмацоўвалі веру ва ўласныя сілы. Складанне слоўніка па-сутнасці было працягам барацьбы супраць царскага самаўладдзя: сам працэс даваў магчымасць весці рэвалюцыйную работу. Якуты таксама, як і родныя палешукі, чарнігаўцы, або тамбоўцы, патрабавалі да сябе ўвагі, і дзейнасць на карысць ім была маральным абавязкам маладога рэвалюцыя-

нера. Яна была вельмі важнай і для самога Эдуарда: якуцкая ссылка многіх рэвалюцыянераў ламала... Звар'яцеў і памёр таленавіты даследчык якуцкага фальклору краязнавец Іван Худзякоў. Застрэліўся пецярбургскі рабочы Аляксандр Паўлаў. Страціў розум Аляксей Сіракоў. У пасяленні Усць-Майскае павесіўся таварыш Пякарскага па харкаўскім падполлі А. Баўбельскі. Недарэчы гінулі і іншыя ссыльныя...

Пякарскі ж гэтае цяжкае жыццёвае выпрабаванне вырашыў пераадолець. Яго намер узяцца за сур'ёзнае вывучэнне мовы падтрымлівалі іншыя энтузіясты якуцкай культуры. Сярод іх у першую чаргу трэба назваць святара з пасялення Ытык-Кёль Дзімітрыяна Дзімітрыянавіча Папова. Першая сустрэча з ім адбылася ў не зусім звычайных абставінах.

Аднойчы Пякарскі сядзеў у балагане знаёмага бедняка-якута, у якога захварэла дачка. Каля цёплага камінка ён крыху прыдрамаў. Прачнуўся ж ад зычнага голасу:

— Свяшчэннік прыехаў!

У балагане пачаўся вэрхал. Гаспадыня паставіла на агонь чайнік, стала падмятаць земляную падлогу, разламала на кавалкі прэсную ляпёшку.

У памяшканне ўвайшоў пажылы свяшчэннік. Услед гаспадар нёс яго рэчы. Поп апрануў рызу, запаліў перад абразом тоненькую васкавую свечку. Потым паклаў на стол крыж і малітоўную кнігу, укінуў у кадзіла гарачае вуголле і пачаў малітву. Прысутныя якуты маліліся разам з папом. Пякарскі ж працягваў нерухома сядзець. Усіх гэта здзівіла. Гаспадар папрасіў:

— Калі самі не верыце ў бога, то хоць выйдзіце на хвіліну, а то няёмка.

Пякарскі так і зрабіў. Калі ж служба скончылася, ён сустрэўся са свяшчэннікам у суседняй хаце, куды іх запрасілі абодвух. Спачатку яны сядзелі моўчкі: Пякарскі пазіраў на Папова з натуральнай насцярожанасцю: слугі рэлігіі адносіліся да палітычных ссыльных у цэлым нядобразычліва. Але Папоў аказаўся чалавекам шырокіх поглядаў. Ён прапанаваў Пякарскаму выпіць з ім чаю. Пачалася гаворка. І тут нечакана высветлілася, што яны абодва складаюць слоўнікі якуцкай мовы. Праўда, у Папова было ўжо сабрана і растлумачана больш за тысячу слоў, а ў Пякарскага трохі больш за чатырыста.

Папоў гаварыў аб цярплівасці і настойлівасці, якія патрэбны таму, хто бярэцца даследаваць якуцкую мову:

— Яна невычарпальная, як акіян. Але, як кажуць у народзе, кропля і камень дзяўбе. Так і ваша праца: кожны дзень вы павінны павялічваць свой спіс — хаця б на адно-два слоўцы. І, галоўнае, трэба быць больш смелым, не адступаць перад цяжкасцямі, не слухаць тых, хто будзе адгаворваць ці насміхацца над вамі. Ёсць і такія... Трымайцеся тых, хто спачувае вам, падтрымлівае, дапамагае ў вашай працы.

Стары свяшчэннік абяцаў перадаць ссыльнаму рэвалюцыянеру свой слоўнік.

Айцец Дзімітрыян пастаянна перадаваў Пякарскаму новыя матэрыялы. Часам дасылаў іх праз сваю дачку. Вось так успамінае пра адну з сустрэч яе малодшы сын, унук Дзімітрыяна, вядомы якуцкі мастак П. Папоў:

«Пякарскі сустрэў Папову вельмі ветліва. Калі госці ўвайшлі ў дом, яна па прывычцы перахрысцілася і толькі пасля гэтага, агледзеўшыся, здзіўлена сказала па-якуцку:

— Абраза ж, здаецца, няма.

— Суох*,— пацвердзіў па-якуцку Пякарскі.— Ну, расказвайце, якія навіны, як маецеся, адкуль едзеце?

Атрымаўшы пісьмо ад айца Дзімітрыяна і новы спіс якуцкіх слоў, Пякарскі прачытаў пісьмо. Затым стаў захоплена расказваць пра сваю работу:

— У мяне сабрана ўжо больш за тры тысячы слоў. У гэтым мне дапамагаюць многія, асабліва такі знаўца мовы якутаў, як айцец Дзімітрыян, ваш бацька».

А вось якім П. Папоў запомніў Пякарскага: «(Гэта быў) мужчына гадоў каля трыццаці пяці, сярэдняга роста, прысадзісты, крыху сутулаваты, шатэн з блакітнымі вачыма, прамым носам, клінападобнай бародкай. Адзеты сціпла: з-пад чорнага пінжака выглядала чорная касаваротка, на нагах — высокія боты. Ён меў выгляд культурнага, інтэлігентнага чалавека, які трапіў у далёкую якуцкую тайгу як удзельнік нейкай экспедыцыі...»

Гаспадар дома паказаў Паповай дзесяткі са два кніг, свае рукапісы. Сярод іх ганаровае месца займаў слоўнік айца Дзімітрыяна. Праводзячы гасцей, Пякарскі доўга ішоў побач з іхнім возам. Ён прызнаваўся:

---

* Суок — няма (якуц.—В. Г.).

— Мне падабаецца гэтая суцэльная лістоўнічная тайга, што цягнецца на сотні вёрст. Але вось людзей тут няма, пустынна...

Азірнуўшыся і пабачыўшы, што яго балаган ужо знік за гарызонтам, Пякарскі развітаўся з Паповымі і пакрочыў назад.

Сяброўскія адносіны двух даследчыкаў якуцкай мовы працягваліся да самай смерці свяшчэнніка ў 1896 годзе. Пякарскі ўспамінаў: «Штогадовую дапамогу (на працягу амаль трынаццаці гадоў пратаіерэй Папоў аказваў мне зусім бескарысліва, не ставячы ніякіх умоў, і за ўвесь час толькі аднойчы спытаў, ці ўспомню я пра яго калі-небудзь, як пра свайго супрацоўніка?.. Я, вядома, паспяшаўся запэўніць, што ніколі не забуду заявіць у друку аб аказанай мне дапамозе».

У прадмове да «Слоўніка якуцкай мовы» Пякарскі сапраўды згадаў пра дапамогу, якую яму аказаў Папоў...

Заняўшыся слоўнікам якуцкай мовы, Пякарскі не траціў сувязей з іншымі палітычнымі ссыльнымі свайго улуса. А іх там аказалася больш за трыццаць чалавек. Час ад часу наш зямляк ездзіў у Чурапчу, дзе праводзіў некаторы час са старэйшымі таварышамі па ссылцы Шаганавым і Загібалавым.

Палітычныя ссыльныя Ананій Арлоў, Мікалай Віташэўскі, Марк Натансон і народны настаўнік з Чурапчы якут Васіль Папоў, што жылі ў Батурускім улусе, таксама запісвалі пераклады якуцкіх слоў на рускую мову. Даведаўшыся аб рабоце Пякарскага, яны перадалі яму свае матэрыялы. Васіль Папоў падарыў нават кнігу «Роднае слова», якую склаў для чытання якутам, а таксама запісы загадак, прымавак, песень і шаманскіх заклінанняў.

У слоўніку Бётлінга было больш чатырох з паловай тысяч слоў. Не выключана, што менавіта гэтая кніга, дасланая Пякарскаму М. Цютчавым, заахвоціла вучонага пашырыць слоўнікавыя запісы. Ён стаў рабіць заўвагі па палях бётлінгаўскага выдання. Значную дапамогу тут аказаў палітычны ссыльны Усевалад Міхайлавіч Іёнаў, які таксама перадаў Эдуарду Карлавічу сабраныя на працягу некалькіх гадоў матэрыялы для руска-якуцкага слоўніка.

П. Папоў у 1897—1898 гадах вучыўся ў школе, заснаванай Іёнавым паблізу Ытык-Кёля. Ён успамінае, як сюды, да Іёнава, прыязджалі па нядзелях і святах Пякарскі, ссыльны Васіль Трашчанскі, пісьменныя якуты Е. Мікалаеў, К. Аросін, С. Сень-

кін. Запрашалі і непісьменных якутаў. Тыя наведваліся ахвотна, з жаданнем быць карыснымі для ссыльных, якія вывучаюць іх мову і побыт. Гэта былі своеасаблівыя моваазнаўчыя «канферэнцыі». З дапамогай мясцовых жыхароў высвятляліся незразумелыя пытанні, якія датычыліся звычаяў, абрадаў, а галоўнае — мовы. Пякарскі прасіў дакладна вымаўляць і перакладаць асобныя словы, часам па некалькі разоў. Уважліва ўслухоўваўся ў гучанне. Потым яны з Іёнавым зачытвалі зробленыя запісы. Калі былі разыходжанні, запісы паўтараліся. Такія «канферэнцыі» працягваліся дзве-тры гадзіны. На заканчэнне пілі чай і запрошаныя якуты разыходзіліся. Ссыльныя ж заставаліся, каб падзяліцца мясцовымі навінамі, а таксама думкамі пра агульнарасійскія падзеі. Прыгадвалася жорсткая расправа ўлад з палітычнымі ссыльнымі ў Якуцку ў доме мешчаніна Манастырова. Гаварылі аб якуцкім епіскапе Мялеціі, які асудзіў дзеянні віцэ-губернатара Асташкіна, вінаватага ў гэтай трагедыі. Ссыльныя спявалі хорам народніцкія песні: «Медленно движется время, веруй, надейся и жди», «Из страны, страны далекой, с Волги-матушки широкой», «Назови мне такую обитель» і іншыя.

Вось як апісвае адзін з вечароў у Пякарскага П. Папоў: «Юрта і абсталяванне заставаліся тыя ж, што і ў час майго першага наведвання з маці, праездам на Ытык-Кёль. Рукапісаў, кніг і картатэк стала значна больш, чым раней. Сябры пілі чай і гутарылі. Гаварылі галоўным чынам пра нейкія старажытныя паданні, легенды, абмяркоўвалі рукапіс адной з алонхо «Ньургун Баатур», пашыраную ў Батурускім павеце і пакладзеную потым у аснову папулярнай якуцкай музычнай драмы».

Пякарскі не абмяжоўваўся вывучэннем слоўнікавага складу. Каб лепш зразумець якуцкую мову, ён цікавіўся таксама асаблівасцямі матэрыяльнага побыту, сацыяльных адносін якутаў. І восенню 1893 года ў сааўтарстве са ссыльным рэвалюцыянерам з Чурапчы Георгіем Фёдаравічам Асмалоўскім на падставе сабранага багатага матэрыялу Пякарскі напісаў свой першы навуковы артыкул «Якуцкі род да і пасля прыходу рускіх». Артыкул апублікавалі ў 1896 годзе ў «Памятной книжке Якутской губернии». У ім былі апісаны звычаі і абрады, якія ў канцы XIX стагоддзя сталі архаічнымі і пры павярхоўным вывучэнні заставаліся незаўважанымі. Аўтары звярнулі ўвагу на адмоўныя рысы патрыярхальных нораваў у

якутаў: неабмежаваныя правы галавы сям'і, патрыярхальнае рабства, жорсткія міжусобіцы. Пякарскі і Асмалоўскі даказвалі, што міжусобныя войны маглі б дашчэнту знішчыць якуцкі народ, калі б Якуція не ўвайшла ў склад Рускай дзяржавы. Уваходжанне сапраўды станоўча адбілася на далейшым развіцці Усходняй Сібіры, але маладыя вучоныя трохі перабольшвалі, падкрэсліваючы гуманныя адносіны царскай улады да народаў Поўначы.

Артыкул прыцягнуў увагу якуцкага губернатара В. Скрыпіцына. На пачатку 1899 года ён прапанаваў Пякарскаму скласці запіску аб пажаданых зменах у якуцкім самакіраванні. Эдуард Карлавіч з цікавасцю прыняў прапанову і ў сваёй запісцы раскрытыкаваў існуючыя парадкі самакіравання. Скрыпіцын і яго пераемнік Крафт выкарыстоўвалі потым матэрыялы даследчыка, не спасылаючыся на яго імя.

Тым часам пра слоўнік Пякарскага стала вядома за мяжой. Наш зямляк атрымаў пісьмо ад парыжскага мовазнаўца П. Якабі. Той пісаў, што да яго дайшлі чуткі, што Пякарскі склаў «выдатны якуцкі лексікон» і пытаў, калі выданне ўбачыць свет і якім чынам слоўнік можна атрымаць.

— Доктар Якабі,— успамінаў Эдуард Пякарскі,— шмат каштоўнага мне ў пісьме параіў, і яго парад я прытрымліваўся потым у рабоце. У сваім адказе я павінен быў некалькі расчараваць доктара Якабі адносна чутак пра мой слоўнік, бо ў той час я ўсё ж меў на ўвазе, галоўным чынам, практычныя мэты, а навуковыя толькі часткова».

Першы варыянт слоўніка змяшчаў сем тысяч слоў, і гэта пераўзыходзіла па колькасці і слоўнік Бётлінга, і лічбу, названую Гамавым у Маскоўскім таварыстве аматараў этнаграфіі.

Якраз у гэты час павінны былі адпусціць у Еўрапейскую Расію Мікалая Цютчава, і Пякарскі ў пісьме папрасіў яго сустрэцца ў Казані па дарозе дамоў з вядомым усходазнаўцам Мікалаем Іванавічам Ільмінскім, папрасіць пахадайнічаць аб выданні слоўніка. Аднак Цютчава затрымалі ў Іркуцкім астрожным замку і паведамілі, што напраўляюць яго на пасяленне ў Краснаярск. Цютчаў зразумеў, што ў Казань ён не трапіць...

Наглядчыкам Іркуцкага астрога аказаўся член Усходне-Сібірскага аддзела Рускага геаграфічнага таварыства, які кіра-

ваў тады навуковай работай ва ўсёй Сібіры. Даведаўшыся пра гэта, Цютчаў перадаў яму пісьмо з хадайніцтвам выдаць слоўнік Пякарскага за кошт таварыства. Вязень аргументаваў просьбу тым, што «Пякарскі перадаў свой слоўнік для карэктуры і прагляду мясцовым знаўцам якуцкай мовы: пратаіерэю Дзімітрыяну Папову і галаве Батурускага улуса Ягору Дзімітрыевічу Мікалаеву, якія адзінагалосна ўхвалілі яго, прычым абодва выказалі думку, што слоўнік гэты па багаццю слоў, дакладнаму следаванню аднойчы прынятай сістэме і адданасці жывой якуцкай мове пакідае далёка ззаду ўсе падобныя спробы, зробленыя раней».

19 верасня 1887 года Цютчаў пісаў Пякарскаму з Краснаярска: «Уяві сабе маё здзіўленне, калі не больш, чым праз два дні я даведаўся, што гэта пісьмо перададзена не ў аддзел таварыства, а праз пракурора іркуцкаму генерал-губернатару*. Апошні палічыў патрэбным зрабіць запытанне якуцкаму губернатару. Наогул, усёй справе дадзены непажаданы кірунак. Нядаўна я бачыўся з Рыгорам Мікалаевічам Патаніным**, якому растлумачыў адзначаныя вышэй паводзіны аднаго з членаў таварыства як паводзіны заядлага чыноўніка. Ён (Р. М. Патанін — В. Г.) хацеў... пастарацца ажыццявіць выданне».

Такім чынам, слоўнікам Э. Пякарскага паступова зацікавіліся ўлады. Якуцкі губернатар К. Святліцкі загадаў акруговаму паліцэйскаму кіраўніцтву звязацца з аўтарам і прапанаваць яму перадаць слоўнік ва Усходне-Сібірскі аддзел Геаграфічнага таварыства. Граф Ігнацьеў пісаў Святліцкаму, што той можа запэўніць складальніка слоўніка «ў недатыкальнасці яго правоў і ў захаванні рукапісаў, якія ён... вышле ў Аддзел Геаграфічнага таварыства».

Пякарскі згадзіўся. Толькі папрасіў у акруговага спраўніка «Тлумачальны слоўнік жывой вялікарускай мовы» Уладзіміра Даля, які дарэмна шукаў ужо чатыры гады. Слоўнік ён атрымаў. З прадмовы да гэтага выдання даследчык якуцкай мовы ўпершыню даведаўся, што словы з усімі іх значэннямі больш зручна запісваць не падрад у сшытках, а на асобных картках.

---

* Іркуцкі генерал-губернатар (ім быў граф А. Ігнацьеў, бацька будучага савецкага пісьменніка генерал-лейтэнанта А. Ігнацьева, аўтара вядомай кнігі «Пяцьдзесят год у страі») лічыўся апекуном Усходне-Сібірскага аддзела Геаграфічнага таварыства.

** Р. М. Патанін — вядомы сібірскі літаратар, падарожнік і вучоны, выдатны дзеяч Усходне-Сібірскага аддзела таварыства.

Гэта спрашчала далейшую работу, садзейнічала папаўненню слоўніка, унясенню дадатковых звестак. Эдуард Карлавіч стаў цяпер весці запісы на асобных картках, якія можна было свабодна перамяшчаць і ўкладаць у любым патрэбным парадку.

4 мая 1888 года Усходне-Сібірскі аддзел Геаграфічнага таварыства накіраваў Пякарскаму пісьмо з просьбай даслаць першыя аркушы слоўніка. Падпісаў пісьмо Патанін. З гэтага часу ўстанавілася сувязь Пякарскага з Усходне-Сібірскім аддзелам Геаграфічнага таварыства.

Да пачатку 1890 года малады вучоны закончыў работу над першай рэдакцыяй слоўніка і выслаў ва Усходне-Сібірскі аддзел Геаграфічнага таварыства некалькі пробных аркушаў. З'явілася надзея ўбачыць у друку практычны вынік працы, якой ён аддаў восем цяжкіх год свайго жыцця.

## „НЕЛЬГА КІНУЦЬ РАБОТУ..."

У выніку палітычных ссылак 1880—1890-ых гадоў у Якуцкай губерні сканцэнтраваліся значныя інтэлектуальныя сілы. Палітычныя праследаванні і цяжкія ўмовы існавання не змаглі забіць ці спыніць настойлівае жаданне «увабраць у сябе і перадаць на волю ўражанні і назіранні над далёкім, малавывучаным краем».

Вядомы этнограф М. Азадоўскі, аўтар артыкула пра Пякарскага, пісаў, што на прыкладзе Якуціі можна найбольш выразна прасачыць значэнне той работы па вывучэнні краю, якая была праведзена «палітычнай ссылкай» наогул. Не было ніводнай галіны ў вывучэнні побыту і культуры якуцкага народа, дзе б яна не прыклала свае сілы. Прыгадаем некаторыя факты: В. Серашэўскі склаў абагульняючую манаграфію пра якутаў; Ф. Кон і І. Майноў пачалі антрапалагічныя даследаванні; С. Кавалік, У. Іёхельсон і Л. Левенталь вывучалі эканоміку краю; В. Тан-Багараз, У. Іёхельсон і В. Трашчанскі правадзілі этнаграфічныя даследаванні, а І. Худзякоў — фальклорныя; Э. Пякарскі стаў лепшым даследчыкам якуцкай мовы. У гэтым асяроддзі быў і таленавіты мастак слова У. Караленка.

Работы ссыльных мелі поспех у Якуціі. Сібірскі золатапра-

мысловец А. Сібіракоў, які акружаў мецэнацкай апекай развіццё мясцовай навукі і культуры, пісаў у канцы XIX стагоддзя, што «палітычныя ссыльныя ўяўляюць сабой нешта накшталт прымусовай экспедыцыі па даследаванню губерні, і трэба толькі ўмела выкарыстоўваць іх назіранні». Сібіракоў даваў Усходне-Сібірскаму аддзелу Геаграфічнага таварыства грошы на экспедыцыю па даследаванню побыту якутаў.

Узначальваў экспедыцыю кіраўнік спраў аддзела ссыльны народнік Дзмітрый Клеменц — чалавек з багатай біяграфіяй. Да Сібіры ён разам з С. Краўчынскім вёў рэвалюцыйную прапаганду, прымаў удзел у паўстанні герцагавінскіх славян супраць турэцкага ярма, працаваў у рэдакцыі падпольнага часопіса «Земля и воля». Арыштаваны быў па правакацыйнаму даносу агента маскоўскай ахранкі. Калі Клеменца саслалі ў Сібір, ён пачаў супрацоўнічаць з мясцовым аддзелам Геаграфічнага таварыства. Гэта быў чалавек усебаковых ведаў — геаграфіі, геалогіі, этнаграфіі, археалогіі.

У студзені 1894 года Клеменц прыбыў у Якуцк для арганізацыі экспедыцыі. Перш за ўсё ён паехаў да Пякарскага і ўгаварыў яго прыбыць у Якуцк на арганізацыйнае пасяджэнне. «Мой слоўнік якуцкай мовы,— успамінаў пазней Пякарскі,— Клеменц назваў тым канём, на якім можна будзе выехаць у тым выпадку, калі экспедыцыя не дасць чаканых вынікаў. Адзін толькі слоўнік можа пакрыць выдаткі на экспедыцыю. У гэтым сэнсе Клеменц, відаць, вёў перагаворы з Сібіраковым. Таму Сібіракоў асігнаваў на экспедыцыю 10 000 рублёў і на выданне слоўніка 2000 рублёў».

Арганізатары экспедыцыі сабраліся ў Якуцку 18 студзеня 1894 года. Праграму па даследаванню хатняга і сямейнага побыту якутаў было даручана скласці Пякарскаму. Зрабіў ён гэта разам са ссыльным І. Майновым. Як адзначыў савецкі даследчык І. Гурвіч, падрабязная праграма Пякарскага і сёння не страціла навуковага значэння пры зборы матэрыялаў аб жыцці якуцкага народа.

Пякарскі прапанаваў шукаць сярод ссыльных рэвалюцыянераў і пісьменных якутаў тых, хто хацеў бы і здолеў дапамагчы экспедыцыі. У збор этнаграфічных матэрыялаў уключыліся В. Гарыновіч, Г. Асмалоўскі, В. Іёнаў, якуты Е. Нікалаеў і Н. Сляпцоў. Народныя песні запісвалі І. Аросін, Е. Аросін і Р. Аляксандраў. Пякарскі не абмяжоўваўся лексікай свайго

слоўніка, ён збіраў звесткі аб побыце якуцкага народа і перадаваў іх членам экспедыцыі.

Уся гэта работа стала пераломным этапам у барацьбе за слоўнік. Няспыннае паступленне новага матэрыялу выклікала неабходнасць перапрацоўкі ранейшых запісаў. Першапачаткова Пякарскі вывучаў у асноўным толькі дыялект якутаў міжрэчча Амгі і Лены. Цяпер жа ён змог працаваць над лексікай іншых дыялектаў. У гэты час з Цэнтральнага аддзела Рускага геаграфічнага таварыства вучонаму перадалі якуцка-рускі слоўнік П. Парадзіна, заснаваны на заходняй, вілюйскай, гаворцы якуцкай мовы. З Усходне-Сібірскага аддзела таварыства, якое знаходзілася ў Іркуцку, прыслалі якуцкі тэкст «Верхаянскага зборніка», складзенага таленавітым этнографам І. Худзяковым, які трагічна загінуў у ссылцы. Апошняе даследаванне дало Пякарскаму магчымасць пазнаёміцца з паўночным, верхаянскім дыялектам якуцкай мовы.

Каб вывучыць і апрацаваць сабраныя ў экспедыцыі матэрыялы, спатрэбілася многа часу, і толькі 29 сакавіка 1898 года Пякарскі змог паведаміць ва Усходне-Сібірскі аддзел Геаграфічнага таварыства, што «збор матэрыялаў па слоўніку і фальклору» цалкам завершаны. У вучонага назапасілася каля 20 тысяч слоў! Рукапіс слоўніка складаўся з некалькіх тамоў. У картатэцы ж сабралася 15 тысяч картачак. Сярод фальклорных запісаў былі 26 песень, 225 загадак, 89 прыказак і прымавак.

У 1898 годзе ў Якуцку на сродкі Сібіракова слоўнік Пякарскага выйшаў у свет. Але работа не спынялася. Мэту сваіх далейшых пошукаў вучоны тлумачыў так: «Зыходзячы з той простай ісціны, што «ў мове народа найбольш поўна адлюстроўваецца яго душа», я думаў, што чым больш будзе сабрана мною якуцкіх слоў, чым больш дакладна растлумачана кожнае з іх, тым больш каштоўны матэрыял я змагу даць іншым даследчыкам для разумення «душы» якуцкага народа».

Між тым заканчваўся тэрмін ссылкі. Пасля 14-гадовага знаходжання ў Якуціі Пякарскі збіраўся вярнуцца ў еўрапейскую частку Расіі. Аднак жыццё распарадзілася інакш. 2 мая 1894 года даследчык пісаў бацьку: «Раней, чым закончыцца друкаванне слоўніка, мне няма чаго і думаць пра вяртанне на радзіму, хоць нават і будзе атрыманы на тое дазвол, бо нельга кінуць работу, якой аддадзена трынаццаць гадоў лепшай пары жыцця».

«Нельга кінуць работу...» Гэтыя словы з прыватнага пісьма як мага лепш характарызуюць тое пачуццё маральнага абавязку адказнасці за важную справу, якое Эдуард Карлавіч адчуваў у якуцкай ссылцы.

У канцы 1899 года па хадайніцтву Расійскай Акадэміі навук Пякарскаму дазволілі пасяліцца ў Якуцку. Горад узнік у 1632 годзе на правым беразе Лены, але месца аказалася нязручным, бо кожны год затаплялася, і праз дзесяць год горад перанеслі на левы бераг ракі вышэй па цячэнню. У XVII стагоддзі Якуцкі астрог стаў цэнтрам ваяводства, землі якога ўключалі і ўзбярэжжа Ахоцкага мора. Адсюль адпраўляліся рускія экспедыцыі на поўнач Усходняй Азіі, адсюль вывозілі ў Еўропу каштоўнае футра і мамантавыя косці. Да XIX стагоддзя жыхары Якуцка займаліся ў асноўным рамёствамі і гандлем. Потым гарадское жыццё ажывілася са здабычай золата (па рацэ Віцім і яе прытоках). Узбагаціўся і гандаль. Сюды прывозілі больш тавараў з Еўрапейскай Расіі; на заходнія кірмашы адпраўляліся ўжо і золата, рыба і іншыя дары лясоў і нетраў. Аднак, нягледзячы на гэта, Якуцк заставаўся правінцыяльным горадам. Сярод сямі тысяч яго жыхароў было толькі паўсотні рабочых, якія працавалі на трох цагельнях і трох папяросных фабрыках. У горадзе былі ўсяго дзве свецкія і дзве духоўныя школы.

Наш зямляк, вядомы даследчык Сібіры геолаг Ян Чэрскі, праязджаючы праз Якуцк летам 1891 года, так апісаў яго ў пісьме сталічнаму заолагу Плеске: «Уявіце гарадок, асуджаны на гібель законам, які строга забараняе рамонт узведзеных раней пабудоў, і ў вас будзе паняцце аб тым уражанні, якое фатальным чынам павінен зрабіць Якуцк на чалавека, што прыехаў з паўднёвых частак Усходняй Сібіры. Вонкавы выгляд пабудоў, якія занадта пачарнелі, здрузлі і абраслі жоўтым лішайнікам, дзіравыя дахі, нават на «Вялікай вуліцы», пакінутыя дамы без рам у пустых акенцах і без замкоў у дзвярах, нярэдка разбураныя агароджы і г. д. міжвольна кідаюцца ў вочы і прымушаюць спытаць: ці не адначасова яны пабудаваны з тым выдатным гістарычным помнікам, што ўзвышаецца тут жа, на Кафедральнай плошчы, на фоне такой жа чорнай, трохвежавай крапасной сцяны, збудаванай першымі заваёўнікамі гэтай мясцовасці?». Сцяна, пра якую ідзе гаворка ў пісьме, была рэшткамі астрога XVII стагоддзя...

Горад упрыгожваў толькі перароблены будынак ваяводскай канцылярыі — першае цаглянае збудаванне Якуцка, узведзенае яшчэ пры Пятры I.

Пра тое, як Пякарскі ўладкаваўся ў горадзе, можна меркаваць з яго пісьма да Клеменца, адпраўленага ў лютым 1900 года. «У пачатку мінулага студзеня я пераехаў у Якуцк з усёй сям'ёй*, маючы на мэце прыпісацца да якуцкіх мяшчан, знайсці сабе сякі-такі занятак і потым, атрымаўшы ад вас спрыяльны адказ, прысвяціць вольны ад гэтага занятку час апрацоўцы свайго слоўніка. Клопаты аб прыпісцы мною распачаты, занятак я знайшоў у Андрэя Інакенцьевіча**, чаго, вядома, пры мясцовай дарагоўлі на сям'ю з чатырох чалавек, нават без прыслугі, не хапае... пакуль дзейсна дапамагаю яму распрацоўваць праект «Палажэння аб іншародцах Якуцкай вобласці»... Пры такіх умовах я быў бы вымушаны шукаць іншы занятак, які даў бы магчымасць выдзяляць час на работу над слоўнікам. Асігнаванне Акадэміяй навук штогадовай дапамогі ў 400 р. выводзіць мяне з гэтага цяжкаватага стану, і я магу з гэтага часу мець надзею, што мая праца, на якую я змарнаваў свае лепшыя гады, будзе даведзена да канца і надрукавана».

У Акадэміі навук слоўніку Пякарскага прыдавалі вялікае значэнне. Строгі суддзя, акадэмік-цюрколаг Карл Германавіч Залеман прызнаў рукапіс Пякарскага «выдатнай працай, якая абяцае стаць сапраўдным укладам у навуку».

Акадэмія навук прыняла на сябе выдаткі па друкаванню слоўніка і правядзенню першай карэктуры.

Клеменц, як мог, дапамагаў Пякарскаму. З Пецярбурга, куды ён пераехаў пасля заканчэння ссылкі (у канцы 1901 г.) ён пісаў А. Папову пра Эдуарда Карлавіча: «Каменем на душы ляжыць у мяне гэты чалавек. Сорамна сказаць, грэх затаіць — да гэтага часу не магу дабіцца для яго якога-небудзь забеспячэння, каб узнікла мажлівасць яго выклікаць сюды». Нічога не змянілася і праз паўтара гады: «Вялікая розніца — чалавек у Якуцку і тут. Ці мала якая работа можа знайсціся.

---

* На гэты час у Пякарскага ўжо было двое дзяцей. Ажаніўся ён на мясцовай жыхарцы.

** Андрэй Інакенцьевіч Папоў працаваў вучоным сакратаром Якуцкага губернскага статыстычнага камітэта. У яго Пякарскі атрымліваў штомесячна 49 рублёў.

Іёхельсон і Багараз* былі не ў лепшым становішчы, пакуль не трапілі ў Пецярбург. Які вучоны выйшаў бы з яго! Тут бы яго прынялі цёпла і спагадліва, ён стаў бы цюрколагам — не раўня якому-небудзь Кетакову!».

Жыццё ў Якуцку Э. Пякарскі падрабязна характарызаваў у пісьме да мачахі Ганны Іосіфаўны (26 лютага 1902 г.): «Заняткаў у мяне шмат, больш, чым трэба браць на сябе аднаму чалавеку. Мяркуйце самі. Галоўны мой занятак, асноўны, што дае мне сродкі для існавання, гэта служба ў канцылярыі акруговага суда, дзе я працую, апрача таго, перакладчыкам з якуцкай мовы пры разглядзе крымінальных спраў, а іншы раз і грамадзянскіх; пры судзе ж я працую бібліятэкарам, там жа праз кожныя 7—8 дзён даводзіцца дзяжурыць пры прыёмцы пакетаў з пошты... У дні пасяджэнняў суда (два разы ў тыдзень), калі я прысутнічаю на іх у якасці перакладчыка, я вяртаюся дадому часам нават вечарам, а часцей за ўсё пад вечар, застаючыся, так сказаць, без абеду. Апрача таго з'яўляюся членам сельскагаспадарчага таварыства і членам яго савета, у пасяджэннях якога ўдзельнічаю кожную першую суботу кожнага месяца. Па нядзелях дзяжуру ў народнай бясплатнай бібліятэцы-чытальні з 11 да 2 г. Рэдагую і карэкцірую «Памятную книжку Якутской области», якая тут выдаецца. Удзельнічаю ў пасяджэннях, наладжаных мясцовай адміністрацыяй па пытанню аб землекарыстанні ў якутаў, а ў апошні час мне ж губернатарам было даручана скласці інструкцыю аб упарадкаванні іх землекарыстання».

За ўсё Пякарскі атрымоўваў 70—80 рублёў, якіх пры мясцовых цэнах ледзь хапала на харчаванне і вопратку. Да таго ж Акадэмія навук не заўсёды іх высылала. Таму вучонаму даводзілася брацца за пабочныя заняткі. Дапамагалі і грошы, атрыманыя ад продажу гаспадаркі ў Ігідзейцах.

Пры ўсёй занятасці Пякарскі не пакідаў працаваць над слоўнікам. Ён пісаў мачысе: «Час ад часу папаўняю і апрацоўваю свае матэрыялы для «Слоўніка якуцкай мовы». Аднак работа ішла марудна з-за недахопу неабходных дапаможнікаў. Не было магчымасці раіцца са спецыялістамі па цюркскіх мовах, якія жылі ў сталіцы.

---

* У. Іёхельсон — ссыльны рэвалюцыянер, даследчык эканомікі Якуціі. В. Тан-Багараз — ссыльны рэвалюцыянер, пісьменнік, этнограф, які вывучаў побыт чукчаў.

На працягу ўсяго часу Эдуард Карлавіч веданне жыцця якуцкага народа імкнуўся выкарыстоўваць на яго ж карысць. У пачатку 1902 года ў Якуцку адбыўся з'езд якуцкай інтэлігенцыі. На ім абмяркоўваліся правілы землекарыстання. Пякарскі апрацаваў матэрыялы з'езда і 19 лютага 1902 года яны былі выдадзены ў выглядзе інструкцыі. Адрэдагаваны ссыльным рэвалюцыянерам пераклад інструкцыі на якуцкую мову свету не ўбачыў, паколькі там, відаць, знайшлі адлюстраванне перадавыя погляды былога ссыльнага. Пра тую ж інструкцыю вучоны пазней згадваў: «Не памятаю цяпер, што, уласна, перашкодзіла губернатару тады ж яе надрукаваць. Магчыма, некаторую ролю тут адыграла супрацьдзеянне ажыццяўленню інструкцыі з боку багацейшых якутаў, якія, не абмяжоўваючыся ўсялякім супраціўленнем на месцах, у сваіх наслегах і улусах, прынеслі скаргу генерал-губернатару Усходняй Сібіры, знайшоўшы сабе хадатаяў сярод іркуцкай адвакатуры. У выніку генерал-губернатар прапанаваў якуцкаму губернатару абмежавацца толькі рэкамендацыяй больш раўнамерна размяркоўваць землі — яна была выкладзена ў інструкцыі, але не як абавязковае правіла».

Асноўнае патрабаванне інструкцыі зводзілася да размеркавання зямель пароўну паміж усімі наяўнымі душамі абодвух полаў — незалежна ад так званай «класавай сістэмы», пашыранай у якутаў.

Якуцкі тэкст інструкцыі быў апублікаваны толькі пасля рэвалюцыі 1905 года. «Нягледзячы на процідзеянне з боку багатых якутаў,— пісаў Пякарскі,— галоўныя палажэнні інструкцыі паволі ўсё ж пранікалі ў жыццё і ў многіх наслегах класы былі змешаны або нават зусім ліквідаваны. Інструкцыя пра зямельныя парадкі адыграла сваю ролю».

Хвалявалі Пякарскага і іншыя практычныя пытанні. Ён растлумачыў ў мясцовай газеце знакі якуцкага алфавіту, рэдагаваў або перакладаў інструкцыі аб заразных хваробах людзей і жывёл. Інструкцыі рассылаліся па ўсёй Якуціі.

У 1900 годзе якуцкі ўрач П. Сакольнікаў прапанаваў Эдуарду Карлавічу скласці кароткі руска-якуцкі слоўнік. Пякарскі прыцягнуў да работы В. Гарыновіча, якута С. Афанасьева і іншых. Сакольнікаў сабраў сярод якуцкай інтэлігенцыі на гэтую справу 140 рублёў. Затым Пякарскі адрэдагаваў і дапоўніў слоўнік, які вытрымаў два выданні.

Летам 1903 года Пякарскага запрасілі ўдзельнічаць у Нелькана-Аянскай экспедыцыі, якую ўзначальваў інжынер В. Папоў. Экспедыцыя павінна была даследаваць ваколіцы паселішчаў Нелькана, размешчанага на рацэ Мая, і Аяна, які знаходзіўся ў паўднёва-заходняй частцы ўзбярэжжа Ахоцкага мора. Цяпер гэтыя мясціны ўваходзяць у Хабараўскі край. Як добраму знаўцу якуцкай этнаграфіі, Эдуарду Карлавічу даручылі вывучэнне побыту эвенкаў.

Ціхім ліпеньскім вечарам вучоны адплыў з Якуцка параходам «Громаў». Перад паездкай ён уважліва прагледзеў усе работы пра эвенкаў (або, як іх часам называлі, тунгусаў), склаў для сябе размоўны слоўнік эвенкійскай мовы.

Пякарскі сустракаў эвенкаў і раней: і на шляху ў ссылку, і ў Ігідзейскім наслегу. Яны адрозніваліся ад якутаў і па знешнасці, і па характару, і па быту. Хударлявыя, сярэдняга росту, з бледна-жаўтаватым колерам скуры, эвенкі прыязджалі з тайгі ў якуцкія улусы на аленях і абменьвалі пушніну на муку. Валасы ў іх былі чорныя, вочы цёмныя, але не раскосыя, нос невялікі, вусны тоўстыя. Для эвенкаў уласцівы вялікае высакародства і шчодрасць душы.

Продкі эвенкаў (як і роднасных ім манголаў і цюркаў) калісьці жылі ў прадгор'ях Алтая і Саянаў, затым на берагах Ангары, у Прыбайкаллі. Частка «пратунгусаў» пайшла да Амура, і на поўдні ад гэтай ракі на іх аснове сфарміравалася народнасць чжурчжэняў (продкаў маньчжураў). Другая ж частка абжывала лясы вакол Байкала, рассялялася амаль па ўсёй сібірскай тайзе — ад Ахоцкага мора да Паўночнага Ледавітага акіяна і Урала. Нешматлікі народ (325 тысяч чалавек на пачатку XIX ст.) асвоіў тэрыторыю памерам каля сямі мільёнаў квадратных кіламетраў. Удалося яму гэта толькі дзякуючы яго выдатным якасцям. Эвенкі лічыліся лепшымі ляснымі паляўнічымі і следапытамі ў свеце.

З апісанняў іншых падарожнікаў Пякарскі даведаўся, што гэта стрыманы, асцярожны і непатрабавальны народ, які бескарысліва дзеліцца апошнім кавалкам. У рабоце эвенкі старанныя і здольныя.

На працягу ўсяго падарожжа Пякарскі рыхтаваўся да но-

вага даследавання. Параход плыў па Лене, яе прытоку Алдане, а затым па прытоку Алдана Маі. Праз два тыдні «Громаў» прычаліў да прыстані маленькага сяла з шасці двароў. Гэта і быў Нелькан — цэнтр Майскага ведамства тунгусаў. Далей трэба было ехаць праз горы, па таёжных сцежках. Яны вялі праз адгор'е Станавога хрыбта Джугджур, які цягнуўся паралельна ўзбярэжжу Ахоцкага мора — за семдзесят кіламетраў ад яго. Па баках вузкіх горных сцежак ззялі крутыя абрывы, глыбокія праронні, на дне якіх ляжаў снег.

Пякарскі і яго праваднік спакваля перайшлі праз Джугджур і спусціліся да Аяна. Ён размясціўся на беразе зручнай бухты. За семдзесят гадоў да гэтага бухту выявілі караблі Расійска-Амерыканскай кампаніі, што вяла ажыўлены гандаль на Алясцы і Далёкім Усходзе. Кампанія праклала караванную сцежку паміж Аянам і Нельканам, і па Маі, Алдану і Лене быў наладжаны зручны рачны шлях. Уздоўж Аяна-Нельканскай сцежкі і па Маі рассялілі сялян з Забайкалля, загадалі ім будаваць масты. Аднак у суровых прыродных умовах гэтыя масты хутка рушыліся: іх змывалі горныя патокі. Прасекі зноў зарасталі лесам, а гаці размываліся.

Найбольшы росквіт Аяна адносіўся да сярэдзіны XIX стагоддзя. У пасёлку ў той час жыло некалькі сот чалавек. Працавалі паштовая кантора, бальніца, школа, у гавань заходзілі параходы кампаніі, амерыканскія кітабойныя судны. Калі кампанія распалася, Аян апусцеў. За дзесяць гадоў да прыезду сюды Пякарскага падарожнік Я. Стафановіч так апісваў пасёлак: «Знешні выгляд Аяна сведчыць, што яшчэ нядаўна ён быў добраўпарадкаваным. Параскіданыя ў беспарадку акуратныя домікі з высокімі чырвонымі дахамі, крытымі драўлянай амерыканскай чарапіцай; стройная какетлівая цэркаўка; на беразе трывала пабудаваныя прыгожыя і ўмяшчальныя пакгаўзы».

Бальніца была ўжо зачынена, а ў пасёлку жыло ўсяго сорак чалавек...

З Аяна Пякарскі выязджаў у качэўі эвенкаў і праводзіў там падрабязныя апытанні. 20 ліпеня ён прыбыў на бераг ракі Алдомы. Сюды з'язджаліся на аленях жыхары тайгі. Праваднік Хведар растлумачыў ім, што госць прыехаў запісваць іх расказы пра жыццё. Напярэдадні першых размоў вучоны запісаў у сваім дзённіку «Ад Якуцка да Аяна і назад»:

«Доўга не мог заснуць, абдумваючы, як прыдзецца весці справу з тунгусамі, як яны мяне сустрэнуць і ці ахвотна будуць адказваць на пытанні».

На наступны дзень Пякарскі пачаставаў эвенкаў тытунем і чаем, доўга гутарыў з імі, затым зноў частаваў. Прапанаваў на тытунь і чай абмяняць для музея рэчы з хатняга ўжытку. Добрыя адносіны госця, яго ветлівасць і зычлівасць ацанілі і дарослыя і дзеці. 25 ліпеня з урасы (паходнага жытла) ад'язджаў эвенк Сафрон Вінакураў, і даследчык так запісаў у сваім дзённіку пра гэта: «Калі я развітваўся, ва урасу прыбег яго маленькі сынок і падаў мне на развітанне абедзве ручкі, тады як учора пры маім падыходзе да урасы зарумзаў...»

Вучоны пабываў на рацэ Тэймэй і востраве Уй. 19 жніўня вярнуўся на ўзбярэжжа Ахоцкага мора ў Аян і адсюль паехаў на раку Аянку. Тут яму давялося ўзняцца на вельмі высокі і круты хрыбет Аёмакіт. У дзённіку Пякарскага ёсць такі запіс: «Сцежка — суцэльны камень, востры,— аж рэжа ногі, і ад яго дрэнна засцерагаюць нават...тарбасы (эвенкійскі абутак — **В. Г.**)... Вось мы на адным узроўні з туманамі, што рассцілаюцца па вяршынях суседніх гор. Месяц ледзьледзь свеціць праз туман. Уваходзім у сферу туману, і навокал ужо нічога не відаць... Потым выйшлі з туману. Заззяў ярка месяц, акружаны ўсімі колерамі вясёлкі... Пад намі ж суцэльнае мора густога туману. Там-сям на хвіліну агаляюцца вяршыні бліжэйшых гор і зноў патанаюць у моры. Карціна самая цудоўная. Паступова ўзнімаемся да самай вяршыні. Сцежка вузкая — тут трэба быць пільным, бо конь спатыкнецца і паляціш уніз. Я ступаю з вялікай асцярожнасцю, баючыся сарвацца са сцежкі».

Рызыкаваць жыццём даводзілася часта. 30 жніўня паблізу ракі Алгагікан Пякарскі праязджаў праз пажарышча: «Ледзь прабраліся паміж нагрувашчанымі ў адным месцы стваламі дрэў, якія паваліліся ад пажару. Справа ад мяне, паабапал сцежкі, упалі два дрэвы — добра, што не ўпоперак. Конь не спалохаўся»...

Запісваць звесткі пра эвенкаў было нялёгка. Сырэла папера. Чарнілам карыстацца было нельга. Таму запісы рабіліся толькі ва урасах. Крэслаў не было, сталом служыла скрынка.

Пякарскі з цікавасцю аглядаў абсталяванне эвенкійскага жытла. Складзеная з жэрдак канічная ураса накрывалася раў-

дугай (замшай) або бяростай. Унутры да жэрдак падвешвалі сушыць вопратку і абутак. Для асвятлення жытла эвенкі выкарыстоўвалі вялікі ачаг. Калі гаспадары чакалі гасцей, у ачагу бесперапынна падтрымліваўся агонь. Старадаўнія крэмень, крэсіва і трут з ужытку выходзілі. Іх замянялі запалкі.

Справа ад уваходу, дзе было больш святла, займала месца гаспадыня. Побач з маці ў берасцяную калыску клалі дзяцей. У глыбіні урасы, на ганаровым месцы сядзелі мужчыны, госці.

Жыць ва урасе, асабліва еўрапейцу, было нязручна. «Паколькі комінаў тут не робяць,— пісаў пра жытло эвенкаў Пякарскі,— дым выходзіць праз шчыліны і ўваходную адтуліну. Унутры урасы ён часта бывае настолькі густы, што не відаць людзей, што сядзяць на другі бок ачага. Белая міткалевая тканіна, якая пакрывае урасу, цямнее да непазнавальнасці. Нават самі тунгусы з цяжкасцю пераносяць такое паветра, а нязвыкламу наведвальніку немагчыма прабыць у ім і паўгадзіны. Гэтая нязручнасць... відаць, паўплывала пры выцясненні урасы іншымі, больш зручнымі тыпамі жытла па якуцкаму і рускаму ўзорам.

Пякарскі адзначыў, што эвенкі ахвотна куплялі мыла і часта ім карысталіся. Раней жа яны для мыцця твару ўжывалі попел. У дзённіку чытаем: «Увогуле прыаянскія тунгусы трымаюць сябе даволі ахайна... Пры непралазнай жа гразі і частых дажджах у перыяд пераездаў пры першабытнасці промыслаў, непрагляднай копаці ва урасе ў зімовы час, сапраўды, нягледзячы на ўсё жаданне, цяжка захаваць чысціню».

Вучоны звярнуў увагу на маёмасную няроўнасць сярод эвенкаў. Працоўная бедната ўсё больш галела і трапляла ў залежнасць ад багатых аленяводаў. Прыгнёт асабліва адчуваўся з боку царскіх чыноўнікаў і купцоў.

Калі Пякарскі пазнаёміўся з эвенкам Хведарам Амосавым, ён адразу аднёс апошняга да заможных: у Амосава да чаю падаваліся «крупчатая ляпёшка, цукар, аленевае малако, якое чэрпалася з эмаліраванага посуду сярэбранай лыжкай; гаспадыня была ў чыстай кашулі і новых саф'янавых тарбасах».

Але зайшоўшы да старасты Васіля Карамзіна, Эдуард Карлавіч мог наглядна пераканацца ў тым, што такое «заможны». Каля абцягнутай бяззю урасы Карамзіна тоўпілася некалькі дзесяткаў аленяў. Збоку, на лужку, былі акуратна рас-

кладзены зграбныя маленькія цюкі, зробленыя з бяросты і абшытыя скурай, упрыгожанай узорыстымі нашыўкамі з чырвонага сукна або чорнага плісу. Кожны цюк быў накрыты дыванком, сшытым з рознакаляровых кавалкаў футра. Па дрэвах віселі ўпрыгожаныя буйным сінім і чырвоным бісерам і такога ж колеру стужкамі аброці. Цюкі, напоўненыя рысам, крупчаткай, чаем, посудам і вопраткай, прыкрываліся ў дождж шчыльным брызентам.

Вакол невялікага, слаба тлеючага вогнішча ва урасе змяшчалася на ноч чалавек з дзесяць. Яны падсцілалі мядзведжыя і аленевыя скуры, накрываліся байкавымі і заячымі коўдрамі. У гаспадара ж коўдра была пашыта з птушыных скурак, прыгожа абмалявана зялёнымі, шызымі і залацістымі галоўкамі. З выпадку прыезду госця з сумак дасталі эмаліраваныя чайныя кубкі, талеркі, сярэбраныя лыжкі. Як гаспадары, так і ўся чэлядзь апрануліся ў яркае святочнае адзенне, між іншым, не нацыянальнага, а мяшанага, якуцка-рускага крою. У глухой тайзе, акружанай дзікімі скаламі, уся гэта карціна рабіла ўражанне штучнасці, здавалася больш да месца на тэатральных падмостках.

Гледзячы на гэты дастатак, Пякарскі не мог не згадаць жытло бедных эвенкаў. У аднаго знаёмага, заўсёды апранутага ў рваную куртку з аленевай скуры і замшавыя штаны да каленяў, шалаш быў збудаваны з кары лістоўніцы. Паляваў ён старым ружжом або лукам. Параскіданыя па зямлі пашарпаныя і злінялыя аленевыя скуры служылі замест пасцелі. Аленяў не было. Улетку эвенк жыў рыбай і дзічынай, зімою паляваў на пушнога звера, абменьваючы пушніну на муку і чай.

Пякарскі размаўляў з эвенкамі па-якуцку, бо рускай мовы яны не ведалі.

Работа даследчыка ішла паспяхова. «У паведамленні звестак,— чытаем у дзённіку,— кожны з тунгусаў прымае пасільны ўдзел. Даючы ж звесткі, яны не кіруюцца якімі-небудзь пабочнымі меркаваннямі, не чакаюць пры апытанні ...падману ...а стараюцца праўдзіва паведаміць тое, што ад іх патрабуецца. Ніякага дакумента я ім не прад'яўляў, паводжу сябе вельмі проста. ... мне здаецца, нібыта гэтыя тунгусы дапамагаюць мне з усведамленнем важнасці маёй задачы...»

У сваіх запісах Пякарскі адзначыў, што ў эвенкаў свая родавая арганізацыя, якая іх аб'ядноўвае і згуртоўвае. У ёй

свае парадкі. На чале роду — правадыр (у рускіх дакументах яго называлі старастам), а на чале двух-трох родаў — князь. У руках старасты і князя — уся выканаўчая ўлада. Заканадаўчую ўладу ажыццяўляў агульны сход дарослых мужчын — сухлен (г. зн. «згода»). Падачай галасоў і іх большасцю выбіралі старасту. Меншасць згаджалася з большасцю. Скаргаў не было ніколі. Кандыдатамі на пасаду князя звычайна вылучалі заможных, радавітых і кемлівых эвенкаў. «Першыя дзве якасці пераважаюць над апошняй, а калі няма кандыдата, які адпавядаў бы ўсім тром патрабаванням, то выбіраюць заможнага і радавітага, хоць ён быў і прыдуркаваты»,— пісаў Пякарскі.

У абавязкі старасты ўваходзілі размеркаванне і збор падаткаў, вусны разбор скаргаў, апякунства над беднымі.

Вялікую пашану ў родзе мелі старыя. Нічога не рабілася без іх парады і згоды. Пякарскі падкрэсліваў, што эвенкі «старых шануюць; пры сустрэчах з імі ў знак пашаны падаюць дзве рукі, а не адну, як астатнім. У час перасяленняў старых даглядаюць; калі ж стары зняможа, усе спыняюцца і стаяць да таго часу, пакуль ён збярэцца з сілай».

Кожнае лета члены рода, суродзічы збіраліся на беразе багатых рыбай ракі або возера. Станавіліся ў круг і выконвалі рытуальны танец. Я. Стафановіч, што як і Пякарскі, не раз прысутнічаў на такіх святах, маляўніча апісваў танец у сваёй працы «Ад Якуцка да Аяна»: «Варта аднаму выйсці на двор і гучна крыкнуць «ходжа!»*, як збягаюцца мужчыны і жанчыны, бяруцца за рукі і, утварыўшы круг, пачынаюць з прыскокам кружыцца, вымаўляючы нараспеў невядомыя словы. Круг круціцца, то набліжаючыся да кастра, то аддаляючыся ў цемру. Некаторыя праяўляюць асаблівае захапленне, энергічна размахваючы рукамі і амаль прысядаючы да зямлі. Пачынаюць танец у этэрбесах**, але неўзабаве абутак скідваюць. Мужчыны здымаюць і верхняе адзенне, застаючыся ў кашулях і штанах, не звяртаючы ўвагі на дождж.

Склад круга часта мяняецца: адны ўваходзяць у ланцуг, другія выходзяць, прысядаючы каля кастра адпачыць або пакурыць люльку. Здаралася, што танцораў заставалася двое, ды і гэтыя ўрэшце рэшт прысядалі на траву і змаўкалі. Але

---

* Заклік да танца.
** Футраны абутак.

зноў хто-небудзь з заклікам «ходжа!» адыходзіў ад кастра і танец пачынаўся нанава».

Эвенкі не мелі пісаных законаў. Не ведалі яны паліцыі і астрогаў, у іх не было крадзяжу і іншых крымінальных злачынстваў. «Асоба, маёмасць, паляўнічая здабыча,— пісаў Я. Стафановіч,— карыстаюцца тут поўнай недатыкальнасцю і бяспекай. На сумленнасці тунгусаў, на строгім выкананні імі нічым не гарантаваных абавязацельстваў заснаваны ўсе іх здзелкі з рускімі і якуцкімі гандлярамі». Пякарскі таксама адзначыў, што «уплыў даўніны на норавы тунгусаў яшчэ моцны: сумленнасць, ветлівасць, паслухмянасць без прыніжанасці ў адносінах з чужымі, шчырасць і праўдзівасць з'яўляюцца агульнымі іх рысамі... Тунгусы свята захоўваюць абавязанасць плаціць пазыкі і без усялякіх дакументаў. Даўгі, не заплачаныя асобай, што зрабіла іх, пераходзяць на яго сыноў або нашчадкаў». Тая ж думка падкрэсліваецца ў дзённікавым запісу 22 ліпеня: «Па словах старога (Амосава), крадзяжоў тут не бывае. Здараецца часам, што хто-небудзь возьме адну-дзве юколы (вяленыя рыбіны — **В. Г.**), але за гэта не караюць — няхай есць».

Жыццё эвенкаў было прасякнута духам ўзаемадапамогі і сяброўства. Яны чула клапаціліся пра інвалідаў і сірот. Дзяцей і калек, што засталіся пасля смерці кармільца, бралі на ўтрыманне родзічы. Паводле Пякарскага, «не было яшчэ выпадку, каб тунгус загінуў з-за таго, што не атрымаў своечасовай падтрымкі»...

Бывала, што чужая сям'я выхоўвала не толькі сірот, але і дзяцей, якія мелі бацькоў, але вельмі бедных. Больш таго, сям'я, калі ёй даручалі на выхаванне дзяўчынку, яшчэ аддавала аднаго аленя. Калі дзяўчынка падрастала і пачынала дапамагаць выхавацелям па гаспадарцы, яе бацькам што-небудзь дарылі.

Эвенкі вызначаліся гасціннасцю. Любы член суполкі мог колькі захоча гасцяваць у сваіх родзічаў і знаёмых. Выпадковы падарожнік, які заходзіў у чум эвенка, ведаў, што яго і накормяць, і пакладуць спаць. Любілі эвенкі падарункі, але на іх заўсёды адказвалі «аддарункамі».

Па назіраннях Пякарскага, адной з прычын цяжкага становішча эвенкаў былі падаткі. Улады іх збіралі пры пасрэдніцтве старшын. «Выплата падаткаў, высокіх па сваіх памерах

і для сярэдняга тунгуса... асабліва цяжкая для беднякоў,— спачуваў Пякарскі.— Цяжар узмацняецца тым, што наяўных грошай у большасці тунгусаў не бывае і, калі наступае час плацяжу, даводзіцца звяртацца да тых жа гандляроў з просьбай, каб за іх заплацілі з абавязкам адпрацаваць пазыку... Не дзіва, што цяжар падаткаў нярэдка канчаткова падрываў гаспадарку тунгуса».

— Падаткі нас забіваюць! Чаму яны такія вялікія?— скардзіўся нашаму земляку эвенк Яўсей Гавузін.

Пякарскі падкрэсліваў, што «агульная нераўнамернасць і велічыня абкладання падаткамі таксама з'яўляюцца ненармальнасцю. Асноўнай яе прычынай служыць кругавая парука, якая ўскладаецца на кожны год, а таксама застылая на 10-м народным перапісе статыстыка плацельшчыкаў*... Нельга прымушаць членаў тунгускага рода расплачвацца за памёршых плацельшчыкаў, а яшчэ больш нельга ў выпадку змяншэння роду ад вялікай смяротнасці прымушаць плаціць за «мёртвыя душы», указаныя пры 10-м перапісе, садзейнічаючы далейшаму выміранню рода павышэннем памеру падатку».

Царскі ўрад імкнуўся захаваць у эвенкаў родавую сістэму і ўмацаваць аўтарытэт старасты, каб больш зручна было кіраваць. Аднак спыніць ход гісторыі нельга. У часовыя пасяленні прыязджалі купцы і прыўносілі ў жыццё эвенкаў новыя капіталістычныя адносіны. Пашыраўся гандаль. Яго вялі ў асноўным старасты і багатыя аленяводы: не ўсе сародзічы маглі прыехаць здалёку на штогадовае зборышча, таму старасты закуплялі ўсё неабходнае і затым развозілі па стойбішчах. Там яны мянялі тавары на пушніну ці раздавалі іх у крэдыт.

Значна павялічваліся перавозкі грузаў. На тракце паміж Аянам і Нельканам наладзілася так званая «чаявозка». Морам у Аян прывозілі цюкі кітайскага чаю ў брыкецiках. Таежнымі сцежкамі і горнымі перавaламі іх дастаўлялі ў Якуцк. Шлях да Нелькана быў нядоўгі — 204 вярсты, але вельмі стамляючы. Па глыбокаму снегу груз везлі на нарах. Шмат клопатаў дастаўлялі наледзі ля хуткіх горных рэчак, цвёрдая снежная скарынка, якую даводзілася прабіваць лыжамі, а таксама моцныя вятры на перавале праз Джугджур. Мяцеліцы

* Гэты перапіс быў праведзены за сорак шэсць гадоў да таго часу, як Пякарскі пабываў на Ахоцкім узбярэжжы.

затрымлівалі там возчыкаў на некалькі тыдняў. Па дарозе не хапала аленевага корму, а ў час папасаў на аленяў нападалі воўчыя зграі.

Па словах Я. Стафановіча, эвенкі спачатку адмаўляліся перавозіць чай, баючыся, што злыя духі загубяць за гэта аленяў. Але гандляры прываблівалі возчыкаў тым, што давалі наперад тавары і паляўнічыя прыпасы. Даўжнік трапляў у іх сетку і выбрацца ўжо не мог. «Калі падлічыў з гандляром доўг, то аказалася, што я павінен завезці яму чаю, каб разлічыцца; свой чалавек, як-небудзь разлічымся. Каб я ўзяў цюкі, прыбавіў мне тавараў і прыпасаў»,— расказаў Пякарскаму эвенк Інакенцій Пракоп'еў.

Карыстаючыся бязвыхадным становішчам перавозчыкаў, гандляры паступова нарошчвалі вагу грузаў без надбаўкі платы. Пры першым такім павелічэнні перавозчыкі ўзбунтаваліся. Яны разбілі скрынкі і выкінулі адтуль лішнія брыкецікі чаю. Але гандляры строга спагналі за непастаўлены груз і ўрэшце перасталі заключаць з эвенкамі кантракты. «Навошта пісаны кантракт, калі існуе кантракт галечы?.. Усё роўна б'ешся, колькі можаш, і без кантракта... Калі не вывезці цюкі, якія ты павінен па кантракту, то гандляры моцна лаюць»,— скардзіўся вучонаму эвенк Трафім Карамзін.

Пякарскі пераканаўся, што ў гэтых мясцінах «з гандляроў і багатых тунгусаў склалася энергічная кампанія, якая моцна трымала і сярэдніх і бедных тунгусаў у сваіх руках. Выгады гэтай кампаніі коратка можна выказаць у наступных лічбах: як падрадчыкі на дастаўку чаю яны атрымоўваюць трэцюю частку перавознай платы, а як гандляры, што бяруць падвойныя цэны за тавары і прыпасы,— яшчэ адну трэць перавознай платы; астатняя трэцяя частка можа быць аднесена да сапраўднай заработнай платы дробных перавозчыкаў».

Назіранні прывялі даследчыка да несуцяшальных думак: «Такім чынам, прыаянскія тунгусы — людзі заняволеныя. Поўная эканамічная залежнасць прымусіла іх цалкам падпарадкавацца ўмовам, якія ставілі ім гандляры... Патрэба ў харчах і таварах прыводзіла да закабалення і астатніх тунгусаў. Амаль не канкурыруючы паміж сабой, ведаючы, што тунгусам больш няма да каго звярнуцца, гандляры трымалі высокія цэны на тавар: у параўнанні з якуцкімі цэны ў 1903 годзе былі вышэй прыкладна на 50 працэнтаў. Некаторыя гандляры па-

вышалі цэны зусім самавольна. Забяспечыўшы тунгуса харчам і таварамі, яны станавіліся яго гаспадарамі».

Вучоны з лічбамі ў руках паказаў, як расслоілася мясцовае грамадства пад уздзеяннем капіталізму. На 56 працэнтаў беднага эвенкійскага насельніцтва даводзілася толькі 19 працэнтаў агульнага прыбытку; на 18 працэнтаў серадн якоў — 15, а на чвэрць багацеяў — ажно 66 працэнтаў усяго прыбытку. У старасты Васіля Карамзіна быў статак з чатырохсот аленяў. Для перавозкі чаю ён арандаваў аленяў у бацькі і цёткі, плацячы ім па восем рублёў за пару.

Цана на ездавых аленяў павышалася. Мець вялікі статак стала выгадна. З'явіліся сем'і, у чыіх руках былі сотні жывёлін. У выніку ўзніклі вандроўныя групы, дзе традыцыйная ўзаемадапамога цесна спалучалася з элементамі эксплуатацыі. Усім стала зразумела: без аленяў нельга заняцца выгаднай справай — перавозкай чаю.

Ацаніць магчымасці аянскіх аленяў Пякарскі змог у час паездак па адгор'ях горнага хрыбта Джугджур. Калі вучоны і яго спадарожнікі ехалі ў Аян на конях, ім даводзілася выбіраць начлег не там, дзе было суха і шмат дроў, а ў сырых мясцінах, каб можна было накарміць коней. А потым ён пабачыў, што эвенкі спыняюцца якраз на сухіх мясцінах, дзе многа ягелю (лішайніку), які служыць кормам для аленяў. Вось тут Эдуард Карлавіч і зразумеў, што алень нібы спецыяльна створаны для горнай тайгі. Гэта і сродак транспарту, і крыніца харчавання, і пастаўшчык скур. Для аленяў не трэба спецыяльна нарыхтоўваць корм і будаваць цёплы хлеў.

Аленяводства — гэтую бадай ці не самую выгадную галіну жывёлагадоўлі заснавалі эвенкі і іншыя паўночныя народы. Алені круглы год пасвіліся ў тайзе без пастухоў, без нагляду. Летам жывёла трымалася бліжэй да дымакураў, якія эвенкі разводзілі каля сваіх урасаў. «Пастухом» быў гнус — машкара. Хаваючыся ад яе, статак карміўся па начах. Восенню, з наступленнем прахалоды, гнуса рабілася менш, і тады жывёла сыцілася грыбамі. Каб алені не разыходзіліся, эвенкі прывязвалі каля чумаў алянят: аленіхі прыходзілі карміць цялят, а ўслед за самкамі цягнуліся і самцы.

Аленям трэба многа корму, таму іх уладальнікі вымушаны няспынна вандраваць. Пасля двух-трохдзённай стаянкі эвенкі перабіраюцца на новае месца. У час паездак уздоўж Джугджу-

ра Пякарскі зразумеў, у якой ступені жыццё жыхара Поўначы залежыць ад яго статку. У залежнасці ад аленевых пашаў трэба было перамяшчацца з месца на месца амаль кожны дзень. Зборы пачыналіся з самай раніцы. Мужчыны разыходзіліся ў розныя бакі збіраць статак. Адусюль чуліся дзіўныя гарлавыя крыкі: так склікалі заблуданых жывёлін. Паволі мужчыны прыганялі па некалькі аленяў і зноў ішлі — за іншымі. Жанчыны ў гэты час укладвалі урасу і хатнія рэчы. Так працягвалася да поўдня. Калі статак зганялі ў кучу, высвятлялася, што двух-трох дзесяткаў усё ж не хапае. Адны эвенкі працягвалі пошукі, другія ж пры дапамозе аркана вылоўлівалі са статка ездавых. Жанчыны прывязвалі іх да дрэва, сядлалі і ўючылі. На спіну, каля самай шыі, накладвалі так званае хонха, зробленае з дрэва або аленевых рагоў, з мяккай, абцягнутай скурай асновай. На хонха накладвалі вялікія торбы (туды ўлазіла да трох пудоў паклажы), накрывалі іх футравымі дыванкамі і перавязвалі падпругай, якая ўнізе зашпільвалася. Да кожнага аленя, асядланага пад чалавека, прывязвалі цугам некалькіх ўючных.

Нарэшце ўсё гатова да дарогі. Пяць-шэсць аленяў так і не знаходзілі, але краналіся з месца, спадзеючыся, што яны дагоняць статак.

На сёдлах спачатку размяшчалі дзяцей, побач усаджваліся дарослыя. Гэта патрабавала ўмельства, сапраўднага спрыту, бо алень не стаіць спакойна, супраціўляецца, не дае на сябе сесці. Нават калі і ўдасца скочыць на яго, ён стараецца пазбавіцца ад седака — нахіляецца набок і вырабляе розныя шалёныя рухі. Сядок, каб не зваліцца, упіраецца ў зямлю палкай, б'е жывёліну нагамі па баках, і яна вельмі хутка скараецца перад сваім лёсам.

Усё гэта вельмі цікава апісваў Пякарскі ў сваіх назіраннях. Ён прыкмеціў таксама, што страмёнаў эвенкі не ведалі, а сядло ў іх было без пярэдняй і задняй лукі, з круглай, талеркападобнай дужкай. Таму сядок не мог самкнуць калені і свабодна матляў нагамі. Мацавалася сядло ўсяго адной падпругай і лёгка пераважвалася з аднаго боку на другі. Усесці на ім неспрактыкаванаму чалавеку даволі цяжка: даводзіцца ўвесь час гайдацца адпаведна рухам жывёліны. Сядок звычайна балансаваў з дапамогай палкі, страціўшы ж раўнавагу, імкнуўся саскочыць на зямлю. Потым зноў ускок-

ваў на сядло, якое размяшчалася, як і хонха, не на спіне, а на зашыйку (у аленя вельмі нетрывалая сувязь спінных пазванкоў).

За караванам ішоў статак свабодных аленяў, якіх падганялі ззаду. На ўсім шляху чуліся крыкі мужчын і жанчын: такім чынам яны склікалі жывёлу, што разбягалася па ўзбоччы.

Збоку шэсце эвенкаў выглядала вельмі прыгожа. Гружаныя алені ішлі лёгка і хутка, грацыёзна ўзняўшы галовы з вялізнымі галінастымі рагамі. Даводзілася толькі здзіўляцца, як спрытна яны ўхітраліся не зачапіць імі ні за сукі, ні за камлі дрэў. Па купінах алені беглі з такой жа ўпэўненасцю, як і па роўнай дарозе.

Хадзілі алені па тайзе многа хутчэй за коней. Пякарскі апісвае, як Ягор Мартынаў праехаў сто вёрст за адны суткі. Праўда, палавіну дарогі ён бег побач з аленем. Па словах тунгусаў, той жа шлях на конях прыйшлося б пераадольваць чацвёра сутак.

Любімым заняткам эвенкаў было паляванне. Паводле Пякарскага, вавёрчына шкурка рэдка знаходзіла ўжытак сярод саміх паляўнічых; яна пераважна ішла «за даўгі, на ўплату дробных расходаў і ў продаж». Таму звычайна хадзілі на дзікіх аленяў, горных бараноў. Ваўкоў баяліся і не палявалі на іх. Мядзведзяў бралі на рагаціны, зайцаў здабывалі ў пасткі, лісаў труцілі на прынаду. За футра купцы давалі жалеза, посуд, упрыгожанні, чай, цукар, тытунь, порах, ружжы... Да з'яўлення ружжаў на паляванне хадзілі з лукам і стрэламі.

Калі пачалася кампанія па перавозцы чаю, паляванне адышло на другі план. Стары Іван Амосаў скардзіўся Пякарскаму: «Цяперашнія эвенкі... прызвычаіліся да перавозкі чаю, не ўмеюць і страляць з ружжаў». Далей даследчык запісаў: «Гэта фраза зусім дакладна характарызуе цяперашніх прыаянскіх тунгусаў: яны сталі батракамі гандляроў, хоць, мабыць, і больш забяспечанымі; яны адвыклі ад ранейшага вольнага жыцця паляўнічага, сталі такімі ж дрэннымі стралкамі, як і рыбакамі».

Вясной выходзілі на цюленяў. Эвенкі падпаўзалі з ружжамі па лёдзе да самых логавішчаў і стралялі. Цюленевы тлушч ішоў у ежу, а скуры — на апрацоўку: яны былі больш трывалымі, чым аленевыя. Аднак промысел на цюленяў стрымліваў-

ся тым, што ў паляўнічых былі кепскія ружжы, не ставала пораху і свінцу для куляў.

Займалася мясцовае насельніцтва і рыбнай лоўляй. Здабывалі галоўным чынам кету, гарбушу і іншую нерастовую рыбу, якая ўваходзіла ў рэкі класці ікру. Рэкі перагароджвалі сеткамі, ужывалі восці і вудачкі. У той час, калі там жыў Пякарскі, чаўны для промысла майстраваў сваім аднапляменнікам Сафрон Вінакураў.

Вандроўнаму спосабу жыцця эвенкаў адпавядала іх вопратка. Шылі яе з замшы або футра ў залежнасці ад пары года. Кароткая вопратка шчыльна прылягала да цела. Летняе адзенне і абутак упрыгожваліся вышыўкай з пацерак.

Асноўнай стравай летам была вараная без солі рыба; для прыправы ўжывалі дзікую цыбулю. У гандляроў эвенкі куплялі муку, масла, рыс. Харчаванне залежала ад поспехаў у паляванні і рыбалоўстве. Па расказах мясцовых жыхароў, Пякарскі запісаў: «Рэдкую вясну эвенкі добра зводзілі канцы з канцамі. У большасці ж выпадкаў, пасля заканчэння зімовага палявання на зверыну, пераходзячы з тайгі да рэк для заняцця рыбалоўствам, цярпелі страшэнную галечу: рыба ў рэках з'яўлялася не хутка, запасу харчоў амаль не было; пачынаўся сапраўдны голад. Вось тады эвенкі, якія мелі аленяў, выкарыстоўвалі іх, каб такім крайнім чынам выратавацца ад галоднай смерці. Для тых жа, у каго аленяў не было, складалася бязвыхаднае становішча: яны павінны былі абыходзіцца мізэрнай ежай».

Калі прыходзіў голад, харчаваліся варанай хваёвай карой, здробленай на муку. Беднякі прабаўляліся цюленевымі шкурамі, спецыяльна пакінутымі раней са слоем тлушчу (таўшчынёй з палец). Поўсць счышчалі, скуру разразалі на кавалачкі і варылі...

Тым не менш не гінулі. Трапіўшы ў бяду, эвенкі знаходзілі падтрымку ў сваіх суродзічаў. Пякарскі меў падставу ўсумніцца ў звестках аднаго даследчыка, які абапіраўся на спавядальныя запісы папоў. Той сцвярджаў, што эвенкі паволі выміраюць. Пры распытваннях аднак аказалася, што да споведзі ходзяць далёка не ўсе мясцовыя жыхары. Такім чынам наш зямляк пераканаўся, што звесткі аб выміранні недакладныя. Яны не давалі ўяўлення аб сапраўднай колькасці насельніцтва, не ўлічвалі пастаянныя перасяленні эвенкійскіх родаў.

Цікавіўся Эдуард Карлавіч і вераваннямі гэтага паўночнага народа, падрабязна запісваў расказы мясцовых жыхароў. Афіцыйна эвенкі лічыліся праваслаўнымі. У свой час спецыяльныя вайсковыя каманды сілай «пераводзілі» іх у хрысціянства. «Лоўля тунгусаў, прымусовае хрышчэнне іх разам з жонкамі і дзецьмі была нармальнай з'явай». На самай жа справе эвенкі заставаліся «язычнікамі»,—чытаем у дзённікавых запісах вучонага.

Эвенкі ўяўлялі, што ад добрых і злых духаў залежала жыццё чалавека, яго здароўе, поспех на паляванні. Верылі яны і ў тое, што асобныя людзі могуць уздзейнічаць на духаў і што такія людзі — шаманы — надзелены адпаведным талентам. Аднак, калі паявіўся чай, залежнасць ад сіл прыроды зменшылася. Гаспадаром жыцця станавіўся не таямнічы дух, а зусім рэальны падрадчык-гандляр.

З пашырэннем прыватнай уласнасці развівалася эксплуатацыя бедных суродзічаў, якія страцілі аленяў, або мала іх мелі. «Заробак, атрыманы ад перавозкі чаю, лічыцца выключна прыватнай уласнасцю працаўніка; у дачыненні да яго ў тунгусаў няма звычаю дарыць частку другому, як у старадаўніх промыслах: рыбалоўстве, звералоўстве, марскім промысле. Брацкая падтрымка, што назіралася ў тунгусаў раней... уступае месца новым, індывідуалісцкім тэндэнцыям. Працэнт багацеяў, якія вывозілі больш як 100 месц чаю, вельмі нязначны, беднякоў жа налічваецца трыццаць працэнтаў»,— запісвае вучоны. Апошнія вандравалі разам з заможнымі аленяводамі. Багаты карміў і апранаў беднага, а той выконваў найбольш цяжкую работу ў аб'яднаным аленевым статку.

Пякарскаму кідалася ў вочы тое, што наёмная праца вельмі развілася ў ваколіцах Аяна: члены трыццаці васьмі сем'яў з шасцідзесяці шасці былі работнікамі. У наёмнікі ішлі тыя, хто не меў сталай гаспадаркі — атрымаў ад бацькоў нязначную спадчыну або зусім не атрымаў яе.

Праца работніка на працягу года была самай разнастайнай: даглядаць аленяў, лавіць для гаспадара рыбу і цюленяў, хадзіць і ездзіць па розных даручэннях, высякаць жэрдкі для урасы, насіць ваду, разводзіць дымакуры, паляваць на звярыну. Жонка наёмніка даіла аленяў, шыла для сям'і гаспадара адзенне, варыла ежу, гатавала ваду для чаю, мыла бялізну, а іншы раз хадзіла нават правадніком пры гандлярах чаем.

Распытваючы эвенкаў, вучоны даведаўся, што наёмнікаў у гаспадароў затрымлівала тое ж, што і возчыкаў чаю ў купцоў: заробак выдаваўся не грашыма, а таварамі. Прытым работнікі бралі тавары ў доўг і траплялі ў кабалу. Пры разліку аказвалася, што, каб выплаціць доўг, трэба яшчэ многа працаваць на гаспадара...

Пякарскі не ідэалізаваў адмоўныя бакі штодзённага побыту эвенкаў. Ён адзначаў, што жаніцьба ў іх фактычна з'яўлялася купляй нявесты, што да жонак і дзяцей мужчыны адносіліся «не зусім гуманна», білі іх; непаўналетніх сірот браты або родзічы крыўдзілі пры падзеле маёмасці. Аднак усё гэта не засланяла вочы вучонага на тое станоўчае, што было ў эвенкійскім родавым грамадстве.

Як і ў Якуціі, Пякарскі і тут не застаўся пабочным назіральнікам: ён прапанаваў адкрыць школы, выступаў супраць вялікіх падаткаў. Вучоны нават унёс прапанову ліквідаваць кругавую паруку. У працы «Нарысы быту прыаянскіх тунгусаў» наш зямляк востра крытыкаваў дзеянні царскай адміністрацыі. «Да цяперашняга часу казна занадта мала клапацілася пра дабрабыт тунгусаў ... Мала таго, што ім даюць недастаткова прыпасаў (зброя, порах, хлеб, соль),— тунгусы скардзяцца на павышэнне казённых цэн. У доўг тавараў з казённых магазінаў ім не адпускаюць. Усё гэта робіць дапамогу казны і яе ўплыў на цэны зусім мізэрнымі», пісаў ён.

Эдуард Карлавіч паставіў перад адміністрацыяй пытанне, каб у казённых магазінах эвенкам прадавалі добрыя ружжы і па таннай цане — у растэрміноўку і ў доўг. Ён прапанаваў таксама, каб усе тавары і прыпасы, якія насельніцтва купляла ад гандляроў, прадавалі таксама ад казны — з ільготамі пры разліку.

У сваіх навуковых і папулярных працах Пякарскі пераканаўча паказаў, што прыаянскія эвенкі добра прызвычаены да суровых умоў Поўначы, што іх культура не была прымітыўнай і архаічнай, што гэты народ здольны да самастойнага існавання і развіцця. А цяжкае эканамічнае становішча эвенкаў Аянскага ўзбярэжжа Ахоцкага мора было вынікам іх безабароннасці перад эксплуататарамі. Пра ўсё гэта сведчылі прыведзеныя даследчыкам факты.

Дарэчы, метад падворнага перапісу эвенкаў, які прымяняў

у навуковых экспедыцыях Пякарскі, і цяпер лічыцца адным з самых рацыянальных метадаў вывучэння гаспадаркі асобных этнічных груп. Як сведчыць І. Гурвіч, яго шырока прымяняюць савецкія этнографы.

Сучасны даследчык ахоцкіх эвенкаў В. Тугалукаў лічыць, што з прац, прысвечаных гэтай групе жыхароў Далёкага Усходу, «самай каштоўнай ва ўсіх адносінах трэба прызнаць работу Э. К. Пякарскага». У яго апісанні «падрабязна разгледжаны пытанні, якія адносяцца да матэрыяльнай культуры ахоцкіх эвенкаў — да іх гаспадаркі, жылля, адзення, ежы. Па сутнасці, гэта адзінае апублікаванае ў друку даследаванне, якое цалкам прысвечана ахоцкім эвенкам».

Сваімі «Нарысамі быту прыаянскіх тунгусаў» Пякарскі імкнуўся абудзіць павагу да эвенкаў. Хоць яны былі далёкімі ад еўрапейскай цывілізацыі, непісьменнымі і забабоннымі, прыціснутымі галечай і эксплуатацыяй, у іх дзеяннях, паўсядзённым жыцці выразна праяўляўся прыродны розум.

Паездка ў Прыаянскі край пашырыла кругагляд вучонага, дала магчымасць папоўніць якуцка-рускі слоўнік прыкладамі і паралелямі з мовы эвенкаў.

...Адышло ў мінулае цяжкае жыццё. Эвенкі цяпер вучацца ў школах, маюць сваю пісьменнасць, жывуць у добраўпарадкаваных пасёлках, добра апранаюцца і харчуюцца. Тым больш цікава для сённяшняга чытача ўсё тое, што напісаў Пякарскі. Працы нашага земляка даюць магчымасць яскравей убачыць і лепш ацаніць тыя змены, што адбыліся на працягу ледзь не аднаго пакалення ў быце далёкага ад нас народа.

## У РАСІЙСКАЙ СТАЛІЦЫ

Работа над слоўнікам працягвалася. Але Эдуард Карлавіч добра разумеў, што без кансультацыі спецыялістаў, якія жылі за многія тысячы вёрст, у Пецярбургу, яна зацягнецца на доўгія гады.

Сябры даследчыка, якія ўжо жылі ў сталіцы, усімі сіламі стараліся дапамагчы яму. 7 красавіка 1904 года Клеменц пісаў яму: «Перш за ўсё пра Ваша перасяленне. Не ведаю, ці

дасць Вам Акадэмія, г. зн. ці зможа даць пастаянную дапамогу. Паспрабуем зрабіць гэта праз Усходні камітэт. Магчыма, ён вызначыць Вам стыпендыю рублёў 600 у год. Маючы такую падтрымку, работу рублёў на сто Вы знойдзеце. Майце на ўвазе, што ў Пецярбургу справы Вашы пойдуць у чатыры разы хутчэй; якое-небудзь сумненне, тэхнічная цяжкасць, неабходныя даведкі, нарэшце, ухвала тых асоб, думка якіх сапраўды важная, цікавасць спецыялістаў да Вашай работы — усё гэта стымулы! Трэба трохі рызыкнуць. Я пісаў ужо Вам, наколькі я зацікаўлены Вашай экспедыцыяй, і я раіў бы Вам апублікаваць Вашы дзённікі без усялякай манернасці і сарамлівасці, так як ёсць (так!), без правак, якія называюцца «апрацоўкай». Праўце пасля асобныя пытанні для манаграфіі, па частках. Ды і якая вычарпальная работа магчыма ў Якуцку!».

У 1905 годзе па хадайніцтву Акадэміі навук з Пякарскага было знята абмежаванне ў пераездах. Вядомы цюрколаг В. Радлоў і іншыя ўсходазнаўцы сталіцы, якія рэдагавалі новае, акадэмічнае, выданне яго слоўніка, дабіліся запрашэння вучонага ў Пецярбург, каб там ён змог паспяхова працаваць над слоўнікам.

2 жніўня 1905 года якуцкая грамадскасць паднесла нашаму земляку на развітанне адрас. Гэта стала фактам глыбокай павагі да стваральніка слоўніка. У адрасе гаварылася, што Пякарскі прыбыў у Якуцію чвэрць стагоддзя назад яшчэ маладым і надзвычай энергічным чалавекам. «Вядома, не па сваёй добрай волі, не для шырокай разумовай або грамадскай дзейнасці пасяліліся Вы сярод нас і выбралі нашу краіну сваёй другой радзімай. Гэта было вынікам цяжкага бюракратычнага рэжыму, які ахутаў свінцовай цемрай самасвядомасць рускага народа і звязаных з ім сваім лёсам плямён, якія пачалі абуджацца». Далей гаварылася, што натура Пякарскага, «якая прагнула бурнай дзейнасці», знайшла ў Якуціі вартую работу над слоўнікам: «Мы глыбока верым, што яна зойме належнае месца ў гісторыі нашага народа... Мы гаворым пра Вашу дзівосную па сваёй стараннасці, надзвычайную па працягласці работу па збіранню нашага фальклору і па складанню слоўніка нашай мовы, над якім Вы нястомна працавалі цэлых дваццаць чатыры гады і якому аддалі самыя лепшыя свае гады. Гэтая капітальная праца адна, не кажучы ўжо пра іншыя галіны Вашай дзейнасці сярод нас, абавязвае выказаць Вам

пры развітанні з Вамі наша шчырае і глыбокае прызнанне за Вашу працу і выказаць наша душэўнае пажаданне, каб далейшая Ваша дзейнасць на новым месцы, якая так удачна супала з будучым пераўтварэннем грамадскага і дзяржаўнага жыцця на ўсёй пра сторы Расійскай імперыі, вызваленнем ад усіх ланцугоў бюракратычнага насілля, была такой жа плённай, як і раней».

Адрас падпісалі два члены Якуцкага сельскагаспадарчага таварыства, пяць настаўнікаў, «прадстаўнік далёкіх тундраў Вілюйскай акругі» і яшчэ трыццаць тры чалавекі. У ліку тых, хто падпісаўся, быў Амосаў — у будучым, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, старшыня ЦВК Якуцкай АССР. Цікава, што ў адрасе, напісаным у 1905 годзе, царызм адкрыта называецца «цяжкім бюракратычным рэжымам», што складальнікі спадзяваліся на «будучае абнаўленне жыцця» і «вызваленне ад стальных ланцугоў бюракратычнага насілля».

У Якуціі засталіся сябры, сувязі з імі Пякарскі не парываў да канца жыцця...

6 жніўня 1905 года з борта парахода «Громаў», які назаўсёды адвозіў Пякарскага з Якуціі, даследчык пісаў свайму брату Восіпу, што ў каюце ён працягвае апрацоўваць слоўнік — ад літары «С» да «Я».

У сталіцу Пякарскі прыбыў 14 верасня 1905 года. Да 1910 года ён працаваў рэгістратарам калекцый ў этнаграфічным аддзеле Рускага музея, а з 1911 года — у Музеі антрапалогіі і этнаграфіі імя Пятра Вялікага пры Акадэміі навук.

У Пецярбургу Пякарскі пастаяннна звяртаўся за кансультацыямі да акадэмікаў В. В. Радлова і К. Г. Залемана. Яны праглядалі карэктуру кожнага ліста слоўніка, калі той рыхтаваўся да друку. Па прапанове Радлова, да якуцкіх слоў пачалі даваць паралелі з іншых моў — мангольскай, эвенкійскай.

У 1907 годзе Акадэмія навук выдала першы выпуск «Слоўніка якуцкай мовы». А герой нашага апавядання быў удастоены залатога медаля Акадэміі навук.

З 1907 па 1918 год пад рэдакцыяй Пякарскага выйшлі восем выпускаў трохтомнага выдання «Узоры народнай літаратуры якутаў». Да гэтага на якуцкай мове ўбачылі свет толькі нямногія фальклорныя творы.

«Узоры» выклікалі вялікую цікавасць сярод якуцкіх чытачоў. У гэты ж час у друку з'явіліся першыя літаратурныя

творы на якуцкай мове, і выданне Пякарскага стымулявала творчасць многіх якуцкіх паэтаў і празаікаў. Пры падрыхтоўцы выпускаў даследчык уважліва вывучыў тэксты, запісаныя часам малапісьменнымі людзьмі, і выдаў іх у стараннай навуковай апрацоўцы. Доўгі час «Узоры» былі, па словах усходазнаўцы акадэміка А. Самайловіча, адзінай значнай «публікацыяй узораў надзвычай каштоўнага ў навуковых і мастацкіх адносінах фальклору якутаў».

За «Слоўнік якуцкай мовы» і першы том «Узораў народнай літаратуры якутаў» Пякарскага ўзнагародзілі Залатым медалём Рускага геаграфічнага таварыства.

Вучоны апублікаваў таксама нямала даследаванняў па этнаграфіі якутаў, працаваў у Этнаграфічным аддзеле Рускага геаграфічнага таварыства, часопісе «Живая старина». Вядомы фалькларыст М. Азадоўскі многа гадоў пасля так успамінаў пра Пякарскага: «На працягу доўгага часу ён быў сакратаром Этнаграфічнага аддзела Рускага геаграфічнага таварыства і сакратаром часопіса «Живая старина»... Часопіс працаваў на зусім іншых асновах, чым любы навуковы орган цяпер. Ні рэдактар, ні сакратар, ні рэцэнзенты, ні члены рэдакцыйнай калегіі, ні самі супрацоўнікі не атрымоўвалі ні капейкі ганарару — усё было выключна грамадскай справай, і ў той жа час і рэдкалегія, і часопіс працавалі абсалютна бесперабойна, строга захоўваючы ўсе тэрміны і падтрымліваючы акуратна сувязь са шматлікімі супрацоўнікамі, якія былі раскіданы па ўсёй краіне».

Увесь час Пякарскі заставаўся верным сваім ранейшым прынцыпам. Неяк у лютым 1908 года ў Этнаграфічным аддзеле Геаграфічнага таварыства магістр філасофіі К. Жакаў чытаў даклад «Пра зыран» (народ комі). Дакладчык імкнуўся даказаць, нібыта мясцовая інтэлігенцыя і палітычныя ссыльныя з'яўляюцца нягоднікамі, бо вучаць зыранскіх сялян падпальваць сядзібы сваіх памешчыкаў. Лектара падтрымаў нейкі рэакцыйны настаўнік гімназіі Ш. (прозвішча яго ўстанавіць не ўдалося). Папрасіў слова Пякарскі. І хаця выступіць яму не далі, вучоны ўстаў і з месца заявіў: «Пан Ш. вёў сябе непрыстойна... Мяне пан старшыня пазбавіў слова, але ён не падумаў спыніць пана Ш., які дапусціў у сваёй прамове паклёп на інтэлігенцыю, паклёп на палітычных ссыльных... Паводзіны пана Ш. непрыстойныя ў сценах навуковага таварыства».

Вучоны неаднаразова падкрэсліваў вялікія разумовыя здольнасці і душэўныя якасці якуцкага народа, яго таленавітасць. Яны былі залогам далейшага развіцця, далучэння да вышынь сусветнай культуры. У дакладзе «Пра рассяленне якутаў па Якуцкай вобласці», прачытаным на пасяджэнні Геаграфічнага таварыства 2 лістапада 1910 года, Пякарскі на наглядных прыкладах паказаў, што «гэты здольны і таленавіты народ, які захаваў... сваю багатую мову і своеасаблівыя звычаі, распаўсюджвае сваю культуру сярод іншых народнасцей Якуціі».

Тое ж даследчык сцвярджаў у артыкуле «Качавое ці аседлае племя якуты?»: «Цяпер, па майму разуменню, у справе абароны сваёй асабістай годнасці, сваіх асабістых правоў, а таксама інтарэсаў грамадства, калі апошняе прыходзіць у сутыкненне з інтарэсамі адміністрацыі,— якуты стаяць нічуць не ніжэй і нават вышэй за рускіх сялян».

Аб тым, што Пякарскі быў актыўным змагаром за развіццё якуцкай культуры, красамоўна сведчыць запіска «Пра значэнне якуцкай мовы ў школе», складзеная ім 4 красавіка 1906 года. Яна была накіравана ў Дэпартамент народнай асветы, а копія — у Якуцк. Толькі праз дзевятнаццаць гадоў вучоны выпадкова даведаўся (ад бібліятэкара М. Вінакурава), што тая запіска была апублікавана ў першых двух нумарах новай краснаярскай газеты «Сибирские вести» (ад 21 і 25 ліпеня 1906 г.) пад загалоўкам «Значэнне якуцкай мовы ў школах (з запіскі, прадстаўленай у Дэпартамент народнай асветы)».

Запіску Пякарскі склаў у сувязі з тым, што якуцкая інтэлігенцыя якраз хадайнічала перад царскай адміністрацыяй аб адкрыцці «Таварыства распаўсюджання асветы ў Якуцкай воласці». Мясцовая адміністрацыя сустрэла праект у штыкі. Губернатар быў асабліва абураны другім параграфам праекта статуса «Таварыства», паводле якога апошняму давалася права адкрываць школы з выкладаннем на якуцкай мове. Царскі чыноўнік пагардліва меркаваў, нібыта «нікчэмныя веды, засвоеныя ў такіх школах на якуцкай мове, могуць атрымаць прымяненне выключна сярод якутаў у межах іх стойбішчаў».

Насуперак думцы губернатара Пякарскі настойваў якраз на ўвядзенні ў краі якуцкіх школ. Вучоны спасылаўся на тое, што рускія народныя і царкоўнапрыходскія школы не давалі якуцкім дзецям належнай адукацыі. «Я магу прывесці шмат

прыкладаў,— працягваў аўтар запіскі,— калі якуцкія дзеці вучыліся рускай мове на сваёй роднай мове, цудоўна засвойвалі рускую мову, гаварылі на ёй вельмі чыста, паступалі ў рэальныя вучылішчы і гімназіі і працягвалі сваю адукацыю да канца; але я павінен агаварыцца, што такія поспехі ў рускай мове былі не ў народнай школе і тым больш не ў царкоўнапрыходскіх школах, а ў прыватных настаўнікаў».

Пякарскі падкрэсліваў, што ў якуцкіх школах руская мова, бясспрэчна, павінна выкладацца як асобны прадмет. Дзякуючы гэтаму, якуты потым змогуць даць сваім дзецям сярэднюю і нават вышэйшую адукацыю. Дарэчы, многія вядомыя асобы, што падпісаліся пад пратаколам у якасці заснавальнікаў Таварыства, якраз мелі сярэднюю адукацыю.

Рэзка крытыкаваў даследчык сцвярджэнне губернатара пра беднасць якуцкай мовы і адсутнасць якуцкай літаратуры. З палемічным запалам Пякарскі пісаў пра ўласныя назіранні над якуцкай мовай. Назіранні прывялі яго да вываду, што якуты «бясспрэчна культурны народ, бо толькі такі народ можа выпрацаваць падобную мову... Паняцце літаратуры не вычэрпваецца адной толькі пісьмовай літаратурай — ёсць яшчэ літаратура вусная, прадукт народнай творчасці ў выглядзе былін, казак, песняў, замоў, прыказак, прымавак, і ў гэтым сэнсе якуты маюць досыць багатую і змястоўную літаратуру».

Смела выступіў Пякарскі супраць асімілятарскіх тэндэнцый царскіх улад. Асабліва недарэчнай здавалася яму думка губернатара і яго падначаленага — інспектара народных вучылішчаў, нібы «заснаванне школ на якуцкай мове і штучнае стварэнне якуцкай пісьменнасці, літаратуры і бібліятэк прынясе не карысць справе асветы, а хутчэй шкоду». Вучоны даказваў, што «пра штучнае стварэнне якуцкай пісьменнасці не можа быць і гаворкі, паколькі яна ўжо створана пры дапамозе тых самых рускіх школ, пра адкрыццё якіх так настойліва, але непераканаўча клапоцяцца губернатар і інспектар народных вучылішчаў... Калі б Таварыства і сапраўды мела мэтай стварэнне якуцкай літаратуры, то якім чынам гэтая задача, сапраўды звязаная з асветай, можа прынесці шкоду, а не карысць справе асветы — застаецца незразумелым...; дагаварыцца да такіх рэчаў у цяперашні час ... можна толькі ... не бачачы нічога вакол сябе. Хіба можа чалавек, які ўмее назіраць за жыццём вакол сябе, які жыве сярод такога жывога і здольна-

га народа, як якуты, сказаць, што «якуцкая мова мёртвая, за ёй няма мінулага і сучаснага, а гэта значыць, не можа быць і будучыні?» Ці разумее пан інспектар сам тое, што ён дазваляе сабе сцвярджаць у афіцыйнай паперы? Называць мёртвай такую мову, на якой гаворыць выключна ўсё насельніцтва, а яго больш за дзвесце тысяч, Якуцкай вобласці, ды мова гэта распаўсюджана далёка за межы апошняй — на ўсход, на поўдзень, на захад, будзе па меншай меры несправядліва, яшчэ больш несправядліва, што за гэтай мовай няма мінулага, таму што цюркская мова і цюркская пісьменнасць існавалі тады, калі рускія яшчэ не выступалі нават на арэну гісторыі».

Інспектар народных вучылішчаў сцвярджаў, нібыта «прайшлі сотні гадоў, а якут не пакінуў за сабой амаль ніякага следу». У адказ Пякарскі ўсклікваў: «І гэта гаворыцца адносна народа, без якога Якуцкая вобласць да гэтага часу ўяўляла б сабой абсалютна бязлюдную пустыню, які змог так прыстасавацца да суровых кліматычных умоў, што зрабіў яе даступнай для жыцця на ёй прышэльцаў, і які да гэтага часу застаецца адзіным вытворчым элементам у краі!».

Запіскі Пякарскага дапамагалі якуцкаму народу абараняць сваё права на самастойнае культурнае развіццё.

Сувязей з Якуціяй вучоны не губляў і далей. У сваіх артыкулах ён патрабаваў удасканаліць вядзенне суда ў якуцкіх улусах, крытыкаваў нераўнамернасць размеркавання зямлі сярод якутаў, захоп лепшых участкаў багацеямі. У «Живой старине» Пякарскі апублікаваў змест адной з гераічных былін у сувязі з яе пастаноўкай на сцэне ў Якуцку. Для друкарні газеты «Якутский край» ён дапамог дастаць шрыфты і абсталяванне. Потым выступаў за тое, каб друкаваць на якуцкай мове хаця б асобныя газетныя артыкулы.

Пякарскаму пісалі шматлікія сябры з Якуціі. Так, 21 мая 1906 года В. Іёнаў паведамляў пра маладзёжны рух сярод юнакоў і дзяўчат Якуцка: «Тут утварыўся саюз навучэнцаў, у які ўвайшлі гімназісткі, семінарысткі і рэалісты. Адкрылі свой клуб. Начальства закрыла і саюз, і клуб, але не задаволілася гэтым і дапякае на экзаменах былых саюзнікаў і саюзніц.

Быў утвораны «Саюз настаўнікаў». На запыт начальства Агароднікаў (адзін з якуцкіх дзеячаў — **В. Г.**) даў адказ, што «Саюз» імкнецца выключна да вучэбна-выхаваўчых мэт і ўзаемадапамогі. Тым не менш прызналі, што саюз супрацьза-

конны, і начальства яго закрыла. Агароднікаву пагражае яшчэ следства. Як адносяцца якуты да арышту камітэтчыкаў, вы, відаць, здагадваецеся і самі».

Іншы карэспандэнт Пякарскага, якут М. Говараў, 30 красавіка 1907 года пісаў, што ў «Якуцкім клубе», які адкрыўся за паўгода да гэтага, ён чытаў якуцкую казку «Чачахан», прысланую Пякарскім. На вечары прысутнічаў паліцэйскі — «на выпадак дэбатаў агітацыйнага характару, якія маглі адбыцца з нагоды прачытанага».

Прывяду таксама ўрывак з пісьма настаўніка Вілюйскага гарадскога вучылішча, датаванага 10 лістапада 1912 года: «Я захапляюся роднай паэзіяй, а гэта значыць... якуцкімі казкамі і песнямі... Вашы два выпускі (слоўніка — **В. Г.**) многа паднялі мае веды. З нецярплівасцю чакаю наступных выпускаў і малю лёс, каб ён прадоўжыў Ваша дарагое для нас жыццё і каб тым самым ён даў Вам магчымасць выдаць увесь Ваш матэрыял... У лёсе няшчаснай якуцкай народнасці Вы адыгралі важную ролю. Вы давялі да ведама вучонага свету пра такую нікчэмную народнасць, якой з'яўляюцца якуты, народнасць, закінутая кудысьці да берагоў палярнага мора».

Далей настаўнік працягвае пералік заслуг Пякарскага перад якуцкім народам: «...2) У нас не было літаратуры, а Ваш слоўнік павінен паслужыць краевугольным каменем для яе стварэння. 3) Непасрэдны і практычны сэнс слоўніка зразумелы кожнаму. Вы сапраўды заслугоўваеце, каб Вас называлі «бацькам якуцкай літаратуры». Без Вас не знайшлася б асоба, у якой хапіла б адвагі ўзяць на сябе такую велізарную працу, як Ваш слоўнік». Пісьмо падпісаў Аляксей Елісеевіч Кулакоўскі. Пасля гэты сціплы вілюйскі настаўнік стаў вядомым паэтам, класікам якуцкай літаратуры.

Настаўніца Марыя Ягораўна Мікалаева пісала вучонаму: «Ад усіх жахсогінцаў і чурапчынцаў Вам, Эдуард Карлавіч, вялікі паклон, часта ўсе ўспамінаюць Вас, усё распытваюць мяне, як жыве, і г. д.»

Іх многа, такіх пісем з Якуціі. Захоўваюцца яны сёння ў архіве Ленінградскага аддзялення Акадэміі навук.

Да апошніх сваіх дзён Пякарскі цікавіўся патрэбамі маладой культуры Якуціі, падтрымліваў сувязі з інтэлігенцыяй гэтага краю. У 1926 годзе ён паведамляў свайму даўняму карэспандэнту А. Папову: «Я бясконца радуюся, што сярод яку-

цкай інтэлігенцыі знаходзяцца людзі, якія заняліся ўсебаковым вывучэннем свайго народа».

Значную частку работы па вывучэнню якуцкай мовы і культуры Эдуард Карлавіч Пякарскі зрабіў яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Выйшла некалькі выпускаў яго слоўніка. Але закончыць гэта выданне яму ўдалося толькі пры савецкай уладзе, калі працамі даследчыка зацікавіўся ўрад Якуцкай Аўтаномнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, калі ў краі, дзе вучоны правёў доўгія гады, пачалося бурнае культурнае будаўніцтва.

## ВЫНІК ЖЫЦЦЯ

Пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ўмовы для навуковай работы карэнным чынам змяніліся, і Пякарскі больш засяроджана працаваў над слоўнікам. З радасцю даведаўся ён пра стварэнне ў складзе РСФСР Якуцкай Аўтаномнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Яе ўрад за свой кошт пачаў выдаваць наступныя выпускі слоўніка, а ў 1924 годзе прызначыў вучонаму пенсію. Старшыня Савета народных камісараў Якуціі М. Амосаў у сувязі з гэтым прыслаў вучонаму віншаванне.

Савецкія ўстановы Якуціі неаднойчы звярталіся да нашага земляка за дапамогай. Калі была створана Камісія па вывучэнню Якуцкай АССР, актыўны ўдзел у яе рабоце прымаў Эдуард Карлавіч. Па просьбе Амосава ён адшукаў і вывучыў матэрыялы дарэвалюцыйных экспедыцый, якія даследавалі глебы Якуціі. Заслугі Пякарскага грамадскасць дастойна ацаніла, выбраўшы яго ганаровым членам якуцкага навукова-даследчага таварыства «Саха-кескіле».

Выключная занятасць не давала Пякарскаму магчымасці наведвацца ў родныя мясціны. Упершыню пасля ссылкі ён пабываў там у маі 1906 года. З'ездзіў тады ў Пінск, пабачыўся з мачахай, братам Восіпам, сястрой. Родзічы яго жылі вельмі бедна, і Пякарскаму давялося прасіць акадэміка Радлова дапамагчы ўладкаваць Восіпа на службу ў акцызнае ведамства.

У 1924 годзе Пякарскі зноў надумаў пабываць у Беларусі. Францу Вікеньцьевічу Абрамовічу, сыну былога служачага ў Барбароўскім маёнтку, які з часам стаў вядомым хірургам і працаваў тады ў Мазыры, Эдуард Карлавіч паслаў пісьмо з просьбай даведацца, ці можна на лета наняць у Барбарове дачу. Пра свой намер вучоны паведаміў у снежні 1924 года былому калегу па Акадэміі навук Уладзіславу Котвічу (тады выкладчыку Львоўскага універсітэта): «Наступным летам думаю наведаць родныя мясціны на рацэ Прыпяці ў Рэчыцкім павеце, дзе я некалі, будучы гімназістам і студэнтам, праводзіў канікулы. Цягне мяне туды...»

Выконваючы просьбу, Абрамовіч з'ездзіў у Барбароў і затым адказаў Пякарскаму, што там яшчэ засталіся людзі, якія памятаюць унука старога Рамуальда,— браты Яўген і Якаў Залатарэнкі, былы садоўнік Яўстрат і кравец Нодэльман.

Эдуард Карлавіч узрадаваўся, атрымаўшы такія звесткі. Ён пісаў Абрамовічу: «Калі давядзецца вам бываць яшчэ ў Барбарове, вельмі прашу вас перадаць маё шчырае прывітанне людзям, якія мяне памятаюць, я ж памятаў выразна толькі краўца Нодэльмана, са слоў якога запісаў у дзяцінстве драматычную сцэнку пра Амана* на польска-яўрэйскім жаргоне».

Аднак мара яшчэ раз пабываць на радзіме так і засталася марай. Не хапала часу нават на перапіску. Калі якуцкі карэспандэнт папрасіў Пякарскага падзяліцца ўспамінамі пра работу ў Якуцку, вучоны адказаў: «Я вырашыў новага нічога не пісаць, бо няма на гэта часу. Слоўнік у мяне на першым плане, і мне проста цяжка цяпер адрывацца нават на перапіску з сябрамі».

Работа над асноўнай часткай слоўніка закончылася толькі ў канцы 1926 года. Былому нарадавольцу, свайму сябру па якуцкай высылцы, этнографу Іёхельсону Эдуард Карлавіч паведаміў: «29 лістапада закончыў «бясконцы слоўнік».

За 45 гадоў быў здзейснены подзвіг. Пякарскі стварыў не проста слоўнік якуцкай мовы, а сапраўдную энцыклапедыю ўсяго ўкладу жыцця народа, яго матэрыяльнай і духоўнай культуры. Сабраны і апрацаваны на працягу дзесяцігоддзяў велізарны матэрыял уяўляе сабой, як пісаў усходазнаўца

---

* Аман — біблейскі персанаж, міністр персідскага цара Артаксеркса. Сюжэт пра Амана ў літаратуры XVI—XVII стагоддзяў выкарыстоўвалі Францыск Скарына і Сімяон Полацкі.

В. Радлоў, «карціну разумовага жыцця народа, закінутага лёсам на далёкую поўнач Азіі».

У слоўніку зарэгістравана 60 000 якуцкіх слоў з усебаковай іх характарыстыкай. Пякарскі прывёў шмат звестак пра побыт, вераванні, звычаі якутаў. Тлумачачы значэнне якога-небудзь слова, ён адначасова апісваў абрады, прыкметы, бытавыя падрабязнасці (напрыклад, тэхніку вырабу якога-небудзь прадмета хатняга ўжытку). У слоўніку побач з лінгвістычнымі прыводзяцца этнаграфічныя, фальклорныя і міфалагічныя звесткі.

Заканчэнне работы над слоўнікам было адзначана грамадскасцю Ленінграда і Якуціі. 23 лістапада 1926 года ў Ленінградскім інстытуце жывых усходніх моў адбылося ўрачыстае пасяджэнне Савета цюркалагічнага семінара, прысвечанае гэтай падзеі. Прысутнічалі прадстаўнікі Акадэміі навук, Навукова-даследчага інстытута параўнальнай гісторыі літаратуры і мовы Захаду і Усходу пры Ленінградскім універсітэце, Ленінградскага аддзялення таварыства былых паліткатаржан і ссыльных пасяленцаў. Праз тры дні ўшанаванне Э. К. Пякарскага адбылося ў памяшканні Таварыства паліткатаржан. Прыйшло некалькі соцень тэлеграм — ад навуковых арганізацый і вучоных Масквы і Ленинграда, з Якуціі.

Члены праўлення Якуцкага зямляцтва ў Ленінградзе паднеслі вучонаму вершаваны адрас на якуцкай мове. Звяртаючыся да «Адубара Харылабыса» (так па-якуцку гучала імя і імя па бацьку Пякарскага), аўтары адраса пісалі: «Вы прыехалі ў нашу далёкую краіну, калі Вас лічылі злачынцам, што было няшчасцем для Вас і шчасцем для нас. У гэты выключны час Ваш слоўнік, канчаткова і поўнасцю надрукаваны, паслужыць вялікай падмогай для мовы і сахаларскай (якуцкай) літаратуры, якая толькі што нараджаецца і жывіцца з невычэрпнай крыніцы Вашага слоўніка...»

Праз чатыры гады, 1 лютага 1931 года, Пякарскі быў выбраны ганаровым членам Акадэміі навук СССР. А 21 снежня 1931 года прэзідыум Якуцкага ЦВК узнагародзіў яго граматай за «шматгадовую працу па складанню якуцкага слоўніка, які з'яўляецца каштоўным укладам у навуку для вывучэння культуры Якуціі».

Нягледзячы на выданне слоўніка, Пякарскі не спыняў збору матэрыялаў. Калі ў верасні 1930 года выйшаў у свет апошні

том слоўніка, ён пісаў у савет Таварыства па вывучэнню якуцкай мовы: «Я далёкі ад думкі лічыць слоўнік закончаным у яго цяперашнім выглядзе». Да канца жыцця вучоны назапасіў яшчэ 15 тысяч картачак з тлумачэннем якуцкіх слоў. Яны папоўнілі багатую картатэку — аснову акадэмічнага слоўніка якуцкай мовы, якая захоўваецца ў Архіве ўсходазнаўства Ленінградскага аддзялення Інстытута ўсходазнаўства АН СССР. У «Нарысе гісторыі вывучэння якуцкай мовы» А. Убратавай пра гэту картатэку гаворыцца наступнае: «Калі разбіраеш яе, кожны раз здзіўляешся таму, колькі працы, колькі павагі і любві ўнесена ў гэту грандыёзную пяцідзесяцітомную работу».

Памятаў Пякарскі і пра школу, якая насіла яго імя. Захавалася перапіска вучонага з яе вучнямі. Перад Камісіяй па вывучэнню Якуцкай АССР ён хадайнічаў аб ператварэнні школы з пачатковай у сямігадовую. Дзякуючы гэтаму ў маі 1930 года яна была перайменавана ў «школу другога канцэнтра»— так тады называлі сямігодкі. У пісьмах да Эдуарда Карлавіча школьнікі паведамлялі пра сваю вучобу, пра тое, што ў іх створаны вучнёўскі кааператыў пад назвай «Пякарац». «Дарагі наш дзядуля! Пішам мы — вашы маленькія ўнукі з далёкай Якуціі»,— так пачыналася адно з пісем, у якім школьнікі прасілі вучонага прысылаць ім свой партрэт. Якуцкім вучням савецкі вучоны завяшчаў частку сваёй бібліятэкі.

Школа імя нашага земляка і сёння існуе ў Якуціі.

29 чэрвеня 1934 года Пякарскі памёр. Некралог змясцілі многія газеты, а таксама навуковыя часопісы Савецкага Саюза, Венгрыі, Польшчы. Урад Якуцкай АССР ушанаваў памяць вучонага ўстанаўленнем дзвюх стыпендый яго імя.

Значэнне прац Пякарскага з цягам часу не змяншалася, а ўзрастала. Выпрабаванне часам вытрымаў і яго фундаментальны слоўнік. Сёння ён карыстаецца папулярнасцю не толькі ў Савецкім Саюзе, але і за мяжой. Лінгвістычнае таварыства Турцыі зрабіла пераклад слоўніка на турэцкую мову. Як ужо гаварылася, у 1945 годзе ў Стамбуле выйшла ў свет першая яго частка (на літары «А — М»).

У Эдуарда Пякарскага — дзве радзімы. Першая, Беларусь, яго ўзгадавала. Другая, Якуція, прытуліла ў цяжкую часіну жыцця. Не маючы магчымасць працаваць на карысць першай, гэты мужны чалавек прысвяціў другой сваёй радзіме дзесяткі гадоў нястомнай працы. Прысвяціў розум і сэрца.

